

Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

26 ЧЭРВЕНЯ 1998 Г. № 26/3954 КОШТ 4 000 РУБ.





# "Зялёныя святкі" ў Слуцку

"Траецкі фэст" — традыцыйнае свята Міншчыны, якое пераязджае з раёна ў раён. Пабывала яно ў Чэрвені, Уздзе, Смалявічах, Вілейцы, а сёлета прымусіла ўстурбавацца начальства Слуцка, найперш — намесніка старшыні райвыканкама П. Даўгучыца, які ўзначаліў аргкамітэт. Значную частку нагрузкі падзялілі раённы аддзел культуры (заг. І. Пісарык) і Пакрышаўскі сельскі Савет (старшыня Л. Рыбак). Фэст адбыўся на беразе Руднянскага вадасховішча, дзе звычайна святкуюць Купалле. Сам Слуцк, мабыць, сюды не дапяў (бо за 20 км), затое пашанцавала Шышчыцам і бліжэйшай вёсцы Замосце.

***Тройца, Тройца,***
***Святая Багародзіца,***
***Пасею жыта,***
***Няхай уродзіцца...***

Прамоўленыя звонкім голасам вядучай словы абрадавай песні сталі лейтматывам свята. На сцэну выйшлі персанажы Сёмухі — Сёмік і Вясна, быў таксама і зялёны Куст як сімвал абноўленага жыцця. Ад народных строяў стракацела ўваччу: адзін за адным з таблічкай — пазнакай раёна — выходзілі на луг калектывы мастацкай самадзейнасці. Вітаў удзельнікаў і гледачоў старшыня Слуцкага райвыканкама З. Ломаць, а адкрывалі — старшыня Упраўлення культуры аблвыканкама Л. Акушэвіч і старшыня Саюза народных майстроў, ён жа старшыня журы Я. Сахута.

*(Працяг на стар. 4)*



*Цяпер можна і іншых паслухаць...*



*Лаўрэат конкурсу лозаплядення Сяргей Сядун.*

# КОЛА ДЗЁН

***У Нацыянальным мастацкім музеі — выстава афортаў Гоі. Гэта культурніцкая акцыя здзейснена ў адказ на выставу беларускага жывапісу 40—70 гадоў у Іспаніі. Творчасць Гоі — гэта Іспанія, якая адной нагою яшчэ стаяла ў Сярэднявеччы, а другой асцярожна спрабавала зрабіць крок у будучыню. Гэта велізарны культурны патэнцыял і адсталая эканоміка, імперская псіхалогія і статус другараднай краіны. Іспанія часоў Гоі чымсьці нагадвае паслясавецкую Расію і звязаную з ёю саюзам Беларусь.***

## ПАМЯЦЬ ТЫДНЯ



У аўторак, 23 чэрвеня, у Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі адбылася выязная калегія Міністэрства культуры РБ, прысвечаная пытанням фармавання калекцыі музея і прапаганды выяўленчага мастацтва. Ініцыятарам гэтай справы быў дырэктар музея Уладзімір Пракапцоў, які працуе на гэтай пасадзе ўсяго некалькі месяцаў. У той жа дзень на будынку музея была адкрыта мемарыяльная шыльда ў гонар Алены Васільеўны Аладавай — заснавальніцы калекцыі музея і яго дырэктаркі на працягу трыццаці трох гадоў. Аўтары шыльды — скульптар Іван Міско і архітэктар Міхась Ткачук. Дарэчы, скульптар, які ведаў сп. Аладаву асабіста, зрабіў у знак памяці работу бясплатна. Гэта ягоны падарунак музею. На ўрачыстасці выступілі міністр культуры РБ, калегі і землякі Алены Васільеўны. І яшчэ. З 23 чэрвеня на будынку музея новая афіцыйная шыльда. Як і папярэдняя, яна з бронзы. Толькі надпіс новы. Было "Дзяржаўны мастацкі музей БССР", цяпер — "Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь".

## КНІГА ТЫДНЯ

Раман Міхася Зарэцкага "Сцежкі-дарожкі" неаднаразова перавыдаваўся — з часу яго першага з'яўлення асобнай кнігай у 1927 годзе прайшло нямала часу. За гэтыя гады, як вядома, многае змянілася ў жыцці грамадства, іншым стала наша стаўленне да шмат якіх падзей. Тым не менш, "Сцежкі-дарожкі" не састарэлі, і гэта лішняе пацвярджэнне таго, наколькі вялікім талентам (і прадчуваннем!) валодаў аўтар, праўдзіва расказаўшы пра складаны, пакутлівы шлях інтэлігенцыі ў час рэвалюцыйных узрушэнняў. Над старонкамі рамана "Сцежкі-дарожкі" і сёння ёсць аб чым паразважаць. А выпусціла гэты найбольш вядомы раман М. Зарэцкага выдавецтва "Мастацкая літаратура" ў "Школьнай бібліятэцы". Прадмову да кнігі "У абарону жыцця, у абарону чалавека" напісаў Міхась Мушынскі.

## ЗАПРАШЭННІ ТЫДНЯ

"Маэстра Анісімаў запрашае..." — гэтая рубрыка на мінскіх афішах з'яўляецца нячаста. Але канцэрты Сімфанічнага аркестра Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы і балета Беларусі пад кіраўніцтвам яго галоўнага дырыжора Аляксандра Анісімава маюць у публікі сапраўдную папулярнасць. Гэтым разам Аляксандр Анісімаў запрасіў на сустрэчу з музыкай П. Чайкоўскага і М. Рымскага-Корсакава. Незвычайнае было тое, што ў вялікай опернай зале гучаў, сярод іншага, Першы фартэпіянны канцэрт П. Чайкоўскага: саліраваў лаўрэат міжнародных конкурсаў Андрэй Сікорскі. На незвычайную музычную вечарыну запрасіў і Сімфанічны аркестр Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Беларусі пад кіраўніцтвам Анатоля Лапунова. Да 100-годдзя з дня нараджэння класіка амерыканскай музыкі, шаноўнага для шырокага культурнага свету кампазітара Джорджа Гершвіна была падрыхтавана праграма, прэзентаваная ў панядзелак наведнікам Вялікай залы сталічнай філармоніі.

## КАНЦЭРТ ТЫДНЯ

У Мінск завітаў Дзмітрый Хварастоўскі — народны артыст Расіі, які зрабіў кар'еру на Захадзе і цяпер жыве ў Лондане. Канцэрт славутага барытона адбыўся ў Нацыянальным акадэмічным тэатры оперы і балета Беларусі, таму назваць гэтае выступленне пад раяль "камерным канцэртам" ніякавата: вялікая зала, шматлікая публіка, прысутнасць прэзідэнта краіны Аляксандра Лукашэнкі... У праграме была заходнееўрапейская класіка і рамансы С. Рахманінава. Зала вітала сусветную знакамітасць. І мала хто мог успомніць пра тое, як добры дзесятак гадоў таму на сцэне Беларускай дзяржаўнай філармоніі выступалі зусім тады маладзенькія, але таленавітыя расійская оперныя зоркі, "прэзентаваныя" самой Ірынай Архіпавай. Мінчукі вылучылі з усіх удзельнікаў таго канцэрта спевака з Краснаярска: яго багаты барытон гучаў узрушальна! І належыў выбітны голас на той час "безыменнаму" нават у Расіі Дзмітрыю Хварастоўскаму...

## ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЯ ТЫДНЯ

А прайшла яна ў Маскве, а калі канкрэтней — у канферэнц-зале рэдакцыі газеты "Известия". І давала яе вядомая пісьменніца, лаўрэат агульнанацыянальнай нямецкай прэміі на лепшую палітычную кнігу года "Чарнобыльская малітва. Хроніка будучага". Аднак падставай для правядзення гэтай гаворкі слыннага майстра слова з журналістамі і прадстаўнікамі грамадскасці стала не толькі высокая ўзнагарода, атрыманая Святланай Аляксандраўнай. Да ўсяго ў маскоўскім выдавецтве "Остожье" выпушчаны Збор апавесцяў С. Алексіевіч у двух тамах, у якім сабрана ўсё лепшае, створанае аўтарам за гады творчай працы. За тры дні да прэс-канферэнцыі думкамі аб двухтомніку падзяліўся на старонках "Известий" Леў Анінскі, выступіўшы з артыкулам "Хіба ёсць што-небудзь страшнейшае за чалавека?"

## ТАЛЕРАНТНАСЦЬ ТЫДНЯ

У Гярвятах (Астравецкі раён) у касцёле Святой Тройцы адбылося свята. У ім бралі ўдзел гродзенскі біскуп Кашкевіч, віленскі арцыбіскуп Бачкус і дыпламатычныя прадстаўнікі Літвы і Польшчы. У гэты дзень у касцёле гучала летувіская, польская і беларуская мовы, бо сярод вернікаў ёсць летувісы, палякі і беларусы. Прыклад, варты пераймання.

# Указ
# Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь

*23 чэрвеня 1998 г.* *N 328*

## Аб спецыяльных прэміях і грантах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва

З мэтай стымулявання і сацыяльнай падтрымкі творчай працы дзеячаў культуры і мастацтва п а с т а н а ў л я ю:

1. Устанавіць з 1998 года для дзеячаў культуры і мастацтва:

спецыяльныя штогадовыя прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у памеры 100 мінімальных заработных плат кожная за высокія творчыя дасягненні;

гранты Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь на стварэнне твораў культуры і мастацтва.

2. Зацвердзіць прыкладаемае Палажэнне аб спецыяльных прэміях і грантах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А. ЛУКАШЭНКА**

# Палажэнне
## аб спецыяльных прэміях і грантах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва

1. Палажэнне аб спецыяльных прэміях і грантах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва (далей — спецыяльныя прэміі і гранты) зацвярджаецца з мэтай стымулявання працы творчай інтэлігенцыі, сацыяльнай падтрымкі найбольш значных праектаў і праграм у галіне культуры і мастацтва.

2. Штогод у студзені прысуджаюцца:

2.1. адзінаццаць спецыяльных прэмій за дасягненні ў галіне культуры і мастацтва ў наступных намінацыях (па адной прэміі ў кожнай):

музычнае мастацтва;
тэатральнае мастацтва;
мастацкая літаратура;
журналістыка;
кіно і тэлебачанне;
архітэктура і рэстаўрацыя;
народная творчасць;
выяўленчае мастацтва;
харэаграфічнае мастацтва;
эстрадна-цыркавое мастацтва;
крытыка і мастацтвазнаўства;

2.2. тры спецыяльныя прэміі "За ўклад у выхаванне творчай моладзі";

2.3. тры спецыяльныя прэміі "За ўклад у развіццё міжнародных культурных сувязей Рэспублікі Беларусь";

2.4. шэсць спецыяльных прэмій работнікам устаноў культуры і мастацтва за дасягненні ў эстэтычным і духоўным выхаванні беларускага народа і прапаганду духоўных каштоўнасцяў у галіне:

музейнай справы;
бібліятэчнай справы;
мастацкай самадзейнасці.

3. Кандыдатамі на атрыманне спецыяльных прэмій могуць быць дзеячы культуры і мастацтва, якія маюць асабістыя значныя дасягненні ў галіне культуры і мастацтва на працягу года, які папярэднічае прысуджэнню прэмій.

4. Вылучэнне кандыдатур на атрыманне спецыяльных прэмій ажыццяўляюць упраўленні і аддзелы культуры мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў, творчыя саюзы, іншыя грамадскія аб'яднанні, установы культуры і мастацтва, працоўныя калектывы.

5. Да 1 снежня кожнага года ў Міністэрства культуры прадстаўляюцца неабходныя для разгляду матэрыялы: творчая характарыстыка на прэтэндэнта на прэмію, копіі водгукаў у сродках масавай інфармацыі, анатацыі на творы і іншыя матэрыялы.

6. Індывідуальныя і калектыўныя гранты вылучаюцца на стварэнне твораў культуры і мастацтва.

7. Індывідуальныя гранты выкарыстоўваюцца:

кампазітарамі, мастакамі, рэжысёрамі, літаратарамі, архітэктарамі, дызайнерамі, народнымі майстрамі — на стварэнне твораў культуры і мастацтва;

дзеячамі культуры і мастацтва — на ўдзел у буйных міжнародных акцыях (конкурсах, фестывалях, выставах), на праходжанне стажыроўкі ў вядучых майстроў мастацтва Беларусі, Расіі, іншых краін.

8. Калектыўныя гранты выкарыстоўваюцца творчымі калектывамі, установамі і арганізацыямі культуры і мастацтва, творчымі саюзамі і арганізацыямі на:

ажыццяўленне буйных сцэнічных, тэлевізійных і кінематаграфічных праектаў;

фарміраванне музейных калекцый сучаснага беларускага мастацтва;

набыццё для музейных і бібліятэчных калекцый твораў мастацтва, друкаваных выданняў, іншых прадметаў, якія маюць асаблівую культурна-гістарычную каштоўнасць для Рэспублікі Беларусь;

распрацоўку архітэктурных праектаў;

распрацоўку праектаў твораў манументальнага мастацтва;

падрыхтоўку канцэртных праграм.

9. Заяўкі на атрыманне індывідуальных і калектыўных грантаў з абгрунтаваннем мастацкай значнасці праекта, планаў яго рэалізацыі, каштарысу выдаткаў па яго ажыццяўленні з хадайніцтвам установу культуры, творчых саюзаў накіроўваюцца дзеячамі культуры і мастацтва, установамі, арганізацыямі і грамадскімі аб'яднаннямі ў Міністэрства культуры.

10. Для папярэдняй ацэнкі работ прэтэндэнтаў на прэміі і гранты Міністэрства культуры да 1 верасня кожнага года стварае экспертныя камісіі і забяспечвае іх работу.

11. Кандыдатуры на прысуджэнне спецыяльных прэмій і вылучэнне грантаў з улікам заключэння экспертных камісій Міністэрства культуры абмяркоўваюцца саветам фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы культуры і мастацтва (далей — савет фонду).

12. Прапановы аб прысуджэнні спецыяльных прэмій і вылучэнні грантаў прымаюцца простай большасцю галасоў членаў савета фонду, якія прысутнічаюць на пасяджэнні. Пасяджэнне лічыцца правамоцным пры наяўнасці не менш за дзве трэціх членаў савета фонду.

13. Спіс прэтэндэнтаў на прысуджэнне спецыяльных прэмій і вылучэнне грантаў савет фонду ўносіць на разгляд Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь.

14. Індывідуальныя і калектыўныя гранты вылучаюцца на падставе дамоў сацыяльна-творчага заказу Міністэрства культуры.

15. Фізічным і юрыдычным асобам, якія атрымалі гранты на рэалізацыю праекта, выплачваецца аванс у памеры ад 50 да 75 працэнтаў сродкаў ад агульнай сумы заказу. Міністэрства культуры праводзіць канчатковы разлік на падставе заключэння савета фонду аб заканчэнні творчай работы.

16. Парадак справаздачнасці і кантроль за мэтавым выкарыстаннем сродкаў, выдаткаваных пад гранты, вызначаюцца Міністэрствам культуры.

17. Выплата спецыяльных прэмій, індывідуальных і калектыўных грантаў праводзіцца Міністэрствам культуры са сродкаў фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы культуры і мастацтва на падставе рашэння Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь аб іх прысуджэнні (вылучэнні).

*На атрыманне Дзяржаўнай прэміі Беларусі*

# Набытак навуковы і... нацыянальны

Музыка і тэатр. Два светы, дзве іпастасі быцця. Са старажытных часоў суседнічалі яны і аднойчы нарадзілі унікальную з'яву — музычны тэатр. Сярод многіх цудаў мастацтва Музыка стаіць асобна. Яе свет — віртуальны водбліск жыцця, поўны тонкіх, часам невытлумачальных адчуванняў. Тэатр жа — рэальны водбліск жыцця, ігра, пражытая на сцэне. У спалучэнні гэтых двух пачаткаў — музыка і тэатр — і крыецца "іскрынка" музычна-тэатральнага мастацтва, якая здавён прываблівае людзей як гледачоў-слухачоў. Яны, аднойчы пачуўшы оперу, аперэту ці паглядзеўшы балет, назаўсёды захаваюць у сваёй душы пачуццё радасці далучэння да мастацтва і спевакоў, танцораў, дырыжора...

Чаго ж чакае глядач-слухач, які скіраваў позірк на сцэну? Прыгажосці і захапляльнай эмоцыі, якія нясуць дабро для душы і сэрца. І менавіта музычна-тэатральны жанр, як ніякі іншы від мастацтва, уздзейнічае на нашы адчувальныя струны, бо еднасць гуку, жэсту і слова стварае жаданую для чалавека эмоцыю, абуджае яго — адгукнуцца ці то вершам, ці то спевамі, а нярэдка і танцам. Музычны тэатр — дзівосная з'ява! Сінтэз мастацтваў аказваецца той наймагутнай сілай, якую глядач-слухач не толькі адчувае, а і з якой узаемадзейнічае.

Мастацтва складанае. Сапраўднае, высокае мастацтва адчуваецца тады, калі чалавек робіцца "саўдзельнікам" спектакля. Яго не цікавіць, **як і што** адбываецца за кулісамі, якая работа зроблена, якая ўкладзена праца... А праца велізар-



# У Маладзечне гук — жывы!

Нацыянальны фестываль беларускай паэзіі і песні — насамрэч унікальная з'ява: тут царуе слова беларускае, тут царуе жывы музычны гук. Хто хацеў падстрахаваць сваё выступленне зручнайзвыклай фанаграмай, на маладзечанскую канцэртную сцэну проста не патрапіў: "Ніякіх "мінус адзін"!" — такой была ўмова натхняльніка і мастацкага кіраўніка фэсту маэстра Міхала Фінберга.

Што і як адбывалася-атрымлівалася на галоўнай фестывальнай пляцоўцы "Маладзечна-98", большасць з нас ведае дзякуючы найпростым вечаровым тэлетрансляцыям. Памяркоўная размова пра пятае нацыянальнае свята паэзіі і песні з'явіцца з часам на старонках "ЛіМа". Сёння ж мы паведамляем вынікі спаборніцтва маладых канкурсантаў, якія спявалі пад жывы акампанемент Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі і чые жывыя галасы гучалі ў "жывым" тэлеэфіры на ўсю краіну...

Спаборнікаў было без малога два дзесяткі, дыпломаў — ці не столькі ж. Таму назавём толькі лідэраў: магіляўчанка Ірына Сапяжынская адзначана дыпломам 3-й ступені, ейны зямляк Антон Ажыпа — дыпломам 2-й ступені, дыплом 1-й ступені атрымаў гарадзенец Аляксандр Зваровіч. Адмыслова адзначаны самая маладая ўдзельніца брастаўчанка Святлана Вежнавец (прыз "Надзея") ды Юлія Ляванычава з Віцебска (прыз глядацкіх сімпатый). Уладальніцай Гран-пры "Маладзечна-98" стала юная салістка Дзяржаўнага маладзёжнага тэатра эстрады мінчанка Вікторыя Алешка.

**С. Б.**



*Вікторыя АЛЕШКА атрымлівае Гран-пры з рук старшыні журы — кампазітара Валерыя ІВАНОВА.*



*Народны артыст Беларусі Міхал Фінберг.*

*Фота А. Прупаса і БЕЛТА*

АБСЯГІ

*ГОМЕЛЬ...*

## Палеская песня Гаўрылы Вашчанкі

Гэтымі днямі ў Гомелі народны мастак Беларусі Гаўрыла Вашчанка адзначыў 70-годдзе з дня нараджэння. Нарадзіўся ён у вёсцы Чыкалавічы Брагінскага раёна. Уславіў гэты край у творах "Балада пра мужнасць", "Дзядзька Алесь", "Яблынька", "Жнівень", "Матчыны крылы", "Палеская песня"... У дзень свайго нараджэння Вашчанка адкрыў у мастацкім аддзеле абласнога краязнаўчага музея персанальную выставу. У сувязі са знамянальнай падзеяй у жыцці мастака віншаванне Вашчанку прыслаў Прэзідэнт Беларусі А. Лукашэнка, якое зачытаў старшыня Гомельскага выканкама М. Вайцянкоў. Віншаванні ў адрас юбіляра паступілі таксама ад Міністэрства культуры Беларусі і Акадэміі мастацтваў рэспублікі.

## І вітражы, і карціны

Член Беларускага Саюза мастакоў Мікалай Бандарчук нарадзіўся ў Лельчыцкім раёне (вёска Сярэднія Печы). Пасля заканчэння Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута (зараз Акадэмія мастацтваў) едзе ў Гродна. Там працуе ў мастацка-вытворчых майстэрнях, затым — на пасадзе прафесара кафедры выяўленчага мастацтва Гродзенскага дзяржуніверсітэта імя Я. Купалы. Мастак распрацаваў і выканаў на аб'ектах горада 30 вітражоў. Акрамя манументальна-дэкаратыўнага мастацтва займаецца Бандарчук станковым жывапісам. Яго карціны разам з работамі вядомых мастакоў Беларусі прадстаўлялі наша мастацтва на буйных міжнародных, замежных і ўсесаюзных выставах. Зараз у зале абласной арганізацыі Саюза мастакоў працуе персанальная выстава Мікалая Трафімавіча. Сваім землякам ён паказвае карціны "Вялікая вада", "Полымя восені", "Святло чорнага месяца", "Свежы вецер"...

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

*МАГІЛЁЎ...*

## Месца для Еўфрасінні

Драўляная жаночая постаць з крыжам у руках, якая сімвалізуе заступніцу зямлі беларускай Еўфрасінню Полацкую і створана ў час правядзення міжнароднага пленэру па скульптуры, доўгі час стаяла ў скверы ля абласнога мастацкага музея. Летась, калі ў скверы адкрылі бюст народнаму мастаку Беларусі Паўлу Масленікаву, ёй ніяк не маглі знайсці месца ў горадзе. Але з нагоды 825-годдзя з дня смерці Еўфрасінні Полацкай скульптура ўрэшце атрымала прапіску — на Архірэйскім вале побач з сімвалічным крыжам Георгію Каніскаму.

## Жыве музей надзеямі

Рашэнне аб стварэнні музея гісторыі Магілёва было прынята яшчэ ў 1990 годзе. Але непасрэдныя заходы па яго арганізацыі пачаліся адносна нядаўна. Пры дапамозе добраахвотных памочнікаў музейныя супрацоўнікі сабралі больш за 9000 экспанатаў, так альбо інакш звязаных з гісторыяй горада. З 1994 па 1997 год арганізавана 23 выставы (у тым ліку адна за мяжой — у Славакіі). У планах музея — выданне некалькіх кніг, стварэнне экспазіцыі па гісторыі абласнога цэнтра. Але ажыццяўленню планаў замінае недахоп сродкаў. Менавіта ён не дазваляе завяршыць рэстаўрацыйныя работы музейнага памяшкання па вуліцы Ленінскай, 13, аплаціць выданне кніг. Аднак музей жыве і працуе надзеямі на лепшае.

## На падтрымку дзіцячых дамоў

У абласным палацы школьнікаў прайшла дабрачынная выстава-продаж дзіцячых малюнкаў. Свае майстэрства дэманстравалі выхаванцы магілёўскага і круглянскага дзіцячых дамоў, асацыяцыя дзяцей-інвалідаў "Воля", ізастудыя Палаца школьнікаў. Грошы, атрыманыя ў выніку гэтай акцыі, былі пералічаны на рахункі названых арганізацый. Нагадаем, што выставу правялі гаркам БПСМ, часопіс "Чацвер", магілёўскі філіял фірмы "Кодак" і СП "Белая Вежа".

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

*БРЭСТ...*

## З прадмоваю слыннага крытыка

Літаратурная серыя "Берасцейскае вогнішча", задуманая незалежным выдавецтвам "Шлях" і абласным аддзяленнем СП, нядаўна папоўнілася кнігаю прозы. Яе аўтар — настаўнік з пасёлка Мухавец Брэсцкага раёна Аляксей Філатаў. У кнігу ўвайшлі тры аповесці, аб'яднаныя адной сюжэтнай лініяй і складанымі лёсамі галоўных герояў — вяскоўцаў-палешукоў, што прайшлі выпрабаванні дзвюма сусветнымі войнамі і сталінскай калектывізацыяй. Прадмову да зборніка "Дарога" (назва дадзена паводле аднайменнай аповесці) 5-6 гадоў назад напісаў Уладзімір Калеснік, якога многія берасцейцы з гонарам лічаць сваім настаўнікам. Прэм'ера кнігі неўзабаве адбудзецца ў Мухаўцы і Маларыце (саўгас "Мухавецкі" і Маларыцкі райвыканкам — фундатары выдання).

## У Іванаве ставяць оперу

Тры гады назад у сярэдняй школе N 4 горада Іванава з ініцыятывы яе дырэктара Рыгора Сыраваткі і педагога, кампазітара Валянціна Перапёлкіна ўзнік дзіцячы музычны тэатр, у склад яго ўвайшлі вучні музычнага аддзялення. Нядаўна тэатру было нададзена званне ўзорнага — за спектаклі паводле казкі Г.-Х. Андэрсана "Снежная каралева", рускай народнай казкі "Воўк і сямёра казлянят", казкі Н. Мацяш "Краіна Белы Свет" і інш. З імі юныя артысты выступалі як у роднай школе, так і ў іншых школах горада і раёна, а таксама перад працоўнымі калектывамі. Асабліва папулярнаю стала "Снежная каралева", паказаная гледачам ужо каля 20 разоў.

Цяпер узорны музычны тэатр рыхтуе оперу "Пустэльнік і ружа" паводле твора Б. Заходзера. Музыку да яе, як і да ўсіх ранейшых спектакляў, напісаў В. Перапёлкін. Варта сказаць, што арганізатары тэатра працуюць пакуль што на грамадскіх пачатках, аднак на новы навучальны год заручыліся фінансавай падтрымкай Іванаўскага райвыканкама. Будзе ўведзена адзінка рэжысёра-пастаноўшчыка, і перад самадзейнымі артыстамі адкрыюцца новыя магчымасці.

**Сымон АКСЕНІН**

ная! Невыпадкова тэатральныя спектаклі рыхтуюцца да пастаноўкі доўга. Кампазітар піша музычную драматургію, стварае музычную драматургію, рэжысёр, дырыжор, хормайстар, спевакі "расшыфроўваюць" партытуру, увасабляючы задуму кампазітара на сцэне. Пры гэтым кожны з удзельнікаў спектакля прыходзіць са сваім бачаннем цэлага, аднак канчатковым вынікам з'яўляецца адна-адзіная мастацкая ідэя, якая аб'ядноўвае ўсіх і ўсё.

Пра ўсё гэта — пра гіганцкую працу музыкантаў, танцораў, сцэнографаў — расказваюць тры кнігі "Музычны тэатр Беларусі", якія ахопліваюць 60-гадовы перыяд развіцця нацыянальнага сцэнічнага мастацтва. Кнігі напісаны акадэмічнымі работнікамі —Г. Куляшовай, Ю.Чурко, Т.Мдзівані, Н. Юўчанка, Л. Пятровай і Т. Дубковай — і гэта адчуваецца ва ўсім: у глыбіні асэнсавання мастацкіх працэсаў, што адбываліся на Беларусі, у грунтоўнасці аналізу опер, балетаў нацыянальных кампазітараў розных пакаленняў. У полі зроку асноўных аўтараў гэтага фундаментальнага даследавання знаходзіцца сцэнічная творчасць і 20—40-х гадоў, і пасляваеннага, і сучаснага перыядаў. Дзякуючы тонкаму густу, інтэлекту і эрудыцыі аўтараў, кнігі ўяўляюць сабой "кансорцыум" ведаў: лагічна выведзены агульнаэстэтычныя і вузкапрафесійныя тэндэнцыі, дадзены аналіз музычнага тэатра ў часе, аргументаваны тэзіс "беларускі музычны тэатр" і ахарактарызаваны яго рысы. Не дзіўна, што ўсё асэнсаванае і прааналізаванае звязана ў адзіную лінію пераемнасці. Намечаныя перспектывы ў галіне беларускага музычнага тэатра ўжо знайшлі пацвярджэнне ў 90-я гады.

Не магу не адзначыць, што акцэнт (і гэта правільна), зроблены на факце самабытнасці ўласна музычна-тэатральнага мастацтва, дагэтуль нідзе не "прагучаў". А шкада! Аўтары "Музычнага тэатра" даказалі, што беларуская ніва дала россып талентаў, якія адчуваюць Беларусь "знутры" і таму так плённа працуюць у галіне прафесійнага мастацтва. Пры ўсім тым варта адзначыць і глыбокае разуменне аўтарамі сутнасці музычна-тэатральнай справы не толькі ў нашай краіне, але і ў Расіі, на Украіне і ў іншых рэспубліках былога СССР.

Можна было б яшчэ шмат гаварыць добрых слоў пра гэтае унікальнае і рэдкае даследаванне (бо ў свеце нічога падобнага не існуе!!!). Адно несумненна: удача работнікаў Акадэміі навук Беларусі—удача навуковая і... нацыянальная. Гэтай працай унесены неацэнны ўклад у беларускую навуку.

**Віктар РОЎДА,**
**народны артыст СССР, лаўрэат Дзяржаўных прэмій, акадэмік**

## Экалогія — гэта актуальна

**"Экалогіі дзверы адкрытыя" — так называўся конкурс, які праводзіла Слуцкая прыродаахоўная інспекцыя сумесна з бібліятэкамі горада і раёна. На конкурс былі прадстаўлены малюнкі, вырабы з дрэва, вершаваныя і празаічныя творы. З поспехам можна павіншаваць бібліятэку вёскі Замосце (загадчыца Любоў Фрэйтак): і першае, і другое месца занялі мясцовыя школьніцы.**

**Бібліятэка стала асяродкам экалагічнага выхавання дзяцей, пры ёй існуе аматарскае аб'яднанне юных натуралістаў. Каторы год сумесна са школай праводзіцца Дзень птушак. Абмеркаваны кнігі "Паляванне на апошняга жураўля" Алеся Жука і "Як зязюля дзетак шукала" Івана Галубовіча.**

**Г. З.**

## Стварае народ



**Абласная выстава народнага і аматарскага мастацтва ў рамках І Рэспубліканскага фестывалю "Беларусь — мая песня" адкрылася ў Віцебску. Удзельнікамі яе сталі майстры разьбы па дрэве, ткацтва, вышыўкі. Усяго выстава сабрала каля 500 экспанатаў.**

*На здымку: на выставе ў абласным краязнаўчым музеі.*

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

## Малітвы і вершы ў памяць святой

**Імпрэза, прысвечаная прападобнай ігуменні Еўфрасінні, асветніцы і заступніцы Беларусі, прайшла ў Літаратурным музеі Янкі Купалы. Магчыма, настройкаю на велічнавусцішны лад стала выкананне беларускіх народных і царкоўных песень. У памяць аб Еўфрасінні Полацкай было праведзена невялікае набажэнства. Шчыра і прачула выказаў свой погляд на дачку беларускага народа святар з Кафедральнага Свята-Духава сабора а. Сергій. Вядучая вечарыны, пісьменніца Валянціна Коўтун, нагадала прысутным пра асноўныя факты з біяграфіі беларускай ігуменні.**

**Цікавымі былі развагі драматурга Алеся Петрашкевіча пра святыню нашага народа — Крыж працы Лазара Богшы, які падчас вайны знік з Беларусі. Бясследна? Ці спаўняюцца закляцці, выбітыя на Крыжы: "Няшчасці чакаюць таго, хто выкрадзе яго"? Казалі, што рэліквія звезена ў ЗША, цяпер не адмаўляюць версіі, што ён — у Расіі. Не выключана, што мы можам пабачыць слаўнае і цудоўнае вяртанне Крыжа ў Беларусь...**

**Падчас вечарыны прайшло і прадстаўленне чарговага выпуску зборніка гістарычнай літаратуры "Бацькаўшчына". Яе ўкладальнік Сяргей Панізнік назваў том "Кнігай Прадславы", бо ён цалкам прысвечаны гэтай выдатнай жанчыне: тут старыя летапісы, вершы, апавяданні, навукова-папулярныя творы. Выступілі таксама Сяргей Законнікаў, Людміла Рублеўская і Ала Канапелька. Прысутныя мелі добрую магчымасць сустрэцца і паразмаўляць і з аўтарамі зборніка, і з яго ўкладальнікам.**

**Уладзімір ПУЧЫНСКІ**

## Жальбіны па Купалу

**У нядзелю, 28 чэрвеня — чарговыя жальбіны. Спаўняецца 56 гадоў, як трагічна загінуў Янка Купала. Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы запрашае ўшанаваць памяць Паэта-Прарока, дзяржаватворцы Бацькаўшчыны.**

**Служба ў касцёле святых Алены і Сымона пачнецца ў 11 гадзін, а 13-й гадзіне — ускладанне кветак да магілы Івана Дамінікавіча на Вайсковых могілках.**

# Прыняты ў Саюз пісьменнікаў

АСТРАВЕЦ Сяргей (АСТРАЎЦОЎ Сяргей Аляксандравіч). Нарадзіўся ў 1959 годзе ў Мінску. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт (1984). Карэспандэнт газеты "Навіны" па Гродзеншчыне.
Літаратурную працу пачаў у 1988 годзе.
Аўтар кнігі прозы "Янычары" (1993), шматлікіх публікацый у перыёдыцы.

БАРЫСЕНКА Уладзімір Уладзіміравіч. Нарадзіўся ў 1949 годзе ў вёсцы Якаўлевічы Аршанскага раёна. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт (1975). Рэдактар аддзела рэдакцыі газеты "Белорусская нива".
Літаратурную працу пачаў у 1969 годзе.
Аўтар дакументальнай кнігі "Прапісаны на гэтай зямлі" (1978), паэтычных зборнікаў "Рэйкі лёсу" (1994), "Запаленне душы" (1996), публікацый у перыёдыцы.

БЕЛЬСКІ Алесь (Аляксандр Іванавіч). Як празаік друкуецца пад псеўданімам Алесь ВЕТАХ. Нарадзіўся ў 1963 годзе ў вёсцы Цімкавічы Капыльскага раёна. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт (1986), аспірантуру і дактарантуру. Выкладчык БДУ.
Літаратурную працу пачаў у 1984 годзе.
Аўтар кніг "Ружовая знічка" (1994), "Пакуль баліць душа" (1995) і іншых, публікацый у калектыўным зборніку "Карані" (1994). Часта выступае з літаратурна-крытычнымі і празаічнымі творамі ў перыёдыцы. Уклаў "Творы" Я. Журбы і зборнік "Зорка палын".

БЕЛЫ Анатоль Яўхімавіч. Нарадзіўся ў 1939 годзе ў горадзе Старыя Дарогі. Скончыў Якуцкі дзяржаўны універсітэт (1967). Выкладчык БДУ.
Літаратурную працу пачаў у 1984 годзе.
Аўтар-складальнік кніг "Спадчына "Спадчыны" (1994), "Скрыжалі "Спадчыны" (1996), "Уладары старажытнай Беларусі" (1996) і іншых, шматлікіх артыкулаў, змешчаных у перыёдыцы і на старонках часопіса "Полацак" (Кліўленд, ЗША).

КАРЛЮКЕВІЧ Алесь (Аляксандр Мікалаевіч). Нарадзіўся ў 1964 годзе ў вёсцы Здзітава Слабада Пухавіцкага раёна. Скончыў аддзяленне журналістыкі Львоўскага вышэйшага ваенна-палітычнага вучылішча (1985). Загадчык аддзела газеты "Звязда".
Літаратурную працу пачаў у 1977 годзе.
Аўтар кніг "Вяртанне да... Беларусі" (1994), "За Цітаўкаю — Слабада" (1997), шматлікіх рэцэнзій, літаратурна-крытычных і гісторыка-краязнаўчых артыкулаў у перыёдыцы. Перакладае з туркменскай мовы на беларускую і з беларускай на рускую.

КОНЕЎ Ягор Фёдаравіч. Нарадзіўся ў 1970 годзе ў Мінску. Вучыўся ў Мінскім інстытуце культуры. Працуе ў рэдакцыі часопіса "Бярозка".
Літаратурную працу пачаў у 1989 годзе.
Аўтар кніг прозы "Вартавыя" (1995). Выступае з публіцыстычнымі артыкуламі ў друку.

ЛОКУН Валянціна Іванаўна. Нарадзілася ў 1946 годзе ў вёсцы Цепянец Пінскага раёна. Скончыла Брэцкі педагагічны інстытут (1971). Старшы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.
Літаратурную працу пачала ў 1973 годзе.
Аўтар кніг літаратурна-крытычных артыкулаў "Да новых вышынь" (1991), "Маральна-філасофскія пошукі беларускай ваеннай і гістарычнай прозы 50—60 гадоў" (1995), артыкулаў у перыёдыцы.

НЕДАВОДЗІН Рычард Міхайлавіч. Нарадзіўся ў 1947 годзе ў вёсцы Нізнае Стаўбцоўскага раёна. Скончыў Маскоўскі механіка-тэхналагічны тэхнікум (1975) і Літаратурны інстытут імя А. М. Горкага (1986).
Літаратурную працу пачаў у 1976 годзе.
Аўтар кніг паэзіі "Тяжелая вода" (1986), "Свидание с Богом" (1996) і "Камяні вопыту" (1995), публікацый у перыёдыцы.

ПЕХЦЕРАЎ Іван Ягоравіч. Нарадзіўся ў 1938 годзе ў вёсцы Недзвядзь Клімавіцкага раёна. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт (1960). Галоўны рэдактар Магілёўскага абласнога Цэнтра народнай творчасці.
Літаратурную працу пачаў з 1954 года.
Аўтар кнігі "Добрыми глазами" (1994), публікацый у перыёдыцы.

САКОВІЧ Павел Паўлавіч. Нарадзіўся ў 1941 годзе ў горадзе Орша. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт (1965). Працуе ў рэдакцыі часопіса "Полымя".
Літаратурную працу пачаў у 1967 годзе.
Аўтар кніг сатыры і гумару "Калючы серпанцін" (1978), "Як я жонцы спадабаўся" (1983), "За матчыным часам" (1989), "Эпіграмы як рэкламы" (1987). Выступае з пародыямі, эпіграмамі, гумарэскамі ў перыёдыцы.

СТРАМКОЎСКАЯ Вера Валянцінаўна. Нарадзілася ў 1958 годзе ў горадзе Энгельсе Саратаўскай вобласці (Расія). Скончыла Беларускі дзяржаўны універсітэт (1980). Займаецца адвакацкай дзейнасцю.
Літаратурную працу пачала ў 1980 годзе.
Аўтар кнігі паэзіі "Формула счастья" (1997).

СТРЫГАЛЁЎ Аляксандр Міхайлавіч. Нарадзіўся ў 1968 годзе ў горадзе Пермі (Расія). Скончыў Літаратурны інстытут імя А. М. Горкага (1994).
Літаратурную працу пачаў у 1980 годзе.
Выступае як паэт і перакладчык.

УГРЫНОВІЧ Вольга (УГРЫНОВІЧ-КАМІНСКАЯ Вольга Уладзіміраўна). Нарадзілася ў 1972 годзе ў Мінску. Скончыла Беларускую акадэмію мастацтваў (1995). Выкладчык школы-ліцэя N 26 г. Мінска.
Літаратурную працу пачала ў 1990 годзе.
Аўтар кнігі паэзіі "Сусвет на далоні" (1995).

ШЭЛЕГ Любоў Валянцінаўна. Нарадзілася ў 1953 годзе ў Мінску. Скончыла Беларускі дзяржаўны універсітэт (1980). Адказны сакратар літаратурна-драматычнай рэдакцыі рэспубліканскага радыё.
Літаратурную працу пачала ў 1977 годзе.
Аўтар кнігі паэзіі "Ромашковое поле" (1995), публікацый у перыёдыцы.

# "Зялёныя святкі" ў Слуцку

*(Працяг. Пачатак на стар. 1)*

Журы спатрэбілася не для артыстаў (а сюды прыехала звыш 20-ці фальклорных калектываў Мінскай вобласці), а для майстроў лозаплялення. Пакуль гучалі песні з летняй сцэны, умельцы ўвасаблялі задуманае. Хто плёў зручны кош, хто кораб, хто талеркі і вазы. Матэрыялам для пляцення, дарэчы, служыць не толькі лаза, але і лучына, корань, лыка, чарот. Любоў Гуцава з Селішча ўдзельнічала ў конкурсе разам з сынам Іосіфам. Сама яна родам з Гомеля, там і замуж выйшла. Трапіла ў сям'ю, дзе свёкар славіўся вырабамі з лазы, а дапамагалі яму сямёра дзяцей. Пераехаўшы з мужам на Случчыну, Любоў Гаўрылаўна прывезла з сабой і сямейны занятак. У яе вучацца не толькі дзеці-гурткоўцы, але і культработнікі раёна.

Цікавы лёс у Аляксандра Бурага, што з Вілейчыны. Сам ён інжынер-лётчык, служыў у Расіі. Прыехаўшы пасля адстаўкі ў вёску бабулі, будуе свой дом. Палюбіў лазу яшчэ як самалёты ганяў з Астрахані ў Мачулішчы. Па выніках конкурсу стаў лаўрэатам у спаборніцтве на хуткасць: дзве прыгожыя талеркі сплёў за гадзіну. Па якасці не было лепшых за Сяргея Сядуна з Любані. Кожны, хто трымаў у руках яго бялюткі кошык, нязменна адзначаў: "Чыстая работа!"

Да Галіны Іванаўны Ліпскай, галоўнага спецыяліста абласнога упраўлення, падыходзяць самадзейныя артысты з Маладзечна: "Як там наш, ці заняў якое месца?" Сплеценыя вырабы ўжо ацэнены журы, лепшыя з іх размясціліся на стале паблізу пляцоўкі. Уладзімір Фаменка, за якога хваляваліся землякі, заняў першае месца. Вядома ж, радаваўся поспеху і А. Рамановіч, загадчык аддзела культуры Маладзечанскага райвыканкама, які таксама прыехаў на фэст.

Іншыя прызы ўзялі Мікалай Шаўкуноў (Старыя Дарогі) і Віктар Шатэрнік (Чэрвень). Спадабаліся журы і вырабы юных умельцаў-дэбютантаў — Аляксея Галузы і Сашы Атрушкевіча (Стоўбцы). Самаму меншаму, Дзіму Басько, усяго 10 год. Плецці з лазы навучыўся ад бацькі, кіраўніка гуртка. Яго карункавая талерка магла б задаволіць густ самага вытанчанага эстэта...

Сонца, між тым, паліла на ўсю моц. Луг болей нагадваў пляж: моладзь лавіла ультрафіялет, купалася, перакідвала мяч. Адно шматлікія супрацоўнікі міліцыі мусілі парыцца ў сваіх уніформах, трымаючыся бліжэй да выратавальнага ценю. Перад няўдала размешчанай — супроць сонца — сцэнай не так і многа затрымалася гледачоў. Апладзіравалі шмат каму — і Морыцкаму фальклорнаму гурту Клецкага раёна, і ансамблю "Крынічанька" з Рудзенскага РДК, і Ананьчыцкаму хору з Салігоршчыны, — але таньчыць кінуліся толькі пад спевы любанскай "Ярыцы", якая фальклорныя элементы спалучае з сучаснымі. З поспехам выступалі і госці — пабрацімы з Серпухаўскага раёна Маскоўскай вобласці, а таксама гаспадары-случчане. Лепшымі з сямі самадзейных мастацкіх калектываў раёна лічацца "Ячаўскія вячоркі" і "Слуцкія паясы".



*Выступаюць госці з-пад Масквы.*

Паколькі народ бавіў час хто як мог (у тым ліку і за пляшкай пад кустамі), падалося, што яго няблага было б пацешыць гульнямі і спаборніцтвамі. Ды і сам канцэрт, задуманы як агляд народных песенных калектываў, варта было б "разбавіць" іншымі жанрамі.

Стэла Станіславаўна Іванова, дырэктар Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці, так падсумавала вынікі свята:

**— З кожным годам "Траецкі фэст" набірае моц і размах. Шмат калектываў пажадала прыехаць, павышаецца іх узровень. І ўсе ўдзельнікі — што вельмі важна — раз'ехаліся ў той дзень па калгасах, выступалі канцэртамі ў клубах і школах. Па сутнасці гуляла ўся Случчына! "Зялёныя святкі" былі адзначаны не горшым чынам. Назаўтра мне столькі званкоў было, людзі дзякавалі, што пра іх не забыліся... Адметнасцю слуцкага свята стала тое, што да яго далучаны конкурс лозаплялельшчыкаў. Магчыма, не зусім мы "абгралі" яго; хай гэта будзе ўрокам на будучае. У наступным годзе эстафету прыме Валожын.**

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

*Фота В. ГАНЧАРЭНКІ*

*PRO ET CONTRA*

# Кіно ў палітыцы альбо палітыка ў кіно

***Грамадства палярызавалася, падзялілася на замкнёныя колы. І паміж імі няма ані дыскусій, ані дыялогаў. У перыядычных выданнях і на тэлебачанні дэкляраваць погляды пускаюць адмысловую публіку. Новая рубрыка — спроба інакшага падыходу. Хай апасродкавана, праз "ЛіМ", будуць стасункавацца, выказвацца выразныя антаганісты. Такім чынам, першымі выходзяць два Юрыі — Азаронак і Хашчавацкі, нашыя рэжысёры-дакументалісты. Хаця іхнія фільмы ("Нянавісць: дзеці хлусні" і "Звычайны прэзідэнт") з'явіліся некалькі гадоў таму, на іх наўрад ці дагэтуль забыліся.***

**— Перад тым, як знайшлі ваш тэлефон проста праз даведачную службу, мы звярталіся, натуральна, у Саюз кінематаграфістаў і на 8-ы канал — аніякіх звестак пра Юрыя Азаронка не атрымалі. Даволі дзіўна. Складваецца ўражанне, што імя нібыта знікла, сышло. Цікава, чым займаецеся?**

— Мяне вельмі здзівіла, што вы патэлефанавалі проста дамоў. Я асабліва не афішую сваіх каардынат, бо ёсць шмат тых, хто жадае выказаць адносіны да маёй персоны. Была, напрыклад, такая гісторыя. Калі я раней жыў у Зялёным Лузе, ва ўсе паштовыя скрынкі майго дома ўклалі ўлёткі: маўляў, тут жыве вораг беларускага народа. Указалі і кватэру, і тэлефон. Дык уяўляеце, не было аніводнага дрэннага званка. Наадварот, падыходзілі: "О! Вы ў нашым доме жывяце — якое шчасце!" Потым знайшліся жартаўнікі, якія змясцілі ў "рэкламцы" аб'яву, што Азаронак прадае сваю камеру. З месяц званілі — дасталі. А наконт працы... Я вольны мастак. Вось нядаўна з'ездзіў у Ірак. Зараз запускаецца новы фільм пад назвай "Воін" пра Чэслава Млынніка, цікавага чалавека, былога камандзіра рыжскага АМАПа. Чэслаў быў на тым пераломе, калі развальваўся Саюз, ведаў многа сакрэтаў, напрыклад, Пуга меў з ім зносіны толькі напрамую. Прайшоў усе войны: Абхазію, Прыднястроўе, Югаславію... Пакуль напісаны сцэнарый. Думаю, атрымаецца цікавая карціна.

**— Мяркуеце прадэманстраваць яе на БТ?**

— Я не ведаю, як яно пойдзе. Буду здымаць на "Беларусьфільме". А на БТ?.. У мяне ж дастаткова вострыя, хай і спрэчныя ў ідэалагічных адносінах, творы. Дарэчы, у апазіцыянераў ёсць трывалае меркаванне, што я хаджу на БТ і ўсюды там нагой дзверы адчыняю. І адразу мае праграмы і фільмы ідуць. Не, наадварот. Паўтаруся, у мяне заўсёды ўсё вастрэй на парадак за тое, што робіць Беларускае тэлебачанне. А БТ — гэта даволі забюракратызаваная сістэма, якая ў бой не хоча ўвязвацца. Ім як больш спакайней — тым лепш. Мае працы не з вялікай ахвотай прымаюць.

**— Ну, як жа! Тая ж "Нянавісць..." была паказана за два дні да рэферэндуму.**

— Бо калі б яны ў той час адмовіліся ад "Нянавісці...", то адбыўся б суцэльны пракол. Альтэрнатывы майму фільму па ўзроўні БТ не стварыла тады. А вось "Закулісу", напрыклад, паказаць не адважыліся.

**— Вы сказалі, што амаль выратавалі Беларускае тэлебачанне ад непазбежнага праколу перад рэферэндумам. Значыць, вы прызнаеце, што запоўнілі пэўную значную нішу, і нішу палітычную?**

— Бясспрэчна. Тады быў важны, пераломны палітычны момант. Вырашалася, куды пойдзе Беларусь. Марыць пра афіцыйны саюз з Расіяй не прыходзілася. Пра дзяржаўнае двухмоўе — таксама. І я з гонарам кажу, што "Нянавісць..." адыграла значную ролю ў тым, што мы цяпер так жывём. Так, пэўную нішу я запоўніў.

**— А наколькі этычна і карэктна ў прафесійным плане здымаць дакументальнае кіно, выходзячы з палітычных перакананняў? Дакументалістыка ж — у першую чаргу ілюстрацыя фактаў.**

— Ведаеце, "Нянавісць..." пачыналася менавіта як ілюстрацыя фактаў, проста яна з'явілася вельмі да часу. Хаця я не ведаў, што на май рыхтуецца рэферэндум. Матэрыял пачаў збіраць за паўгода да гэтага. Першапачаткова я адштурхоўваўся ад таго маразму, які адбываецца ў БНФ. Я часта прысутнічаў на іхніх мітынгах. Чамусьці ў кіно і на тэлебачанні ніхто не асмельваўся гаварыць пра тое, што Пазняк — неўраўнаважаны чалавек з дыктатарскімі замашкамі. Я бачыў недарэчнасці ў моўным пытанні, у той культуры, якую яны нам навязваюць. І гэта не сапраўдная беларуская культура, а псеўдакультура. З гэтымі словамі, накшталт "чакалята", з гэтымі фэстамі, калі п'яныя пояўзаюць па сцэне, і г.д. Гэта падалося свежым матэрыялам для рэжысёра-дакументаліста, і ўсё зладзілася ў фільм. Адбылося супадзенне акалічнасцяў. Паралельна развіваліся перадрэферэндумныя падзеі, сам рэферэндум. Карацей кажучы, ён трапіў сваім фільмам у "дзесятку".



Ю. АЗАРОНАК

**— А якой, на вашую думку, павінна быць беларуская нацыянальная культура?**

— Беларуская культура — частка агульнарускай культуры, якая мае безумоўнае права на існаванне. І мова беларуская прыгожая. У лепшых сваіх узорах беларуская культура, сапраўды, годная. Асаблівы росквіт назіраўся ў савецкія часы, калі тую ж мову паднялі з небыцця. А што з'явілася, скажам, у літаратуры, напрыклад, у Шушкевічавы гады, што можа быць на адным узроўні, напрыклад, з Караткевічам?

**— На рускай мове таксама ў нас нічога асаблівага не з'явілася...**

— Але таго ж Быкава свет зведаў дзякуючы перакладам яго іных твораў на рускую мову. Потым яны ўжо перакладаліся на замежныя. Таму я лічу вялікай няўдзячнасцю цяперашнія паводзіны і стаўленне гэтага пісьменніка.

**— Так, руская мова ў прыватнасці і ўвогуле — прастора суседняй дзяржавы, каштоўныя для нас як транзіт айчыннай культуры. Аднак на нашай тэрыторыі руская мова дзейсніць відавочны дыскрымінацыйны ўплыў на беларускую. Няўжо вы лічыце, што двухмоўе ў нашай краіне рэальнае і паўнавартаснае?**

— Канечне. Напрыклад, мая дачка вучыцца ў школе і вывучае абедзве мовы. Спачатку я нават аддаў яе свядома ў беларускамоўны клас. Бо, хаця жонка ў мяне руская і дома мы гаворым па-руску, жывём мы ўсё ж на гэтай зямлі. І мова мая родная — беларуская. Аднак дачцэ маёй складана давалася матэматыка па-беларуску, і таму я перавёў яе ў звычайны клас. Гэта просты бытавы прыклад таго, што неабходна толькі пазбягаць крайнасцяў.

**— Чаму ж тады ваша родная мова ў вашых фільмах гучыць пераважна з іранічнай афарбоўкай?**

— У гэтым віна ў першую чаргу апазіцыйнай прэсы. Не толькі ў мяне, але і ў многіх у перыяд 1993—1994 гадоў падобную рэакцыю выхавала татальнае насаджэнне беларускай мовы, хутчэй нават насаджэнне нелітаратурнай беларускай мовы. Гэта стала правакацыяй. У двухмоўя відавочныя перавагі — ёсць выбар. Маеш жаданне вучыць беларускую мову? Калі ласка. У бібліятэках ёсць беларускамоўныя кнігі, перадачы тэлебачання, радыё на 80 працэнтаў рыхтуюцца па-беларуску. Што перашкаджае? Мне ніхто не забараняў адправіць дачку ў беларускамоўны клас. Адно што трэба, дык дакладныя дысцыпліны, у школах, відаць, выкладаць па-руску. А калі хочаце пашыраць беларускую мову, то павялічце колькасць гадзін

(Працяг на стар. 12)

**— Калісьці вы, Юры Іосіфавіч, агучылі задуму стварыць глабальны фільм пра народ...**

— Фільм пра народ, які выбраў гэтага прэзідэнта, увесь час у галаве, у планах. Збіраецца матэрыял. Неабходны грошы — кіно, нават кіно дакументальнае, каштуе дорага. Увогуле гэта была першапачатковая ідэя яшчэ да "Звычайнага прэзідэнта". Па вялікім рахунку "Звычайны прэзідэнт" — некаторая ажыццёўленая частка. Згаданая ідэя прысутнічае ўжо больш за два з паловай гады, з часоў першага рэферэндуму, калі ўсё сталася інакш, ні мы ўяўлялі, як, у прыватнасці, уяўляў сабе я. Здаецца, у неўвасобленым стане мая задума будзе знаходзіцца да 2000-га года, пакуль не надарыцца неабходнасць у падобным фільме ў Расіі. Менавіта тады з'явяцца грошы. Бо ў Беларусі ніхто не мае ні сіл, ні сродкаў на гэта. А раней не было жадання. Усё з-за скнарнасці тых людзей, якія маглі не дапусціць сітуацыі, у якой мы апынуліся. Не дапусціць нармальнымі дэмакратычнымі захадамі — напрыклад, укладаннем грошай у стварэнне недзяржаўнага тэлевізійнага канала. Потым яго гэтак не ставала Кебічу, Шушкевічу. Прадпрымальнікам дастаткова было выдаткаваць зусім невялічкія сумы, каб падобны канал існаваў. А цяпер кусаюць локці: маўляў, не пашанцавала. Вінаватыя ж самі, самі скавалі сваё "шчасце".

**— Вы шмат гаворыце пра грошы. Няўжо ў такога вядомага рэжысёра ёсць значныя фінансавыя праблемы?**

— У дакументальным кіно заўжды так: ёсць нешта, што хочаш зняць ты, а ёсць тое, што жадае зняць чалавек, які мае грошы. І калі памкненні супадаюць, толькі тады магчымае з'яўленне фільма. Альбо калі мяне вельмі зацікавіць прапанаванае. Надзвычай б'е па дакументалістыцы збядненне беларускага грамадства. Так, наша тэлебачанне можа плаціць смешныя ганарары — каля двухсот тысяч рублёў — за адну частку, вытворчасць якой абыходзіцца ў пяцьсот мільёнаў (і наўрад ці я нашмат памыліўся ў названай лічбе). Зараз мала хто працуе стала і плённа ў Беларусі. Прафесіяналы самага высокага ўзроўню альбо ўвогуле перасталі здымаць, альбо здымаюць, арыентуючыся на Маскву, на замовы адтуль. Але складана не толькі матэрыяльна. Неспрыяльна і ў ідэалагічным плане. Калі ты будзеш здымаць пра дрэвы, гэта, мабыць, і пройдзе. А калі пра Быкава, Адамовіча, Алексіевіч — ужо запытаюцца, чаму пра іх. Маўляў, пра іншых асоб распавядаць пара!

**— Таму на Беларускае тэлебачанне трапляе мізэрная колькасць прыстойных дакументальных стужак? І як тады ў гэтых умовах папулярызаваць, прапагандаваць праз дакументалістыку розныя погляды?**

— Можа не падабаецца Лукашэнка, іншыя канкрэтныя асобы ва ўрадзе — гэта вельмі суб'ектыўнае стаўленне. А ёсць паказчык аб'ектыўны, паводле якога і трэба ацэньваць становішча. Справа ў тым, што ў краіне не існуе сапраўднай дзяржаўнай ідэі. Яе, на жаль, не згенерыравала аніводная структура — ні грамадская, ні дзяржаўная. У БНФ ёсць, напрыклад, нацыянальная ідэя. Гістарычна гэта, сапраўды, правільна, калі дзяржаўная ідэя грунтуецца на нацыянальнай. Але так было раней, у натуральных формах развіцця. А тут павінна быць, на мой погляд, наадварот. Я зусім не супраць нацыянальнай ідэі, аднак, упэўнены, што менавіта першаснасць дзяржаўнай магла б стаць у нас рухавіком Адраджэння. Спачатку народ мусіць усвядоміць сябе як соцыум, як грамадства, потым — як нацыю, як пэўны культурны арэал. І давядзецца гэта рабіць пераважна праз моду на нацыянальнае. Так, той жа гурт "Троіца" можа даць куды больш, чым дзейнасць БНФ. Гэтага вымагае рэальная ацэнка становішча. Адсутнасць вартай, распрацаванай дзяржаўнай ідэі адбіваецца на ўсіх сферах жыцця. І на дакументалістыцы таксама... Як прапагандаваць? Ды ніяк. Калі б існаваў паравоз у выглядзе дзяржаўнай ідэі, то да яго чапляліся б вагоны разнастайнай дзейнасці. А адзін з вагонаў можна было б зрабіць нібыта паштовым і паставіць наперадзе. Бо ў свеце нас будуць ведаць не з таго, што мы выкрываем мафію ў Нагана, а па тым, што будуць бачыць, як тут жывуць людзі, што такое на самай справе Чарнобыль, пераходная эканоміка. Вось гэта ж цікава.



Ю. ХАШЧАВАЦКІ

**— Беларускае насельніцтва, здаецца, прызвычаілася, што палітычныя альтэрнатывы даходзяць праз недарэчны экспарт альбо напаўпадпольна. Вось і ваш фільм распаўсюджваецца прыватным продажам касет і па замежных тэлеканалах...**

— На жаль, іншага выйсця няма. Нашае інфармацыйнае поле абсалютна перакрыта. Дзяцей, якія пішуць на сценах, судзяць. Але ж яны не могуць выступіць на тэлебачанні альбо ў газетах. Не могуць і выразнікі іхніх інтарэсаў, прадстаўнікі. У чым бальшавізм, квазібальшавізм прэзідэнта (ды і ўсяго грамадства)? У праўдзенні на БТ выключна ідэалогіі пераможцаў. Аднак ёсць і людзі, якія прытрымліваюцца іншай думкі — няхай іх 20 працэнтаў, але і гэта частка насельніцтва, якая плаціць падаткі і мае права выказаць уласны пункт гледжання. Безумоўна, дзеці будуць пісаць на платах. Бо нічога іншага і не застаецца.

**— А наколькі ўсё гэта эфектыўна? Надпісы на вуліцах і той жа "Звычайны прэзідэнт" блізкія толькі пэўнай аўдыторыі.**

— Сапраўды, ёсць шмат людзей, якія жывуць па-за палітыкай. Жывуць уласнымі меркаваннямі, сваім домам, сваімі клопатамі. І гэта натуральна. Яны інтэлігентныя ў большай ці меншай ступені, адукаваныя, інтэлектуальныя, можа быць, але ўся валтузня наверсе ім да лямпачкі. Часам іх называюць не дужа прыгожым словам "балота". Аднак у прынцыпе падобная пазіцыя падаецца мне даволі сімпатычнай. Бо ў нармальным грамадстве ўлада ўспрымаецца інакш, як у нас. Яе механізм параўноўваецца з функцыянаваннем гарадской каналізацыі. Толькі тады на яе звяртаюць увагу, калі тая не ў парадку і цябе залівае брудам. А так няма патрэбы нават ведаць, як гэтая каналізацыя ўладкавана. Такім чынам, з аднаго боку, гэта звычайная чалавечая рэакцыя. З другога боку, неабходна, каб кожны чалавек разважыў: "А як я стаўлюся да таго, што адбываецца навокал?" Варта хаця б трохі далучаць людзей да палітыкі, да палітычнага жыцця.

**— Далучаць, менавіта не навязваючы пэўных ацэнак?**

— Так. Мой фільм будзе падобным чынам уздзейнічаць толькі на тых, хто са мной пагодзіцца. Тыя, хто не пагодзіцца, застануцца пры ранейшай думцы. Аднак пры гэтым пэўная частка насельніцтва ўцяміць, што не ўсё так проста і не ўсё так добра. Што ж да гісторыі фільма на Захадзе, то я перакананы, што ён там зараз неабходны. Бо сёння ў Беларусі выспявае адна з найжудаснейшых небяспек не толькі для Еўропы, але і

(Працяг на стар. 12)

## З вандровак па Дняпры

**У братняй Украіне традыцыйным стала Міжнароднае Шаўчэнкаўскае свята “У сям’і вольнай, новай...” Адно з іх праходзіла ў маі 1997 года на Херсоншчыне. Тады, падчас падарожжа па Дняпры на цеплаходзе “Маршал Кашавы”, украінскі паэт Яраслаў Ярош прапанаваў паэтам і мастакам выдаць за ўласны кошт зборнік твораў пра гэтую вандроўку. На жаль, ахвочых знайшлося няшмат. Што гэта на самай справе так, пераконвае зборнік “Да Тараса Шаўчэнкі — па Дняпры”, што выйшаў у Івана-Франкоўску ў выдавецтве “За незалежнасць”. У ім прадстаўлена ўсяго дзесяць аўтараў: Яўген Шмаргун, Галіна Тарасюк, Марыя Маціес, Яраслаў Ярош, Міхайла Шаўчэнка, Мікола Шостак з Украіны, Анатоль Лісій са Злучаных Штатаў Амерыкі, Фларын Мускалу з Румыніі і нашы паэты — Сяргей Законнікаў і Алесь Пісьмянкоў, вершы якіх на ўкраінскую мову пераклаў Я. Ярош.**

## “Залаты каласок”



**“Залаты каласок” — гуртак саломапляцення і інкрустацыі саломкай Дома дзіцячай творчасці ў гарадскім пасёлку Плешчаніцы Лагойскага раёна. Кіруе ім Надзея Мікалаеўна Кацкель (на здымку) — вялікі энтузіяст народнай творчасці. Без яе ўдзелу не абыходзіцца ніводная выстава, ніводны конкурс альбо свята.**

*Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БЕЛТА*

## “Мастацтва”, N 5

**Нумар адкрываецца працягам даследавання М. Крукоўскага “Чалавек не можа не тварыць”, што публікуецца з пачатку сёлетняга года. Сшытак “Музыка” аб’яднаў матэрыялы “Слова, якое крыляе” Я. Улукскага (пра паэта-песенніка У. Карызну), “Профіль творчасці” Л. Ляшчэвіч і В. Вахулы (пра кампазітара М. Васючкова), “Мастацтва чароўнай гульні адчуванняў” А. Казлоўскай, “Чатыры гадзіны каранавання” Д. Падбярэзскага, “Тры тосты” М. Мелаграны, “Варшаўскі дзённік” Т. Мушынскай (заканчэнне), “Дыскаграфія” Д. Мухаўца. Е. Бондарава (“Душа не мае ўзросту”) гутарыць з рэжысёрам і аператарам Ю. Марухіным. Л. Лемешава з Кіева (“Ад Параджанава да Маслабойшчыкава”) на прыкладзе ўкраінскага кіно разважае пра ўзаемаадносіны грамадства і мастацтва. Б. Герлаван — герой артыкула Б. Бур’яна “Пра хараство, якое ўзрушае”. Т. Гаробчанка (“Яна была душой тэатра”) згадвае пра З. Канапельку, тут жа ў запісе С. Дашкевіч падаюцца фрагменты ўспамінаў гэтай актрысы — “Эвакуацыя”. Пра творчасць адной гродзенскай мастачкі расказвае Н. Антончык (“Загадкі і сакрэты Валянціны Шобы”). Т. Габрусь (“Маленькая ахвяра барацьбы тытанаў”) запрашае ў Нясвіж, якому спаўняецца 775 гадоў. З. Дрозд (“Гульня — клопат акадэмічны”) дзеліцца ўражаннямі ад кнігі “Гульні, забавы, ігрышчы”, што папоўніла серыю “Беларуская народная творчасць”. Т. Мушынская (“Справа ўсяго жыцця”) рэцэнзуе кнігі “Музычны тэатр Беларусі”. В. Трыгубовіч (“Іспанцаў зацікавіў сацрэалізм”) падчас гутаркі з тадышнім выконваючым абавязкі дырэктара Нацыянальнага мастацкага музея П. Хацько і загадчыкам аддзела беларускага мастацтва В. Каваленкі дае адчуць атмасферу, што панавала ў час выстаўкі, якая праходзіла ў Іспаніі. Прадстаўлены раздзелы “Народнае мастацтва”, “Мастацкае фота”, “Падзеі, факты, інфармацыя”.**

КНІГАРНЯ

# Споведзь вынішчанага пакалення

Даючы высокую ацэнку напісанаму аб Вялікай Айчыннай вайне іншымі пісьменнікамі, нельга не прызнаць, што створанае на гэтую тэму Іванам Навуменкам — па-свойму арыгінальнае, непаўторнае. Іван Якаўлевіч належыць да пакалення (юнакі, якія нарадзіліся ў 1925 годзе), якое называюць “вынішчаным пакаленнем”. З хлопцаў гэтага года нараджэння пад родныя стрэхі вярнуліся нямногія, ды і то часам знявечаныя.

Пра іх І. Навуменка пачаў расказваць яшчэ ў ранніх творах — апавяданнях і невялікіх аповесцях, што склалі змест яго першых кніг “Семнаццатай вясной”, “Верасы на выжарынах”, “Хлопцы-равеснікі”... Пазней былі раманы “Сасна пры дарозе”, “Вецер у соснах”, “Сорак трэці”, кніга “Смутак белых начэй”.

Ад твора да твора ішоў пісьменнік разам са сваімі героямі дарогамі вайны, ад твора да твора не толькі павышалася яго майстэрства, а і паглыблялася спасціжэнне ролі і месца бязвусых юнакоў у самай страшнай вайне (яе, на жаль, цяпер ужо апошняй не назавеш), а яшчэ, што не менш важна, больш аб’ектыўным станавіліся адносіны да падзей, якія з гадамі ўсё аддаляліся і разам з тым нібыта набліжаліся, бо хацелася зноў зірнуць на іх. І погляд усё менш станавіўся рамантычна-ўзнёслы...

А што гэта на самай справе так, пераконваюць апошнія па часе напісання творы І. Навуменкі. І не толькі пра вайну. Пісьменнік вяртаецца таксама ў даваенныя і пасляваенныя гады, але гэта таксама і вяртанне ў вайну. Бо ці не ўсе яго персанажы, прытым і з “новага прызыву”, калі можна так сказаць, — менавіта з гэтага пакалення. З той розніцай, што ў адных самыя суровыя выпрабаванні наперадзе, а іншыя ўжо адваяваліся і нечакана для сябе зразумелі, што ў мірным жыцці цяжкасцяў таксама стае, бо трэба адвыкаць ад таго, для чаго прывык, бо зноў неабходна выстаяць — ва ўнутранай барацьбе з несправядлівасцю, бездухоўнасцю, маральнай жорсткасцю. Асабліва падобныя матывы гучаць у аповесці І. Навуменкі “Любімы горад”. Але гэтаму твору папярэднічалі аповесці: “Дзяцінства”, “Падлетак”, “Юнацтва”, якія выдавецтва “Юнацтва” выпусціла пад адной вокладкай.

Герой твораў — Васіль Войцік. Толькі ў першых двух апавяданне вядзецца ад трэцяй асобы, у наступных — “я-споведзь” героя. А яшчэ ў першых фарміраванне характару Васіля пачынаецца, у наступных — у многім завяршылася, адбываецца далейшае станаўленне асобы, калі непазбежна пэўная пераацэнка ранейшага, а ў асобных выпадках даацэнка таго, што некалі прайшло па-за ўвагай.

Называючы гэтыя аповесці менавіта так, а не інакш, І. Навуменка, відаць, свядома арыентаваўся на “класічны варыянт”. І калі б нават назваў іх “Мае універсітэты” (для гэтага толькі трэба было б у першых двух аповесцях перайсці да “я-споведзі”), таксама б гэта было апраўдана. Усё адно аповед разгортваўся б звыклым ходам — “дзяцінства, падлетак, юнацтва”. І гэтаксама б галоўны герой пастунова крочыў у жыццё. Бо, зразумела, не ў назве справа, а ў тым, што ў згаданых аповесцях, хоць і прысутнічаюць пэўныя факты з уласнага жыцця аўтара, усё ж перад намі аўтабіяграфім іншага кшталту: перад намі не проста біяграфія пакалення, а аўтабіяграфія яго — настолькі аўтар зрітаваны са сваімі аднагодкамі. І гэта якраз аўтабіяграфія вынішчанага пакалення, якое, нягледзячы на свой юны ўзрост, таксама выйграла вайну.

Паняцце ж вынішчанае пакаленне з’яўляецца ў аповесці “Юнацтва”, калі Васіль Войцік, прымаючы ваенную рэальнасць як непазбежнасць, а значыць непазбежнасцю ўспрымае ён і верагоднасць загінуць, разважае пра свой лёс і лёс сяброў і прыходзіць да несуцяшальнай думкі:

“Я не думаю пра смерць. Здаецца, ніхто не думае. Мы не спадзяемся застацца жывымі, бо вельмі жорсткая ідзе вайна.

У сучаснай вайне матораў, жалеза, кулямётаў чалавек як асоба, адзінка мала што значыць. Вельмі многа прыдумана розных сродкаў ягонага знішчэння.

З лістоў, якія я атрымліваю з дому, ведаю, што і на другіх франтах многа хлопцаў загінула. Вынішчаецца цэлае пакаленне”.

Васіль Войцік гаворыць да таго спакойна, быццам да ўсяго гэтага не мае аніякага дачынення. Сам ён як бы па-за рэальнасцю, бо даўно з усім звыкся. Ды і не да аптымізму, калі наўкол смерць. Калі наўкол **столькі смерці**!

Не хачу, каб чытач падумаў, што гаворку пра новую кнігу І. Навуменкі я зводжу толькі да заключнай, трэцяй аповесці. А пачаў я з “Юнацтва” таму, што дзве першыя аповесці (не адмаўляючы іх мастацкіх вартасцяў), на маю думку, у нечым і падступы да яе. “Дзяцінства” і “Падлетак” — гэта пярэдадзень жыцця галоўнага героя. Васіль Войцік у многім падобны на сваіх аднагодкаў, але ў той жа час ён і вылучаецца сярод іх. І гэта добра відаць з асобных частак твораў — “Птушкі”, “Кнігі” ў “Дзяцінстве”, “Лес” — у “Падлетку”. Васіль — хлопец кемны і, безумоўна, таленавіты. Такім часта няпроста даводзіцца. Асабліва, калі іх станаўленне прыпадае на няпросты час.

Вартасці першых аповесцяў якраз у тым, што ў іх І. Навуменка праўдзіва адлюстраваў гэты час вялікіх сацыяльных зрухаў, прапусціўшы яго праз успрыманне галоўнага героя. І калі раней у асобных творах, у якіх закранался даваеннае жыццё, ён (у рэшце

ПОГЛЯД

# Вобраз “заплаканай жанчыны”

У серыі літаратурнага аб’яднання “Белавежа” (Беласток) выйшаў новы зборнік вершаў Яна Чыквіна “Свет першы і апошні”.

Кніжка адкрываецца вершам “Свяшчэнны дождж”. Гэты “свяшчэнны дождж” лечыць, лагодзіць збалелую душу. Лірычны герой скардзіцца, што ў ягоным доме “ад розуму халоднага” “гасне хатні агонь”, і звяртаецца з просьбай да “свяшчэннай вясны” (у Чыквіна і вясна “свяшчэнная”) дапамагчы яму ў ягонай бядзе:

***Хоць ты падай, вясна свяшчэнная,***
***мне сваю далонь***
***і таямніцу выяві жыцця — каб жыць.***

Дарэчы тут будзе сказаць, тэма “таямніцы жыцця” — ці не асноўны матыў зборніка “Свет першы і апошні”. Яна канкрэтызуецца ў вобразе “заплаканай жанчыны”. У вершы “Свяшчэнны дождж” мы чытаем:

***У гэтай музыцы дажджу, дакорнай***
***і шчымлівай,***
***Ёсць цень адной заплаканай жанчыны.***
***Яна ка мне прыходзіць***
***напамінам неспакойным,***
***Вяртаецца й бруіць,***
***па той бок шыбінаў ваконных.***

Цень “заплаканай жанчыны” — скразны вобраз у зборніку “Свет першы і апошні”. Ён сімвалізуе той страчаны рай, той свет першы, якога ўжо няма, але настальгія па якім лекі для героя, які лечыць ад “розуму халоднага”.

У. Конан у сваім артыкуле “Жыццё і час у люстэрку паэзіі”, змешчаным у кнізе Яна Чыквіна “Далёкія і блізкія”, залічае Чыквіна да “плыні інтэлектуальнага трагізму”. “Інтэлектуальны трагізм”, рацыяналізм прысутнічаюць у паэзіі Чыквіна, але яны сагрэтыя эмацыянальным напалам, ці, як кажа паэт, “жыватворнасцю”:

***Не камень я, не векавечны —***
***Таму згартаю святло да святла,***
***Таму збіраю цяпло да цяпла.***

***І свет трымаю ў абдымку хлапечым.***
***Насустрач душа ўсё імкне —***
***І, можа, гэта і ёсць жыватворнасць***
***ва мне.***

Гэтая “жыватворнасць” якраз найбольш і праявілася ў зборніку праз вобраз “заплаканай жанчыны”, які надае настальгічную атмасферу зборніку, вызначае ягоны настрой, гуманізуе і тыя творы, што так ці інакш закранаюць эсхаталагічныя праблемы быцця.

У вершы “Кветка болю” лірычны герой дзякуе “заплаканай жанчыне”, “ахоўніцы жыцця”, ягонай ахоўніцы:

***...за кшталт тваіх далоняў,***
***што атулялі мяне***
***ў месцах найбольш збалелых,***
***за вызваленне мяне ад цяжару***
***быць самім сабою і супраць сябе,***
***за лыжку ажыўляючай вады,***
***за саломінку, якую падала...***
***за музыку прытульную тваіх грудзей...***
***за човен, а стырнікам***
***якога ты мяне зрабіла...***
***каб вывеў нас з даліны плачу...***

Але выйсця з “даліны плачу” няма, нягледзячы на ўсе высілкі “заплаканай жанчыны”, гэтай своеасаблівай Беатрычэ. Перашкодай для павароту ў страчаны рай — “завалы прастораў”:

***Між намі завалы прастораў,***
***Між намі планідаў кругі***
***Звіваюць яснасць жыцця ў сутонь.***

Але тым больш зыркім стаецца вобраз “заплаканай жанчыны”: то яна свеціць лірычнаму герою “бляскам-спевам вачэй” (“impompty”), а то чаруе “музыкай цела” (“Чараўніца”), то яна ўваходзіць у дом лірычнага героя і ў “чашу жыцця, налітую спаўна, кладзе жывы пялёстак колеру распуснай жанчыны” (“Выпрабаванне спакусай”), то плыве па моры “постацяй дзявочай” (“Тапелец”).

Вобраз “заплаканай жанчыны” выступае ў розных іпастасях. У вобразе Музы-дарадцы:

***О, мілы дружа, як жа ты спанеў***
***і непрыкметным стаў.***
***І хоць цябе чашы, хоць рэж,***
***нішто табе сям’я і дом, і мае раны...***
***Ты ў іншу, хлопча, закаханы***
***і ўжо не пазнаеш мяне...***
***...Праўдзівых муз цяпер нямаш***
***на нашым подлым свеце***

*(“Паэт і муза”);*

у вобразе “жоўтавалосай” Ніке, што прыйшла на адзін міг са свету іншага, “першасна-боска-напеўнага”, каб “тутэйшае жыццё наўкольнае абагавіць”.

Не маючы магчымасці вярнуцца ў свет “першасна-боска-напеўны”, лірычны герой уявіў сябе ў свеце, у якім “затрымаліся часу стрэлкі”, у свеце, у якім гаючая вада ўваскрасае мёртвых, у свеце, у якім пануе цішыня, як на лясным возеры, у “зачараваным краі”, які “не мрэ і не жыве”. Тут прыгадваецца Багдановічава “зачараванае царства”.

На лясным возеры ў “зачараваным краі” няма

***Ні хваль перастваральных,***
***ні ў тонях вадакрутаў хоць бы паўжывых.***

Над гэтым возерам, пад “зачараваным краем”, звіс “бяссмертны Кашчэй”, як нейкае праклящце.

У спачуванні і блаславенні лірычны герой хрысціць “зачараваны край”:

***Рукой дрыжачаю я кладу, Айчына,***
***На твар твой свята-светлыя крыжы.***

*(“Лясное возера”)*

Развітваючыся, ён пакідае запавет:

***Астаўляю красу найпрыгожую...***
***Нам яшчэ суджана з белаю дамай ісці***
***і ісці***
***Пад чарнатою сонца па мёртвых гародах.***

“Белая дама” тут — усё тая ж “заплаканая жанчына”, з якой лірычны герой будзе крочыць далей пад “чарнатою сонца” і песціць надзею, што “зачараваны край” ажыве, бо, як ён сцвярджае, “ніхто не паміраае назаўсёды”.

На гэтай ноце ўваскрэсення мы й развітаемся з лірычным героем выдатнай кнігі Яна Чыквіна.

**Масей СЯДНЁЎ**

*Глен Коў, ЗША*

рэшт, як і іншыя пісьменнікі) мусіў, па зразумелых прычынах, штосьці недагаворваць, дык цяпер, прынамсі, падзеі калектывізацыі "не праходзяць" міма Васіля. Канечне, ён не можа з-за свайго ўзросту даць ім належную ацэнку, ды і непатрэбна гэта. Істотна, што хлопчык задумваецца, чаму так адбываецца, чаму несправядлівасць пануе наўкол:

"Дзед Піліп — серадняк. Вася цяпер часта чуе гэтае слова, як і словы бядняк, кулак,- але што тоіцца за імі, не вельмі добра разумее. У бабкі Аўгінні ёсць родзіч Пятро, як яна заве яго — братаніч. Пятро страшэнна руплівы і цягавіты". Чалавек з ранку да вечара працуе, а яго чамусьці "называюць кулаком, гэта значыць, багацеем. Але які ён багацей, калі вось гэтак апранаецца, душыцца нішчымніцаю, свету белага не бачыць з-за работы".

А хіба справядліва, што бацьку Васіля "звольнілі з кандуктарскай пасады"? За тое, што "Войцік Іван мае гаспадарку, каня, тым часам абавязацельствы па контрактацыі бульбы не выконвае".

І ўжо зусім незразумела, чаму сярод "ворагаў народа" апынуліся настаўнікі...

І ўсё ж Васіль Войцік — дзіця свайго часу. І пісьменнік не спрабуе асучасніць яго. Інакш бы лёгка можна было б пайсці насуперак жыццёвай праўдзе. А праўда ў тым, што Васілёва пакаленне — гэта пакаленне не толькі цяжкіх гадоў, а і па-свойму рамантычных, асабліва для неакрэплых яшчэ душ, калі многае бачылася ў ружовым святле, а самому хутчэй хацелася далучыцца да актыўнага жыцця. Будзем справядлівымі: якраз такая ўнутраная падрыхтоўка, вера ў ідэалы, якія цяпер шмат ахвотнікаў назваць уяўнымі, і дапамагла гэтаму пакаленню (як і іншым) выстаяць у вайне.

Іван Навуменка піша так пераканаўча, быццам нанава пражывае сваё жыццё, жыццё сваіх сяброў. І тых, што сёння ўжо больш чым у сталым узросце. І тых, што не вярнуліся з вайны. Таму нязменна ў творах (найперш у аповесцях "Дзяцінства" і "Падлетак"), прысутнічае і нейкі лёгкі смутак. А ён, як мне здаецца, ад таго, што аўтар "не ўмешваецца" ў Васілёва жыццё. Але тады б... тады б знікла шчырасць, непасрэднасць, адкрытасць погляду на Васіля Войціка і яго сяброў. А ў гэтых якасцях таксама прывабнасць прозы І. Навуменкі. І як некалі ён з любоўю пісаў пра іншых сваіх герояў (у прыватнасці, пра Міцю Птаха з раманаў "Сасна пры дарозе", "Вецер у соснах", "Сорак трэці"), гэткай жа любоўю напоўнены і новыя аповесці.

А яшчэ ў іх прываблівае, як пісьменнік з вялікай тактоўнасцю і тонкім псіхалагізмам піша пра першае каханне. Дарэчы, пачынаючы з ранніх апавяданняў піша, у адным з якіх галоўны герой — вуснамі аўтара і ад імя ўсяго пакалення — прасіў прабачэння ў дзяўчат, што мусілі яны дарыць сваю любоў не ім, а часта зусім выпадковым жанчынам. У Васіля ж Войціка таксама адбываецца нешта падобнае. Нясмелым ён быў ва ўзаемаадносінах з Алесяй Малейкай, якую пакахаў напярэдадні вайны, не здолеў разабрацца ў пачуццях да Гэлі Машчанскай. А паразуменне знайшоў з немкай Інгеборг, разумеючы, што так не можа доўжыцца доўга: "Я адчуваю: шчасце, якое падараваў мне лёс, кароткае, прывіднае, здрадлівае". Тым не менш — гэта шчасце. Шчасце ў канцы вайны.

І ў гэты момант, калі "вайна выйграна. Цвітуць сады перамогі", вяртаецца Васіль у тыя дні, калі знаходзіўся ў запасным палку, а раніцой праходзіў разам з вучэбных рот. І ўжо не столькі сам разважае, колькі аўтар, які з вышыні сённяшніх сваіх гадоў звяртаецца да аднагодкаў — не, не цяперашніх, даўно пасталеных і пастарэлых, а да тых, яшчэ юных:

"Маршыруй, пакаленне! Ідзе вайна, якой, можа, не было ў гісторыі. На ёй ляжаць кроў, губляюцца маладыя жыцці. Але тваю радзіму, пакаленне, топча вораг і не ваяваць ты не можаш. Грыміце, трубы, і чаканьце крок, салдаты самай вялікай вайны!"

А гэта зноў голас Васіля Войціка, таго Васіля, які закончыў вайну і пакуль не думае аб далейшым жыцці, бо іншае трубе яго: "Дзе тыя салдаты? З нашага дзевятага, дзесятага класаў большая палавіна хлопцаў загінула. Відаць, усюды так".

Новыя аповесці І. Навуменкі — споведзь менавіта гэтага, вынішчанага пакалення. Гісторыю можна перапісваць, удакладняючы, пераацэньваючы ў ёй асобныя моманты, даючы ім больш аб'ектыўную ацэнку. Ды ніколі нельга забываць, якой цаной была выйграна Перамога.

Новыя аповесці І. Навуменкі — яшчэ адзін ягоаб гэтым напамінак.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

Сярод кніг

# Адно жыццё

З вялікай цікавасцю чытаю ўспаміны, дзённікі старэйшых беларускіх пісьменнікаў і кожны раз міжволі лаўлю сябе на думцы: якая атмасфера таварыскасці, зычлівасці, узаемапавагі, урэшце, дзелавітасці панавала ў нашай арганізацыі ў даўнія і параўнаўча не такія ўжо далёкія гады... Я і сам прыгадваю, як рупіліся кіраўнікі Саюза пісьменнікаў пра тыя ж кватэры для творцаў, як рабілі ўсё магчымае, каб уладкаваць хворых у самыя прэстыжныя лячэбныя ўстановы; як памагалі маладым літаратарам.

Адным з тых колішніх руплівцаў, хто добра разумеў сваю адказную місію па стварэнні належных умоў працы для пісьменнікаў, была і Фаня Яфімаўна Алер. Шмат гадоў аддала яна гэтай удзячнай справе, займаючы пасаду дырэктара Беларускага аддзялення Літаратурнага фонду СССР. У размове са мной Іван Пятровіч Шамякін нядаўна, прыгадваючы мінулае, вельмі цёпла гаварыў пра тагачаснага кіраўніка Літфонду: "Фаня Яфімаўна была чалавекам надзвычай энергічным... Хутка вырашала розныя пытанні. Для яе, здаецца, не існавала ніякіх перашкод, калі трэба было памагчы пісьменніку: дабіралася да самых высокіх чыноўнікаў..."

Чытаючы кнігу ўспамінаў Ф. Алер "И был театр..", якую падрыхтавалі да друку і выдалі пасмяротна яе дзеці — пісьменнік Уладзімір Ідэльсон і кандыдат мастацтвазнаўства Клара Кузняцова, я напаткаў такія ж зычлівыя выказванні і пра тэатральную дзейнасць іх маці з боку народнай артысткі СССР Стэфаніі Станюты, народнага мастака СССР Заіра Азгура, народнай артысткі Беларусі Зінаіды Браварскай і іншых. Менавіта лепшыя гады свайго жыцця Ф. Алер прысвяціла Нацыянальнаму акадэмічнаму тэатру імя Янкі Купалы — яна пачала працаваць яго дырэктарам яшчэ ў даваенны час.

У кнізе ўспамінаў лаканічна, але цікава і шчыра, нават з нейкай цнатлівай паважлівасцю расказана аб мастацкім станаўленні першага нацыянальнага тэатра рэспублікі, яго гарачых буднях і светлых святах, карацей, аб усім тым, аб чым можа апавядаць толькі чалавек, які сам быў бясконца улюбёны ў купалаўскі тэатр, жыў ім, рабіў для яго славы. Нездарма ж Стэфанія Станюта, якая па ўласным не прызнанні не любіла гучных слоў у ацэнках таварышаў па працы, не пашкадавала іх для Ф. Алер: "У тым, што ў самы цяжкі ваенны час тэатр не распаўся, захаваў сябе як цэнтр нацыянальнага тэатральнага мастацтва, стабільна і плённа працаваў, памагаючы сваёй творчасцю агульнай справе Перамогі, вялікая заслуга належыць яго дырэктару — нашай незабыўнай Фані Яфімаўне Алер". Сапраўды, даводзіцца толькі здзіўляцца і захапляцца, як Ф. Алер дамагалася адпраўкі па сутнасці з франтавога горада Адэсы, у чэрвені 41-га, калектыву беларускага тэатра ўжо апошнім чыгуначным эшалонам у Маскву...

Цэлая партрэтная галерэя выдатных майстроў беларускага мастацтва паказана аўтарам на старонках кнігі. Уражваюць вобразы У. Уладамірскага, Л. Ржэцкай і іншых. Нас, літаратараў, асабліва хвалююць эпізоды сустрэч аўтара кнігі з Янкам Купалам і Якубам Коласам, расказ аб тым, як ставілася тэатрам пасля вяртання ў вызвалены ад фашыстаў родны Мінск п'еса Янкі Купалы "Паўлінка", як дапамагала акцёрам сваім спагадлівым словам удава класіка Уладзіслава Францаўна Луцэвіч — незабыўная "цётка Уладзя".

Са шчырым шкадаваннем перагарнуў я апошнюю старонку кнігі ўспамінаў Ф. Алер: хацелася яшчэ і яшчэ ўзгадваць гісторыю нашага непаўторнага тэатра, уяўляць твары славутых артыстаў і нібы весці нязмушаную, сардэчную гаворку са звычайным добрым чалавекам, які пражыў зайздроснае жыццё, азоранае святлом чароўнага мастацтва.

**Яўген КАРШУКОЎ**

*Фаня Алер. "И был театр..." Успаміны дырэктара. Мінск, "Права і эканоміка", 1996*

Бліц-крытыка

# Свойскі самотнік з Новай Галілеі

***Сёння ў рубрыцы "Бліц-крытыка" абмяркоўваецца творчасць Алеся Чобата — паэтычныя зборнікі "Год", "Новая Галілея", цыкл "Ліст у Ялту" ў зборніку "Ты ж не самотны...", публікацыі апошняга часу. У абмеркаванні прынялі ўдзел Валянцін Акудовіч, Алесь Бадак, Пятро Васючэнка, Галіна Дубянецкая, Уладзімір Конан, Алесь Пашкевіч, Вольга Шынкарэнка, Алена Яскевіч. Нагадваем, што пералік прозвішчаў даецца ў алфавітным парадку, які не супадае з парадкам друкавання адказаў.***

●

Алесь Чобат належыць да сінтэтычных творцаў. У яго асобе спалучаецца талент празаіка і паэта. Яго апавядальная манера жывіцца гістарычнымі рэаліямі, трапяткімі пошукамі ўнутраных стрыжнявых арыенціраў, еднасцю рэальнага і містычна-ірацыянальнага. Духоўныя пошукі яго герояў (чым абумоўлена чытацкае зацікаўленне яго творчасцю) спалучае ў сабе пракаветныя пошукі беларускага духу.

●

Алесь Чобат — адзін з нямногіх нешматслоўных сучасных паэтаў. Мабыць, строгасць моўнага малюнка выступае тут арганічнай праявай строгага мыслення канструктара-прафесіянала. Пры аднолькава таленавітым самавыяўленні яго паэтычнага "я" ў патрыятычным і ціхім лірычным вершы мы маем справу найперш з нацыянальным творцам. Растлумачыць гэта можна хіба толькі непахіснасцю ўсведамлення: "Радзіма вышэй за выбар" (зборнік "Год"). Далучанасць да неабвержнай ісціны не пазбаўляе паэта верагоднасці зар'яцець ад гэтага самага роднага краю, ад бясконцага паўтарэння ім гістарычных памылак, ад вечнай скоранасці яго насельнікаў.

Наогул, гарадзенская зямля валодае асаблівым дарам не толькі нараджаць, але і ўтрымліваць свае таленты. І Д. Бічэль-Загнетава, "якая паэтка айчынная!" (паводле А. Сыса), і А. Чобат, што не жадае папаўняць свет блукаючых па свеце (крыху змяніўшы яго ж словы), — выразны прыклад моцы творцаў праз трываную повязь з роднымі каранямі. Гэта не перашкаджае ім змагацца з духоўнай здзічэласцю і пустадомствам Радзімы, рупліва працаваць на апошні шанц Беларусі. Адсюль абвостранае пачуццё далучанасці да яе праблем і трывог. Адсюль гранічна, дакладна сфармуляваныя вобразы-матывы паэтычнай творчасці: "— Айчына. Памяць. Праўда і хлусня".

●

Ёсць у паэзіі Алеся Чобата махлярства не махлярства... Але нешта такое ёсць.

●

Хіба ж можа быць што добрае з Галілеі?

Ужо сама назва зборніка вершаў "Новая Галілея" ёсць адкрыццё. Сімвал гістарычнага лёсу Беларусі. Біблейскі архетып. Заснаванае патомкамі Аўраама Ізраільскае царства ў 722 г. да н.э. было заваявана Асірыяй, большая частка насельніцтва расцярушана па ўскраінах Асірыйскай імперыі. Зямля абяцаная заселена іншапляменнікамі. У выніку штучнай мешаніны ўтварыўся псеўдаэтнас самарыцян. Гэта і была Галілея на захад ад Генісарэцкага возера з гарадамі Самарыя і Назарэт. У складзе Рымскай імперыі Галілея зрабілася "прітчей во языцех" як прахадны калідор рымскай геапалітыкі. Захавалася прымаўка: "Хіба можа быць што добрае з Назарэта?" Адтуль родам Ісус Хрыстос, паводле прароцтва: "Галілея язычніцкая, народ, што сядзеў у цемры, убачыў святло вялікае, і ўсім, хто сядзеў у краіне і ценю смерці, зазззяла святло".

Вось такая царская і сучасная савецкая Беларусь: у ёй пануе хімерны этнас і вандруюць пракокі-паэты. Места Гародня, дзе жыве і піша вершы Алесь Чобат, мне даўно здалося Новай Самарыяй: мешаніна этнасаў — і зямляцтва свядомых беларусаў, пракокаў і Дон-Кіхотаў. Тое ж у паэта Алеся Чобата: "Места Гародня застаецца вялікай сцэнай тэатра абсурду. Медны Ленін бліщчыць — як вылізаны. Споўніўся польскі праклён: "Каб цябе немцы акупавалі, а саветы вызвалілі". Адсюль мінорны матыў: "Цяплынь на вуліцы, але на сэрцы восень...". Альбо біблейскае: "Вось і Хрыстос, абмінуўшы апошні засценак, нас пакідае і ў краі суседнім жыве..."

Аўтар "Новай Галілеі" стварае сваю паэтыку, амаль непадобную да інтанацыі сваіх папярэднікаў. Даміную парадаксальныя элегічны гратэск, паэтычная дасціпнасць, нешта накшталт новага дэмакратычнага барока. А паводле сэнсу — сучаснае прароцтва. Яно абавязвае выкрываць пошласць і зло. Выкрываць заганы цэлай нацыі. Праўда, ёсць тут часам перабор — паводле расійскай прымаўкі "Бі сваіх, каб чужыя баяліся". Аднак жа гэтыя "цені" здымаюцца па-беларуску сціплай, амаль па-дзіцячы сарамлівай любоўю сына да сваёй маці Радзімы, да яе таленавітых і прыгожых дзяцей.

Вершы зборніка пісаліся да "гістарычных" рэферэндумаў 1995—1996 гг., якія па-свойму "асвяцілі" Новую Галілею. Здавалася б, элегічны гратэскавы смех паэта цяпер набудзе яшчэ большую сілу татальнага адмаўлення. Але гэтага не сталася, пра што засведчыў цыкл вершаў "Ліст у Ялту". Элегічны смех беларускага самотніка застаўся... Але ён ураўнаважыўся любасцю да вялікіх традыцый нацыянальнай культуры. І яшчэ хрысціянскімі матывамі. Як, напрыклад, у заключным чатырохрадкоўі:

*Няхай нічога людзям не трэба,*
*І Беларусь заўжды ў паняволі —*
*Ты не самотны, з Табою неба,*
*Таму не знікае ніхто ніколі.*

●

На маю суб'ектыўную думку, Алесь Чобат паэт не тое каб штучны, але ў многім ён адбыўся дзякуючы падтрымцы пэўных асоб з літаратарскага кола. Інакш ён і па сёння хадзіў бы ў пачаткоўцах.

●

Для мяне Алесь Чобат — напаўлегендарная, напаўмістычная постаць. Некалі ў багацці тэкстаў вылавіў некалькі яго паэтычных радкоў, якія ўразілі. Бачыў ягоны фотапартрэт у друку. Але пазнаёміцца грунтоўна з творчасцю паэта дасюль не выпала. Склалася ўражанне, што творчасць Чобата дакладна "ўпісваецца" ў кола творчасці аўтараў "Крыніцы". Але абшукаў усе нумары — не знайшоў ягоных публікацый. Відома, можна было б звярнуцца да камп'ютэрнага каталога ў Нацыянальнай бібліятэцы... Але няхай Алесь Чобат застанецца для мяне не разгаданай таямніцай.

●

Ён, Алесь Чобат, уяўляецца беларускім Лыкавым у паэзіі (памятаеце адшуканую заўральскую сям'ю?). Ці не тая ж перападнасць, свойскасць, першакрынічнасць, уражлівасць... І ці не тая ж (здараецца) непрадказальнасць, нават "тундравасць" — у жыцці?

●

Асабіста для мяне Алесь Чобат сёння адзін з самых цікавых і ўжо напэўна — адзін з самых адметных беларускіх паэтаў. Застаецца толькі дзівіцца, чаму яго прамінае ўвагай літаратурная крытыка. Хаця я, здаецца, здагадваюся, чаму наша літкрытыка абыякавая да творчасці Алеся Чобата. Рэч у тым, што мадэль паэтычнага мыслення ў беларускай літаратуры была сфармаваная на ментальнай матрыцы Цэнтральнай Беларусі (Купала, Колас...). Гэтая мадэль і дамінуе цягам стагоддзя. Адсюль яна нам добра знаёмая, зразумелая, мы ў ёй напрацавалі сістэму ацэначных катэгорый, якія даюць магчымасць як чытачу, так і крытыку рабіць тыя ці іншыя высновы...

А творчасць Алеся Чобата выяўляе паэтыку, якая магла быць разгорнута на ментальнай матрыцы Заходняй Беларусі, але, падаўленая дамінуючай, цэнтрапелеглай тэндэнцыяй, засталася ў латэнтным стане. Таму яе, толькі вымкнутую з утоенасці, і не атрымліваецца ўкласці ў "пракрустаў ложа" канвенцыйнага вымярэння, а маняць ацэначныя каардынаты мы не адважваемся. Адсюль і застаецца Алесь Чобат як бы сам-насам. Хаця адзінота яго ўяўная, бо побач — і тапаграфічна, і эстэтычна, — Віктар Шалкевіч. Гэты выбітны гарадзенскі "дуэт" рана ці позна змусіць нас да асэнсавання іх паэтыкі, як прэзентанта паэтычнай ментальнасці Заходняй Беларусі.

У наступнай рубрыцы "Бліц-крытыка" для абмеркавання прапануецца альманах творчай суполкі "Бум-бам-літ" "Тазік беларускі".

Выказаць сваё меркаванне можна па тэл. 233-19-85 рэдактару аддзела крытыкі Людміле Рублеўскай або даслаць на адрас рэдакцыі. Па жаданні рэспандэнта яго выказванне можа быць падпісана.

## Пра зоркі і зямное

Адны пісьменнікі яшчэ пры жыцці прапануюваюць у друк свае запісы, іншыя не спяшаюцца гэта рабіць. Да апошніх належаў і народны паэт Беларусі Пімен Панчанка. Ён занатоўваў для сябе тое, што не мог выказаць у вершах і паэмах. Цяпер з пачаткам гэтых запісаў можна пазнаёміцца ў пятым нумары часопіса "Полымя". Сяргей Законнікаў, які прапануе іх з уступным словам "Думаю, думаю...", у якасці загалоўка ўзяў сказанае аднойчы самім Піменам Емяльянавічам. У дзённіку яно прагучала як сведчанне неспакойнасці думкі, як жаданне разабрацца ў самім сабе, у людзях, у часе. Як сведчыць С. Законнікаў, "дзённікі..." складаюцца з дзвюх частак: у шасцідзесятыя гады — гэта лаканічныя, імпульсіўныя паметкі, заўвагі, выдых душы, а пазней — разгорнутыя, больш-менш пастаянныя запісы. Перапынкі ў іх звязаны, у асноўным, з хваробаю, паездкамі, інтэнсіўнай творчай працаю". І сапраўды так. П. Панчанка не вёў дзённіка ў традыцыйным яго разуменні, а пісаў тады, калі проста не мог не пісаць, а ў выніку і з'яўлялася споведзь душы і сэрца, якая часам набывае і філасофскі падтэкст, як для прыкладу: "Туга па зорках. Там няма подласці, глупства, хціваcці, здрады. Але няма і зямнога... усяго". Сярод запісаў П. Панчанкі і такія, у якіх даецца ацэнка творчасці некаторых пісьменнікаў. Ацэнкі гэтыя часам бескампрамісныя і рэзкія. Але гэта таксама споведзь і, зазначае С. Законнікаў, "прачытаўшы яе, не трэба крыўдаваць. Панчанка нікога не хацеў абразіць. Ён проста гаворыць пра тое, што набалела, дае адкрыта і натуральна свае бескампрамісныя ацэнкі з'явам, падзеям, людзям".

А ўвогуле нумар увабраў у сябе розныя матэрыялы. Проза прадстаўлена заканчэннем "Чарнобыльскай малітвы" Святланы Алексіевіч, апавяданнямі Івана Канановіча, Людмілы Дрожжы і Вячаслава Лапціка, паэзія — вершамі Юрася Свіркі, Усевалада Гарачкі, Леанарда Хіхіча, Міколы Мельнікава, паэмай Максім Лужаніна "Адбіткі пальцаў Лёсіка", а таксама вершамі Дэсанкі Максімовіч (пераклад з сербскай і паслясловe Эдзі Агняцвет". З прадмовай Васіля Быкава надрукаваны "Успаміны Платона Крэня". Міхась Мушынскі выступае з першым артыкулам з цыкла "Максім Гарэцкі: перыяды творчасці". Валянціна Локун разглядае экзістэнцыяльныя кірункі твораў В. Быкава ("Літаратура і свабода выбару"). Алесь Каўрус ("Аўтар, рэдактар, карэктар...") закранае пытанні культуры мовы. А на завяршэнне нумара прапануюцца рэцэнзіі на новыя кнігі. Уладзімір Юрэвіч аналізуе дакументальны раман Ігната Дубdroўскага "Гаснуць вулканы" ("Час сеяць, але час і жаць..."), Алесь Карлюкевіч дзеліцца ўражаннямі ад зборніка Міколы Жыгоцкага "Побач з Коласам" ("Дарога да Коласа").

## Сустрэча ў Рымдзюнах

Мы прызвычаіліся да навуковых, а то і да навуковападобных назваў канферэнцый, "круглых сталоў". І раптам — такая простая, зразумелая любому назва "круглага стала": "Беларусы ў Літве, літоўцы ў Беларусі: праблемы адукацыі, выхавання і культуры". Такі "круглы стол" выкліча цікавасць не толькі ў навуковых колах, але і, як то кажуць, у больш простага люду.

Таму зусім невыпадкова, што тэма гэтая абмяркоўвалася на памежжы з Літвою — на нашай Астравеччыне, у Рымдзюнах, дзе пабудаваны выдатны Літоўска-беларускі цэнтр. На пасяджэннях, якія вяла Альма Лапінскене (Вільня) і Адам Мальдзіс (Мінск), былі абмеркаваны прадстаўнікамі міністэрстваў і ведамстваў, навучальных установаў і грамадскіх арганізацый спрэчныя пытанні, што ўзнікаюць у педагагічнай і культурнай практыцы, і намецілі планы на будучыню. Узнікала пытанне пра аднаўленне Віленскага беларускага музея. Былі заслуханы паведамленні Уладзіміра Свяжынскага — пра балтаў і балцкія гаворкі ў старажытнай Беларусі, Леакадзіі Мілаш (Вільня) — пра кантакты ў галіне адукацыі, Пётры Русава — пра балтыйскі пласт тапанімікі Гродзеншчыны, а таксама настаўнікаў Гервяцкай і Рымдзюнскай школ — пра мясцовую этнакультуру, праблемы адукацыі і выхавання ў мікраpaёне.

Доктар Альма Лапінскене і намеснік старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Вольга Іпатава падрабязна спыніліся на беларуска-літоўскіх літаратурных сувязях. З абодвух бакоў была выказана зацікаўленасць у іх пашырэнні і паглыбленні.

А. Г.

ПАЭЗІЯ

Аўгіння КАВАЛЮК



## "Сняцца белыя сны..."

### Пра сябе

*Што я ў гэтым свеце значу?*
*Можа, лепей памаўчу.*
*Не сумую, і не плачу,*
*І наперад не хачу.*

*Ці лянота авалодала*
*Ці стамілася, ці сплю,*
*Ці мо ўжо свае адлётала —*
*Не ўспрымаю, не люблю?*

*А каго любіць? Завошта?*
*За пакутны чорны глум,*
*Што нясе штодзённа пошта,*
*За адсутнасць мар і дум?*

*За спакусы, што наўкола*
*Рэкламуюць гандляры?*
*За распусту дзеўкі голай,*
*Што гаворыць: "На, бяры!"?*

*Мо таму душа чарсцвее,*
*Мо таму і словa спіць.*
*Ну, а хто з вас, людзі, ўмее*
*Гэты хворы час лячыць?*

### Пра нас

*Здалёк аплакваем Айчыну*
*Замест таго, каб без прымусу*
*Дапамагчы таму зачыну,*
*Які патрэбны беларусу.*

*Малюем нешта чорнай фарбай*
*І ставім чорныя крыжы*
*Ці, прыхапіўшы шмоцце-скарбы,*
*За межы сем'ямі бяжым.*

*Хто ведае, чаго ён хоча —*
*Намі пакінуты зямляк.*
*Адкуль бяром, што яго вочы*
*Глядзяць не гэтак ці не так?*

•

*У паўночнай краіне,*
*У гэтай сырой мясціне,*
*Дзе хвілі ляцяць шпарчэй,*
*Шукаю добрых вачэй.*
*Шукаю вачэй бязгрэшных,*
*А побач — адна непазбежнасць*
*Бяды*
*Ад холаду, ад вады.*

•

*Ішла я берагам крутым,*
*Мне гаварылі, што не тым —*
*Далёка мора, хутка вечар...*
*Ішла, а побач вецер енчыў.*
*Насоўвалася ноч, і хмары,*
*Здавалася, прасілі кары*
*Ў самога неба для мяне.*
*А неба — не, не пакарала...*
*Яму я мары давярала*
*Сваёй бязлітаснай бяды.*
*І выплыў месяц малады.*
*Ён асвяціў маю дарогу,*
*Прагнаў сумненні і трывогу.*
*Было ўсё гэта толькі ўчора.*
*Спакойнаю дайшла да мора,*
*Яно спыніла грознай хваляй,*
*Крычала, што дарогі далей*
*Няма,*
*Што я прыйшла сюды дарма,*
*Што сіла у сабе самой.*
*Я стала іншай з ночы той.*

### Каханне

*Яно вядзе і у рай, і ў пекла,*
*Дарогай гневу, дабрыні,*
*Яно маршчынамі пасекла*
*Ўсе нашы ночы, нашы дні.*

*Яно пад сонцам і без сонца*
*Прывабнай кветкай палыхне,*
*Яно ў душу мне і ў бясконцасць*
*Вачыма любымі зірне.*

*І рук, і вуснаў спалучэнне...*
*Пачатак вечнага жыцця*
*І бессмяротнага свячэння*
*Нязведанага пачуцця.*

*Яно імгненне, яно вечнасць,*
*Яно гады, яно сляды...*
*Яно якаясь недарэчнасць:*
*Сплыве няведама куды.*

•

*Куток прыгожы,*
*Прымхі-таямніцы,*
*Глыток салодкага прычасця,*
*Жыцця чысцейшыя крыніцы —*
*Ўсё тое, што завецца шчасцем,*
*Дзеля нашчадкаў захавалі продкі,*
*Наш спеў, наш боль,*
*наш сум салодкі*
*Айчына...*

г. Санкт-Пецярбург

Сяржук СЫС

## "Ні хараства, ні цноты не адняць..."

•

*За сцяною — поле,*
*Чорнае, пустое,*
*А за полем прорва*
*Стыне ў хмызняках.*
*Там пугач палюе*
*Над цвілой вадою,*
*Крыламі сівымі*
*Раздзімае жах.*
*У начным сутонні*
*Жах згінае плечы*
*І сціраe межы*
*Між дабром і злом.*
*Ні дарог, ні броду*
*Па той бок пустэчы,*
*Дзе ў смузе трывожнай*
*Цьмяніцца святло.*
*Шэпча хвошч пануры*
*Над зласлівай кручай:*
*"Лепей за сцяною*
*У бяспецы жыць".*
*Толькі вабіць прорва,*
*Крок раблю рашуча...*
*Не крыўдуйце, сцены,*
*Быць альбо не быць!*

•

*Мы сустрэнемся невыпадкова*
*і загадкава памаўчым.*
*Што нам самыя пекныя словы, —*
*Гэта ж толькі пачуццяў дым.*

*Колькі трэба таемнай сілы,*
*Каб нявыказанае пачуць!*
*Ты маўчыш, а мне чуецца — "Мілы",*
*Усміхнуся: ты чуеш — "хачу".*

*Ты дзяўчына ці жонка чужая,*
*Я не ведаю хто, выбачай,*
*Я звычайна цябе сустракаю,*
*Каб пра многае памаўчаць...*

*Неадольная моц прыцягнення*
*Вызначае нас між людзей.*
*Мы сустрэнемся і на імгненне*
*Стане ў сэрцах шчымлівых цяплей.*

### Хрыстова нявеста

*У стылым храме велічнай зімы,*
*Дзе гневаецца чорная завея,*
*У цемрадзі пранізлівай нямеюць*
*Шкілеты дрэў і сонныя дамы.*

*Ледзь чутны спеў даносіцца здалёк,*
*Ледзь чутны голас, кволы і дзявочы;*
*Нібыта раптам трапіцца на вочы*
*У жыцце спелым сціплы васілёк.*

*Іду на "ты". У ноч. У снег. У гнеў.*
*Збіраю прагна полымныя гукі,*
*І проста ў неба ўскінутыя рукі*
*Скрозь сцюжу заўважаю неўспадзеў.*

*Гарыць сявачка свечкай трапяткой,*
*І шчодра сыпле залатыя ноты...*
*Адораная першароднай цнотай,*
*Збянтэжаная святасцю сваёй.*

*Струменіцца па вуснах цеплыня,*
*Іскрацца вочы светлыя спагадай —*
*У дзіўнай і заснежанай прынады*
*Ні хараства, ні цноты не адняць.*

*Стаю зачараваны і нямы,*
*І нават не адразу заўважаю,*
*Што песня нас жалобай ахінае,*
*Што плачу ў лютым холадзе зімы.*

*Але яна ільдзінкі маіх слёз*
*Пякучым пацалункам адагрэла...*
*"Ёсць уладар маёй душы і цела.*
*Ён самы лепшы, ён Ісус Хрыстос.*

*Ты нават думаць пра мяне пакінь*
*І хай міне цябе і боль, і скруха.*
*Айца і Сына і Святога Духа*
*Амінь!"*

Усевалад ГАРАЧКА

## "Усе будзе добра..."

•

*цюль на акне*
*навошта нешта хаваць*
*і так — снег*

•

*З барвовага лісця,*
*як з агню,*
*выйшлі*
*чорныя дрэвы.*

•

*Вясна:*
*беляць яблыні,*
*прыбіраюць двары.*

*Нехта з вялікіх памёр*
*і рыхтуюцца піць*
*за яго спачын.*

*Падстаўляй свой келіх і ты:*
*зацвітуць яблыні,*
*зазелянее трава.*

### Падбел

*Маці-мачыха...*
*засвяцілася*
*прыдарожная пустка.*

*Не данесці*
*кветак дамоў,*
*як снегу*
*ў гарачых далонях.*

•

*Цёмна ў хаце,*
*трывожна...*

*На печы —*
*Дзед,*
*як чорны валёнак.*

*Баба ў куце*
*Бы ануча...*

•

*І. Б.*

*Здзіраў пазногці*
*аб трывалыя сцены быцця —*
*прагнуў вырвацца*
*на прастор бяссмерця...*
*І — згінуў.*
*Засталіся на гэтых сценах*
*Толькі пісьмёны.*

•

*Дрэва*
*Ўброд*
*ад зімы да зімы*
*пераходзіць*
*травы зялёную плынь.*

•

*Усе гэтыя колеры —*
*лісце,*
*стракатыя спадніцы да зямлі*
*і познія кветкі —*
*змыла з мяне.*
*І цяпер я чорны*
*стаю.*

•

*Закрыць далонямі твар,*
*сказаўшы сабе:*
*"Усё будзе добра"...*
*Хутка маладая зеляніна*
*схавае далягляд.*

•

*Ліст накрывае ліст*
*і пад ліст кладзецца...*
*Бясконцая гульня ў дурня.*

# ЕХАЛІ ЦЫГАНЫ...

Вера ЛОЙКА



АПАВЯДАННЕ

ПРАВЁЎШЫ сумнымі вачыма аўтобус, Маня заспяшалася дадому. Спяшаць, праўда, асабліва не было чаго — хто там яе чакаў? — але не хацелася нікому трапляць на вочы. Ёсць такія людзі, што й душу вымуць — ці не сына праводзіла, а як жа ён жыве, ці ажаніўся, ці хутка Мані давядзецца ўнукаў паняньчыць? Самой бы тое ведаць!

Таму, каб не сустрэць і на вуліцы каго цікаўнага, пайшла агародамі, кружной дарогай, паўз могілкі. Пайшла — і схамянулася: а ну як згледзіць хто ды пачне гадаць, чаму гэта Маня, правёўшы сына, збаялася ісці вёскай, пайшла сцежкай удвая даўжэйшай — угару на яе хворых нагах не лёгка лезці.

Каб не выклікаць лішняй цікаўнасці, Мані прыйшлося зайсці на могілкі. Перш чым пайсці да бацькоўскіх грудоў, звыкла прыпынілася ля Антонавай агароджы.

Прымусіла сябе пастаяць даўжэй, хоць ногі нылі — хацелася як хутчэй даплесціся да свайго запечча — ды могілкі на ўзгорку добра праглядаліся з бліжэйшых двароў. Хай сабе глядзяць — Маня правяла сына на аўтобус дый пайшла адведаць ягонага бацьку. Усё як след і няма тут чаго гадаць ды круціць. Усе ж ведаюць, што Алесь у яе ад Антона і запісаны быў бы на яго, каб той жывы быў. О-о, што то было б, каб быў жывы Антон...

Апухлыя ногі балелі, і яна апусціла сваё цяжкое цела на траву пад звячэлым дуплістым дубам. Колькі помніць сябе Маня, быў гэты дуб старым і, здавалася, што ён вось-вось упадзе, накрыўшы сваёй велізарнай кронай добрую палову могілак, паламаўшы крыжы, ушчэнт пабіўшы мармуровыя ды гранітныя помнікі. Пад крыжамі ляжалі тыя, пра каго ўжо няма каму помніць. А людзі цяпер гэткія прыгожыя ды дарагія помнікі ставяць, гэта ж, крый Божа, як іх пакрышыць дуб, што ж тады будзе?! І пакрышыць некалі, бо нічога няма вечнага — будзе й дубу скон. Вось і цяпер нешта ў ім стомлена і пагрозліва парыпвала, патрэсквала, здавалася, вось-вось, яшчэ хвіліну — і абрынецца ён проста на Маню і ў адно імгненне вызваліць ад той таямніцы, якую сорак гадоў насіла яна ў сабе, асцерагаючыся прагаварыцца ці то ўначы, ці то на бяседзе, баючыся, што загаворыць услых сама з сабой, а нехта падслухае. Таму й на ноч нікога не пускала ні ў маладосці, ні цяпер, і на бяседы ніякія не хадзіла, асабліва на вяселлі. Вяселле, вядома, меры не ведае, возьмеш лішнюю чарку дый забудзешся. Вось так, вясёлая й вострая на язык у маладосці, Маня займела славу змрочнай, нелюдзімай кабеты. Яно і добра, затое людзі лічылі, што гэта яна так смуткуе па сваім Антону...

Бо адна Маня ведала, што Антон не быў Алесевым бацькам. Нагуляла яна сына, па-дурному, без аніякага кахання, як тое ў іншых бывае. Сама ніколі не магла зразумець, як саступіла яна нейкаму прыблуднаму цыгану, што невядома адкуль узнік на дарозе, па якой бегла Маня ў маліннік, ужо па абедзе, каб назаўтра ранічкай сабраную маліну занесці ў мястэчка на базар. Цыган той быў прыгожы ды вясёлы, Маня адказвала на ягоныя жарты ахвотна, прадчуваючы сумныя гадзіны ў зарослым крапівой ды забітым камарэчай малінніку. Як здарылася ўсё астатняе, сама не ведае. Мусіць, гэтак жа не ведае баба, чаму аддала на базары апошнюю траячку за непатрэбнае ёй гаданне.

Нават імя сапраўднага бацькі свайго сына яна не ведала. Не пыталася, як і ён у яе ні пра што не пытаўся. Зрабіў сваю справу ды знік. Цяпер ужо і прыпомніць цяжка, што яна тады думала, як апамяталася. Дакладна памятае толькі, што пайшла па маліну, а куды дзенешся, без яе ў вёску не вернешся.

Што толькі не лезла ў галаву, калі зразумела, якім бокам вылезе ёй тая прыгода на лясной дарозе. Нават рукі на сябе хацела налажыць. Можа, і зрабіла б тое, але лёс выбраў не яе. Антон, адзіны сын іх суседа Сымона, неўзабаве ўтапіўся ў рэчцы, дзе і камень прывязаўшы на шыю гэта наўрад ці зробіш. І Маня вырашыла — вось яно, выйсце: Антон... Нібы сама ў тую рэчку скочыла — не было калі ні абдумваць, ні рыхтавацца — галасіла, як па родным. Доўга яшчэ ніхто не заўважыў бы яе цяжарнасці, але тут ужо сама абвясціла ўсім. Такога ў вёсцы на памяці яе жыхароў не здаралася і ніхто не ведаў нават, як да гэтага паставіцца. Маўчала нават маці. Не сварылася, не галасіла, не кляла, пакуль не апусцілі Антона ў магілу. А пасля ўжо позна было сварыцца ды клясці. Бо на наступны пасля пахавання ранак бразнула ў сенцах клямка і ў іхнюю хату ўвайшоў Сымон.

Моўчкі сеў на зэдлік ля парога, доўга сядзеў апусціўшы долу пацямнелы, нягалены твар. Пасля падняў вочы проста на яе, Маню.

— Ты, дзеўка, гэта... праўду кажаш, што ад майго Антона цяжкая?

Калі б і хацела, ужо не магла яна сказаць праўду. Як зачараваная, кіўнула галавой — так.

— Дык ты не думай што дурное. У мяне ён адзін быў. Што змагу — памагу, калі ўнука народзіш... Ці ўнучку.

Сымон устаў і, не развітаўшыся, пайшоў прэч. Моўчкі. Маўчала і Маня. Маўчала маці. Не абгаворвала нават вёска. Тым больш, што хутка па дварах пранеслася новая пагалоска: старая Юстыніха дубцом ганяла па сотках сваю Вольку — нагуляла недзе жывот, але ад каго і што — не прызнаецца. І не прагаварылася нікому. Маня ўжо думала, ці не напаткала дзе Волька таго ж цыгана, што і яна сама. Бо, як ні круці, свае хлопцы ў вёсцы ўсе навідавоку былі... Ды з часам нікому ўжо да Вольчынага гора і справы не было. Як і да Мані ўвогуле. Ніхто яе не чапаў, не распытваў. Як быццам яна замужняя баба і ў свой час у яе народзіцца дзіця: не такая ўжо падзея ў вёсцы, дзяцей у тыя гады нараджалася шмат — не тое, што цяпер. Але душа ў Мані была не на месцы. І чым бліжэй падыходзіў тэрмін — тым цяжэй было. Старому Сымону, сваёй маці, усёй вёсцы яна павінна была паказаць Антонавага сына або дачку, а народзіцца ў яе цыганятка. І ўвесь яе падман выйдзе вонкі, і тады ўжо не будзе ёй месца ў вёсцы з тым смуглявым дзіцем. Не раз ужо думала, што дарма зманіла. Хай бы пабіла маці, хай бы пачасалі языкі бабы, перажыла ж тое неяк Волька і яна перацярпела б.

А хлопчык нарадзіўся зусім звычайны, падобны да Мані, як кропля да кроплі — русы, шэравокі. Вось тады ўжо яна ўздыхнула вальней. Баяцца больш не было чаго, можна было жыць і змагацца за тое, каб яе сыну лягчэй жылося на свеце. Маня ведала, што дзеля яго, крывінкі сваёй, яна зробіць усё — схлусіць (ужо схлусіла), украдзе, паддобрыцца хоць да чорта... Хіба што забіць не здолее, ды гэта й не спатрэбіцца, дасць Бог. Бога Маня памінала толькі так, да слова, бо, па праўдзе кажучы, не вельмі верыла ў яго існаванне. А што ён для яе зрабіў, той Бог, калі ён ёсць? Усяго самой трэба дабівацца. Хто смялейшы ды нахабнейшы, той і жыве. Вось яе, Маню, ніхто і не зачапіў, хоць і нарадзіла яна ў дзеўках. А ціхоню Вольку толькі лянівы не папікне нагулянай дачкой, якую тая нарадзіла лічы ў адзін час з Маняй...

Яна назвала сына гарадскім імем Саша і стала жыць, як усе.

Праз год памерла маці. Крыху пазней сышоў на той свет і стары Сымон. Хату сваю ён пакінуў ёй, дакладней — унуку. Тады яшчэ нельга было перадаваць у спадчыну хату тым, хто не даводзіўся блізкай раднёй. Маня ж пра ўсё паклапацілася наперад і зрабіла так, нібыта Сымон сам прадаў ёй хату, а ў дадатак яшчэ і атрымала ад Сымона грошай, на яго пахаванне. Хапіла й засталося. Ды ён так і сказаў: "Што застанецца — то ўнуку". Сашка тады ўжо школу канчаў. Вучыўся лепш за ўсіх у класе, ды яшчэ і вершы пісаў, друкаваў у іхняй раёнцы. Прыгожыя вершы, па-руску, яна не ўсё там разумела, але ганарылася, што яе сын так умее. І здавалася, што цяпер ужо баяцца няма чаго — ён вывучыцца, выб'ецца ў людзі, будзе жыць лёгка і бесклапотна. Маня ведала, што жыццё простага чалавека лёгкім не бывае. Заўсёды ён залежны ад нейкага начальства. А яго ж не выбераш, каб добрае, якое ўжо Бог дасць. Заробленыя грошы даюцца цяжка, а то і зусім можаш нічога не атрымаць — так, палачкі на прападзень. Гэта ў іх, у калгасе так, а ў горадзе пэўна свая нейкая шкода ёсць. Ды Сашку гэта не пагражала — каму ж тады і паступаць у тыя інстытуты, калі не яму з гэткай галавой.

І зусім ужо ніколі не шкадавала Маня, што пайшла некалі на той падман. Ну, каму ад таго горш стала? Затое яе сына ніхто не дражніў байструком, ён рос, ведаючы, што ў яго быў бацька. Ды і стары Сымон дажыў жыццё ўсцешаны, што пасля яго на свеце нехта застанецца, што род яго на тым не скончыцца. Яна ж нічога не ўкрала, хіба ў мёртвых можна ўкрасці тое, што ім на тым свеце непатрэбна?

Скончыў сын школу і паехаў у Мінск — паступаць. Ва універсітэт, дзе на настаўнікаў вучаць. Туды ж паступіла і Нінка Вольчына, толькі яна навучалася фізіцы, а Сашка мовам — беларускай ды рускай. Навошта яму была тая беларуская, Маня не разумела. Усюды ў горадзе гаварылі па-руску, хай бы сабе ўжо й вучыў яе. Нашто галаву дарма забіваць? Сын патлумачыў, што на той факультэт конкурс быў меншы, паступіць лягчэй, яна і супакоілася. Ды, ў рэшце рэшт, якая ёй розніца?

І калі Сашка абвясціў, што хоча ажаніцца з Нінкай, Маня таксама не пярэчыла. Абы яму добра было. Ды і дзеўка ёй падабалася, і з твару і па характары. Свая, вясковая, расла, можна сказаць, на вачах. Надзіва паўстала супраць таго кахання Волька. Яна і галасіла, і праклясці пагражала, зусім як маці яе гадоў дваццаць таму. Дык тады ж было за што клясці і галасіць, а зараз... Ну чым яе Сашка кепскі жаніх для той байстручкі? З таго часу Маня з Волькай і заўважаць адна адну перасталі. Нінка ж паслухалася матку і з Сашкам больш не сустракалася. Пасля заканчэння універсітэта яна паехала працаваць па размеркаванні і ўжо там выйшла замуж за настаўніка. А Сашка доўга не мог забыцца пра сваё каханне, дый цяпер, пэўна, не адбалела. Хоць і пабыў ужо жанатым. Нядоўга, праўда.

Недзе курсе на трэцім ён пачаў пісаць вершы і размаўляць толькі на беларускай мове і загадаў маці, каб звала яго нязвыклым у вёсцы імем Алесь. Вершы сынавы друкавалі, пэўна, усе газеты і часопісы, што былі ў Мінску, а перад заканчэннем універсітэта прывёз ён і кніжку сваю. Маню тая кніжка расчаравала — тоненькая надта ж. Столькі пісаў, галаву нэндзіў, а кніжка зусім маленькая атрымалася. Але ж працаваць сына пакінулі ва універсітэце, выкладчыкам, чым Маня дужа ганарылася. Асабліва перад Волькай, бо яе Нінка настаўнічала ў вёсцы. У душы яна радавалася, што шлюбу таго не адбылося. Хто яго ведае, ці пакінулі б у Мінску Сашку, каб ён быў жанатым? А цяпер яму нявесту знайсці — раз плюнуць. Можа, яшчэ з кватэрай якая знойдзецца. Але час ішоў, а нявесты ўсё не было. Маня ўжо і так і гэтак падыходзіла — сын то адмоўчваўся, то адмахваўся. А калі з мужам, а пасля і дзецьмі прыязджала ў госці да маці Нінка, ён на вуліцу стараўся не выходзіць, каб выпадкова не сутыкнуцца. Ужо і кватэру атрымаў ад пісьменніцкага саюза, а гаспадыні ў той кватэры ўсё не было.

За трыццаць сыну пераскочыла, Волька двойчы бабуляй стала, а ў Мані ні нявесткі, ні ўнукаў. Але каб ведала яна, як тое будзе, то не гэтак бы й чакала...

Прывёз усё-ткі і яе Алесь маладую жонку. Ніякага вяселля не захацеў, ды і позна ўжо было тое вяселле ладзіць — да радзінаў было бліжэй. На табе, маці, усё, чаго хацела. Радуйся. Яна і радавалася. Нявестка ёй спадабалася — маладзенькая і прыгожанькая. Была яна студэнткай яшчэ, вучылася ў Алеся, ды неяк во здолела падлашчыцца да яго. Ён то, відаць, не вельмі стараўся, бо надта закаханым не выглядаў. Ды бяды той — народзіцца дзіця, абвыкнецца, сцерпіцца, яшчэ і задаволены будзе...

Праз некалькі месяцаў маладая нявестка нарадзіла дзяўчынку, а сын узяў дый выгнаў жонку з дому з тым дзіцем, бо было яно цёмненькае, смуглявае, нетутэйшае з выгляду.

— З нейкім чорным пагуляла, а мной прыкрыцца захацела, — сказаў сын Мані, якая добра ведала, што гэта не так. Ведала... і маўчала. Бо мала было сказаць сыну праўду, каб не торкалі пальцамі ў нібыта нагулянае Алесевай жонкай дзіця. Трэба ж яшчэ было абвясціць усёй вёсцы пра свой даўні грэх і падман, а значыць, прызнацца, што не мае яна права й на хату, у якой жыве. Хай сабе выгнаць з той хаты яе ўжо няма каму, але ж... што людзі скажуць?..

За Манінай спіной пачуліся крокі. Нехта падымаўся на ўзгорак, павольна, часта спыняючыся і пераводзячы дыханне. Нікога не хацелася бачыць, а тым больш размаўляць, і Маня не паварочвала галаў, каб адцягнуць тую хвіліну, калі — хочаш-не хочаш — прыйдзецца ўступіць у размову. А пачуўшы ціхае "Дзень добры", ледзь не ўтрупянела. То быў голас Волькі, Нінчынай маці, колішняй сяброўкі па няшчасці, з якой яны ўжо гадоў дваццаць як не размаўлялі. Волька хварэла ўвесь апошні год, казалі — у яе рак, і выглядала вельмі кепска — схуднела, змарнела. Відаць, падняцца на ўзгорак ёй было нялёгка. Значыць, трэба ёй была яна, Маня. Да яе ішла, перасільваючы боль і нямогласць.

На прывітанне Маня адказала. Што ўжо тую варожасць трымаць, калі вунь чалавек паміраць сабраўся. Але пасля замаўчала, чакаючы, з чым жа Волька прыйшла да яе.

— Ты ўжо, мусіць, чула пра маю хваробу, — не прымусіла тая доўга чакаць, бо стаяць ёй было цяжка, — то не хачу памерці, не сказаўшы табе праўду.

На слове "праўда" ў Мані дробна забілася сэрца. А што, калі Волька штонебудзь ведае пра яе, пра Алеся, пра... таго цыгана?

— Я Нінку і твайго Алеся разлучыла не таму, што супраць цябе ці твайго сына што-небудзь мела. Але ж ты не ведаеш — яны родныя брат і сястра.

— Што ты мелеш?! — спалохана ўсклікнула Маня.

— Ды не мялю я... Нінка ў мяне таксама ад Антона... Вось як...

— То чаму ж ты маўчала? Столькі гадоў... Я ўжо думала...

— Што ты думала?

— Нічога.

— А як жа я магла прызнацца, ды хто б мне паверыў? — Волька памаўчала, — яшчэ людзі падумалі б, што я на Сымонава дабро кваплюся, табе пазайздросціла...

...Ужо аўтобус паказаўся на дарозе, калі Маня нясмела спытала ў сына:

— А ці ведаеш ты, як яна, Лена твая... жыве цяперака?

— Ды якая яна мая, век бы яе не ведаць. Праўда, прыходзіла паперу падпісаць, што я не супраць, каб яны з малой выехалі за мяжу. У Амерыку, ці што, нібыта замуж яна там выйшла.

— І не пабачыш ужо ніколі, — скрушна ўздыхнула Маня.

— Ды каго ты пабачыць хочаш?! — узарваўся сын і злосна падхапіў з зямлі валізу, бо аўтобус ужо тармазіў ля прыпынку. — Усё, я паехаў...

...Маня й не заўважыла, як Волька сышла з могілак. І ёй трэба было б ісці, ды нейкая сіла бы прывязала яе да гэтага месца. З фотакарткі на помнічку на яе хмура глядзеў Антон.

— Гэта ты адабрала ў мяне дачку, а ў яе бацьку, — здавалася, гаворыць ён.

— Я ж не ведала, — слаба апраўдвалася Маня.

— Як гэта не ведала? Ты ж ведала, што я да твайго сына ніякага дачынення не маю. А астатняе — не твая справа...

Маня паспрабавала адштурхнуцца ад дуба, каб устаць ды пайсці з гэтага страшнага месца і ніколі ўжо сюды не прыходзіць, але дуба за спіной не было. Яна паспрабавала намацаць рукой зямлю, каб абаперціся, падняцца з яе, але зямлі пад рукой таксама не стала. Свет звузіўся да тых вачэй, што сурова глядзелі на яе з помніка. А потым нічога ўжо не было.

...Калі Маню неслі дадому, людзі казалі, што гэта нядобры знак: нябожчыка з могілак у хату несці — нешта праз тое кепскае будзе. Так і здарылася. Тыдня не мінула, як наляцеў на вёску страшны ўраган, пранёсся смерчам і знік. Разбурыў ён на сваім шляху шмат. У каго пуню разварнуў, у каго хлеў, у каго платы параскідаў, а ў каго і стрэхі пазносіў. Стары дуб на могілках выстаяў. А вось Маніна хата не ўстаяла і незразумела чаму — моцная ж была будыніна. На другім канцы вуліцы яшчэ адну — крайнюю — хатку раскідала. Праўда, даўно пустую і нічыю. Нават старыя людзі не маглі прыпомніць, хто яе будаваў і каму яна належала. Раней, калі паўз вёску праязджаў цыганскі табар, то цыганы спыняліся ды начавалі там. Яшчэ колькі год таму спрабавалі жыць у ёй нейкія бежанцы, ці то з Карабаха, ці то з Абхазіі. Але неўзабаве сабраліся і выехалі. А болей у той хатцы ніхто не жыў.

## Вылучыліся ў Піцеры




**На Санкт-Пецярбургскім міжнародным юнацкім конкурсе "Я кампазітар" у рамках традыцыйнага Міжнароднага фестывалю "Ода к радасці" спачатку быў адборачны тур. Праслухоўвалі запісы ўсіх юных удзельнікаў. Яны прадстаўлялі Расію, ЗША, Ізраіль, Беларусь. Узрост — ад 9 да 15 гадоў. Сярод тых, хто прайшоў на другі тур, былі і юныя беларускія музыканты, якія вучацца кампазіцыі ў Валерыя Карэтнікава, — Міша Оргіш ды Аркадзь Чубрык. Яны абодва — дзевяцікласнікі Рэспубліканскага каледжа пры Беларускай акадэміі музыкі. Аркадзь заняў першае месца, Міша атрымаў спецыяльны прыз "За яркую вобразнасць музычнага мыслення". Спецыяльная грамата Саюза кампазітараў Санкт-Пецярбурга ўручана кампазітару Валерыю Карэтнікаву — "За вышэйшае педагагічнае майстэрства".**

**"Мне вельмі прыемна, што мае вучні на гэтым аўтарытэтным конкурсе былі на вышыні, — гаворыць Валерый Іванавіч. — Аркадзь цягнецца да сучаснай вобразнай музычнай мовы. Ён прайшоў поўны курс імправізацыі ў таленавітага піяніста-імправізатара Генадзя Кагановіча. Кампазіцыяй займаецца шэсць з паловай гадоў. У юнага кампазітара ўжо каля паўсотні твораў: фартэпіянныя, для голасу, скрыпкі, флейты, струнны квартэт".**

**Санкт-Пецярбургскі конкурс не першы ў жыцці А. Чубрыка. У 1993, 1994 гадах ён быў лаўрэатам "Надзеі" ў Гародні. Добра паказаў сябе на Міжнародным конкурсе "Класіка нове" ў Гановеры, прысвечаным Дзмітрыю Шастаковічу: заняў другое месца. Як лічыць яго педагог па фартэпіяна Яўгенія Гарбунова, журы гэтага прэстыжнага творчага спаборніцтва выбірала лепшых, зыходзячы з неардынарнасці асобы музыканта, а Аркадзю ж уласціва сваё музычнай інтэрпрэтацыяй трымаць у напружанні слухачоў. У свой час ён так таленавіта граў у Мінску з аркестрам Канцэрт Шастаковіча, што ўзрушыў публіку.**

**Каля 2-х гадоў займаецца кампазіцыяй Міша Оргіш. Валерый Карэтнікаў паведаміў, што юны творца развіваецца імкліва: "У яго яркая фартэпіянная фактура, добрае адчуванне формы, ёсць імкненне да рахманінаўскай паўнагучнасці. Піша шмат і хутка. Сваю конкурсную праграму напісаў за тры месяцы. Задумаў тры п'есы па матывах вершаў Максіма Багдановіча..."**

**Педагог М. Оргіша па фартэпіяна Людміла Шаламенцава лічыць, што ён вырас знутры як музыкант, таму хлопчыка і пацягнула да кампазіцыі.**

**І вядома ж, калі ў хлопцаў такія выдатныя педагогі, якія стараюцца ўсебакова развіваць іхнія здольнасці, не падаўляючы індывідуальнасці, — вынік будзе.**

**Вера КРОЗ**

*На здымку: Міша Оргіш, Валерый Карэтнікаў, Аркадзь Чубрык.*

## Юная піяністка



**Вучаніца 4 класа віцебскай сярэдняй школы N 3 Света Бандарэнка стала лаўрэатам міжнароднага конкурсу піяністаў, які праходзіў у Смаленску.**

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

ПРЭЗЕНТАЦЫІ

# Калі на "зоркі" зважаюць...

Музычны небасхіл Беларусі апошнім часам надзвычай шчодра азораны ранняй славай юных талентаў. І гэта замілоўвае позірк, цешыць слых... Ды расчуленыя меламаны і культурнае чынавенства, вітаючы з'яўленне новых выканаўчых імёнаў, наўрад ці задумваюцца: а што далей? Пра "далей" лепш не думаць. Бо праз нейкі час яркія маладыя знічкі зазвычай пакідаюць родны небасхіл, іхняе святло пачынае жывіць музычную штодзённасць суседніх і далёкіх краін. Там нашыя таленты прызнаюць і цэняць-падтрымліваюць не толькі прыгожым словам, а і рэальнай прапановай творчай ды матэрыяльнай перспектывы.

Праўда, ёсць спадзеў, што новае тысячагоддзе (а яно ўжо зусім побач!) расхіне заваблівую перспектыву для новага пакалення беларускіх выканаўцаў тут, дома. Бо родная дзяржава вучыцца глядзець на "зорнае музычнае неба", вучыцца заўважаць таленавітую эліту. І робіцца пэўныя захады, каб сапраўднае мастацтва (а не ягоны "шырспажываўскі" сурагат) не адчувала сябе ў сваёй айчыне асуджаным на лёс выгнанніка. "Пэўныя захады" — гэта яшчэ не сістэма, да якой, відавочна, трэба дарасці. Але той, хто глядзіць на гэты свет зычліва і з надзеяй, можа ўбачыць у стварэнні вядомых афіцыйных фондаў і праграм першыя парасткі той будучай сістэмы падтрымкі мастацтва.

Дзяржава пачынае зважаць на "зоркі", і ў гэтым — зарука спрыяння развіццю высокага мастацтва. Такую выснову рабілі многія відавочцы нядаўняй акцыі ў Рэспубліканскім каледжы пры Беларускай акадэміі музыкі. Тут упершыню быў зладкаваны канцэрт-прэзентацыя "Юныя зоркі Беларусі", у якім удзельнічалі навучэнцы каледжа — пераможцы міжнародных конкурсаў, што адбыліся на працягу гэтага навучальнага года ў Беларусі, Расіі, Францыі, Японіі.

Выканаўчая ды педагагічная школы нашай краіны маюць годныя пазіцыі ў вялікім і моцным музычным свеце — гэта пацвердзілася, прынамсі, фактам "незалежнага судзейства": журы міжнародных конкурсаў складалі пераважна прадстаўнікі заходнееўрапейскіх дзяржаў, ЗША, Японіі. Вельмі важна, што ўдзел беларускіх спаборнікаў у прэстыжных замежных конкурсах меў дзяржаўную фінансавую падтрымку. "Выдаткі" — апраўдаліся!

Зразумела, канцэрт "Юныя зоркі Беларусі" мог быць калі не бясконцым, дык шматгадзінным. Але ж арганізатары зрабілі яго кампактным, разнастайным, прадставіўшы мо "самае-самае".

Граў дуэт юных піяністаў Улада Шацкая ды Юліян Нячаеў (І прэмія на Усерасійскім конкурсе фартэпіянных дуэтаў, клас Л. Васільевай). Новы сюрпрыз прэзентаваў знаны выкладчык У. Перлін: у суправаджэнні музыкаў ягонага аркестра на сваёй маленькай віяланчэлі саліраваў другакласнік Аляксандр Дулаў (І прэмія Міжнароднага конкурсу "Музыка надзеі"). З камп'ютэрнай бязгрэшнасцю бегалі па клавіятуры спрактыкаваныя пальцы лідэра конкурсу імя І. Цвятаевай Данііла Шлеянкова (клас Я. Пукста). Пераможца Міжнароднага конкурсу юных кампазітараў у С.-Пецярбурзе Аркадзь Чубрык (клас В. Карэтнікава, Л. Гарбуновай) увасобіў у сабе і творцу, і выканаўцу складанай і дзіўнай музыкі. Лаўрэат конкурсу Я. Менухіна Алег Яцына (клас Л. Умновай), як заўжды, сабраў воклічы "брава!". Лаўрэат І прэміі фартэпіяннага конкурсу імя М. Рубінштэйна ў Парыжы Кацярына Соніна (займаецца ў З. Качарскай) паказала майстэрства вобразнага пераўвасаблення. А новая "залатая труба" Яўген Лятэ (клас М. Волкава) парадаваў знаўцаў паўнагучным, роўным і сонечным граннем.

А вось піяніста Сяргея Смірнова (клас У. Нехаенкі), уладальніка Гран-пры конкурсу ў Японіі, назваць "юнай зоркай" можна было толькі зважаючы на ягоны пакуль яшчэ "школьны" ўзрост. Гэта — не баюся перабольшыць — ужо Музыкант, глыбокі, сталы і... малады. Прынамсі, "Іспанскую рапсодыю" Ф. Ліста ён іграў як віртуозны майстар і нібыта не на тым самым раялі, за якім выступалі ўсе іншыя ўдзельнікі праграмы.

На тое і прэзентацыя, каб да канцэрта дадалося нешта яшчэ. І вось пасля воплескаў, воклічаў, кветак загучалі прамовы. Да музыкаў-лаўрэатаў, да іхніх педагогаў звярнуўся міністр культуры Беларусі Аляксандр Сасноўскі. Ён нагадаў пра існаванне Прэзідэнцкага фонду па падтрымцы таленавітай моладзі, стыпендыяты якога ёсць і ў каледжы, звярнуў увагу на стварэнне новага фонду, якому наканавана падтрымліваць айчынную культуру. І запэўніў: "Будзем знаходзіць сродкі падтрымліваць людзей, якія робяць для прэстыжу дзяржавы больш, чым палітыкі".

Міністэрства падрыхтавала заахвочвальныя прэміі для педагогаў, якія маюць талент "запальваць зоркі", а таксама адмысловыя віншаванні для дзяцей. А праз Беларускі дзіцячы фонд ды праз Беларускі саюз моладзі таленавітым выхаванцам каледжа былі перададзены падарункі ад амерыканскіх дзяцей.

Калі на "зоркі" зважаюць, значыць, яны запаліліся нездарма?

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*Фота К. ДРОБАВА*



*Вучні ды настаўнікі слухаюць міністра А. САСНОЎСКАГА.*



*З аркестрам пад кіраўніцтвам заслужанага артыста Беларусі У. ПЕРЛІНА выступае Саша ДУЛАЎ.*



*За раялем — Сяргей СМІРНОЎ.*



*Што там, у пасылках з Амерыкі?*

ПРЭМ'ЕРЫ

# Крымінальнае трыо на музычнай сцэне,

## або Новае аблічча "Дарагой Памелы"

***На жаль, я не адношуся да таго пакалення крытыкаў, якія маглі бачыць спектакль "Дарагая Памела" ў яго "лепшыя", так бы мовіць, гады — г. зн. тады, калі п'есу Дж. Патрыка і ў чыстым выглядзе, і пакладзеную на музыку М. Самойлавым, насаджалі ў тэатрах аперэты былога Саюза, як тую кукурузу. Гавораць, што тады спадар Самойлаў "сватаў" сваю "Памелу" і ў наш тэатр, але беспаспяхова. Прайшло па меншай меры гадоў 20, перш чым твор гэты ўбачыў сцэну тэатра музычнай камедыі Беларусі. І калі гэта, нарэшце, адбылося, я, здаецца, вызначыла для сябе прычыну, з-за якой маэстра Самойлаву ў свой час было адмоўлена.***

Рэч у тым, што музыкі ў ягоным творы... няма. Ёсць некалькі, з дазволу сказаць, музычных абрыўкаў, якія сваім нечаканым з'яўленнем зусім не абцяжарваюць вушы слухачоў (выключэнне, бадай, адзіная мелодыя— кранальнае танга "Пласцінка старая", якую ў 2-й дзеі спяваюць Памела і Сол). Такім чынам, звонкае слова "мюзікл", якім тэатр пазначыў спектакль, не мае да стварэння спадара Самойлава ніякага дачынення.

Цяпер, як высветлілася, кампазітар жыве ў Амерыцы і непасрэдна сутыкаецца з мастацтвам брадвейскіх тэатраў. Гэтая акалічнасць наводзіць на нясмелае меркаванне: калі б у ім, як у героях п'есы Дж. Патрыка, раптам прачнуліся гуманныя пачуцці, ён здолеў бы не толькі паглядзець праўдзе ў вочы і шчыра прызнаць абсалютную бездапаможнасць свайго "опуса", але і ацаніць належным чынам майстэрства беларускага аранжыроўшчыка Уладзіміра Ткачэнкі, які "апрануў" напісанае Самойлавым у сучаснае моднае адзенне і такім чынам быццам даў усяму гэтаму другое жыццё. Хаця ў выніку атрымалася штосьці накшталт замежнай цукеркі: з выгляду — прыгожа, а на смак — брыдка.

Сп. Самойлаў ацаніў бы і вынаходніцтва рэжысёра Б. Уторава, які ўвёў у тканіну спектакля адсутныя ў партытуры харавыя ды балетныя ўстаўкі. Нарэшце, ён разам з іншымі гледачамі захапіўся б тым густам, з якім мастак Б. Герлаван афармліў сцэну.

Аднак, нягледзячы ні на што, свабоднага месца для музыкі ў спектаклі ўсё роўна застаецца зашмат. Бадай, зародкавы стан музычнага матэрыялу ў "Дарагой Памеле" — гэта галоўная прычына, якая ставіць мяне ў тупік і як крытыка, і як гледача. Бо **драматычныя** спектаклі я прывыкла глядзець на сцэнах адпаведных тэатраў.

Калі разглядаць "Памелу" перш за ўсе як драматычны спектакль, дык і ігру акцёраў трэба ацэньваць з адпаведных пазіцый. А тады пачынаеш разумець, што далёка не ўсё ў гэтым сэнсе пераконвае. Падчас спектакля я не раз — на жаль! — лавіла сябе на думцы, што многае ў ігры акцёраў мяне нават раздражняе. Бо п'еса Дж. Патрыка — парадаксальная, у ёй шмат умоўнасцяў і выключна тэатральных прыёмаў. Ну, не бывае ж такога ў жыцці, каб злодзеі, якія задумалі забойства, раптоўна перавыхаваліся пад уплывам блазнаватага аб'екта сваіх злачынных замахаў! Але ў тым і справа, што тое, чаго не бывае ў жыцці, мажлівае ў тэатры. Толькі тут важна адразу ж вызначыць умовы гульні і адшукаць для гэтага патрэбную танальнасць.

Аднак, на мой погляд, спектакль "Дарагая Памела" атрымаўся груваскі, абцяжараны рознымі сэнсамі і таму — крыху навучальны, маралізатарскі. Яму бракуе пэўнай лёгкасці, так бы мовіць, вытанчанасці. Сцэна і нават сама зала тэатра музычнай камедыі аказаліся залішне вялікімі — у сэнсе габарытаў — для такой камернай п'есы. Гэта твор не масавы, нягледзячы на тое, што масавыя сцэны, безумоўна ж, упрыгожваюць яго. Але, нават калі б і не было там прыдуманых рэжысурай "дамавікоў" (пра сябе я ахрысціла іх "гнюсікамі") — добрых геніяў Памелы, якія насяляюць яе ўбогае жытло і якіх паказваюць артысты кардэбалету (балетмайстар У. Іваноў), гэта нічога не змяніла б у канве спектакля. Як нічога не змяніла б у ёй і адсутнасць хору (хормайстар С. Пятрова), бо хор выконвае ў "Памеле" толькі адзін (!) вакаліз, ды і той гучыць у фанаграме (!!!).

Жанравая нявызначанасць спектакля (драма? фарс? музкамедыя?) бянтэжыць, напэўна, і саміх акцёраў. Бо ўсе яны іграюць у розных ключах: В. Пятліцкая і В. Шабуня (Глорыя і Брэд) — у драматычным, А. Касцецкі (Урач) — у фарсавым, А. Ранцанц (Сол) — у камедыйным. І кожны з іх пасвойму пераканаўчы, і ў ігры кожнага ёсць сапраўдныя азарэнні. Але нельга сцвярджаць, як той кажа, "адназначна", што акцёры дасягаюць ансамбля.

Безумоўна, галоўная цэнтраімклівая сіла спектакля — Памела Кронкі (Н. Гайда). Гэта яе, 50-гадовую "старую", задумала забіць крымінальнае трыо Сол — Глорыя — Брэд. І гэта яна дабрынёй і душэўнай адкрытасцю быццам прыручыла сваіх патэнцыяльных забойцаў, ачалавечыла іх.

Гераіня Н. Гайды кранальна-бездапаможная, і менавіта гэтым абяззбройвае з першай хвіліны. Актрыса, як заўсёды, захапляе дакладнасцю і асэнсаванасцю сцэнічных паводзін. Аднак дазволю сабе заўважыць, ейная Памела значна маладзейшая за тую, за якую спрабуе сябе выдаць. Абаяльнасць Н. Гайды самадастатковая, і залішняй падаецца "старэчая" хада ды іншыя "спецэфекты", якімі актрыса стараецца надаць сабе ўзросту. Прынамсі, хацела яна ці не, а ейная Памела атрымалася такой, пра якіх кажуць: жанчына без узросту. І менавіта гэта апраўдвае многае ў ейных узаемаадносінах з Солам.

У "Дарагой Памеле" рэжысёр Б. Уораў застаецца верны сваім творчым прынцыпам, якія выяўляюцца ў ягонай зацікаўленасці сапраўднай драматургіяй. Дастатковa прыгадаць такія адметныя яго пастаноўкі на сцэне гэтага тэатра, як "Джулія" паводле рамана С. Моэма "Тэатр" ці "Шклянка вады" па матывах аднайменнай п'есы Э. Скрыба. Відавочна, Б. Утораў імкнецца ствараць свой тэатр, які стаіць на памежжы драмы і музыкі. Але гэтыя памкненні даюць плён тады, калі лібрэта і музыка з'яўляюцца саюзнікамі рэжысёра, а не ягонымі працаўнікамі. Мне здаецца, што п'еса Дж. Патрыка больш прыдатная ўсё ж для ўвасаблення на сцэне драматычнага тэатра. І таму, гледзячы "Дарагую Памелу" ў тэатры музычным, міжволі ўсведамляеш, што ствaральнікі яе "аперэтачнай версіі" спачатку выдумлялі сабе неверагодныя цяжкасці, а цяпер гераічна іх перамагаюць.

**Вольга БРЫЛОН**

*Фота Віт. АМІНАВА*



*Памела Кронкі — народная артыстка Беларусі Наталля ГАЙДА, доктар — Анатоль КАСЦЕЦКІ.*



*"Крымінальнае трыо" прадстаўляюць заслужаны артыст рэспублікі Арнольд РАНЦАНЦ, Віктар ШАБУНЯ ды Валянціна ПЯТЛІЦКАЯ.*

ТЭАТР

# Фокусы, танцы, жарты

***Беларускі тэатр "Лялька", што ў Віцебску, — адзін з лепшых тэатральных калектываў нашай рэспублікі. Ён мае моцную прафесійную маладзёжную трупу, разнастайны цікавы рэпертуар з высокай сцэнічнай культурай, цудоўнае ўтульнае памяшканне (былы будынак гаркома партыі) з утульнай глядзельнай залай, зручнай для працы сцэнай, якая абсталявана сучаснай навейшай гукавой і асвятляльнай апаратурай. Усё зроблена для таго, каб гледачу было ўтульна, цікава і радасна. Сапраўды — казачны дамок з атмасферай цяпла і святла.***

Апошні спектакль, які стварылі віцебскія лялечнікі ў студзені 1998 года,— усім вядомыя "Брэменскія музыкі". П'еса напісана па аднайменнай казцы братоў Грым драматургамі з Масквы Васілём Лівaнавым і Юрыем Энціным. Менавіта па іх драматургічнаму твору створаны ўсім вядомы мульцік з цудоўнай музыкай Генадзя Гладкова.

Але што больш за ўсё ўражвае? Тое, што на лялечнай сцэне персанажы "мульціка" размаўляюць па-беларуску. На мой погляд, Пятром Ламанам (артыстам тэатра імя Я. Коласа) зроблены вельмі якасны пераклад. Ён не страціў сваіх літаратурных каштоўнасцей у параўнанні з рускім арыгіналам. Вельмі якасна зроблены пераклад тэкстаў песень (зонгаў) і яны арганічна спалучаюцца з музыкай Г. Гладкова.

Вядомая казка пра вандроўных музыкаў з Брэмена набыла ў пастаноўцы рэжысёра Віктара Клімчука, мастака Алеся Сідарава, мастака па касцюмах Ганны Сідаравай цікавае сцэнічнае ўвасабленне — цырк на сцэне. Усе дэталі: рэжысёрскія і сцэнаграфічныя знаходкі, акцёрскае выкананне, падпарадкоўваюцца вызначанаму жанру як музычнай казцы-фантазіі. У прадстаўленні ёсць усё: музыка, фокусы, танцы, жарты.

Сцэна нагадвае стылізаваную цыркавую арэну з усялякай яе атрыбутыкай: лесвіцамі, трапецыямі, рознымі скрынямі, якія нясуць шматсэнсавую нагрузку і на вачах відазмяняюцца. Дзеянне разгортваецца імгненна. Артысты з першых хвілін заваёўваюць увагу гледача сваёй ансамблевасцю, шчырасцю, глыбокай верай у прапанаваныя рэжысёрам абставіны ад пачатку і да самага канца спектакля. Гэта і Алег Рыхтар у ролі Трубадура, і Вольга Маханькова ў ролі Прынцэсы, і Алесь Маханькоў у ролі Шута і Сышчыка, і Юрась Франкоў у ролі Асла... Ды што тут казаць?.. Уся трупа (усе як адзін) сваёй ансамблевасцю, прафесійнасцю стварае сапраўдную атмасферу свята. Што адметна? Тое, што артысты спяваюць не пад фанаграму, а сваімі жывымі *галасамі*, — такое ў *тэатрах* лялек сустракаецца рэдка. У спектаклі занята ўся трупа тэатра — усе надзвыя музычныя і пластычныя, аб чым сведчаць танцы і пластычныя сцэнкі, пастаўленыя балетмайстрам Анатолем Кастрыцкім.

У спектаклі выкарыстаны планшэтныя лялькі, маскі — выразныя, гратэскавыя. Узаемаадносіны артыста і лялькі распрацаваны дакладна ў выразных мізансцэнах. Альянс лялька-артыст атрымаўся і прагучаў дастаткова пераканаўча. Персанажы-людзі выконваюцца артыстамі ў драматычным (ці, як кажуць, "жывым") плане і арганічна спалучаюцца з казачнымі персанажамі — лялькамі. Звароты артыстаў, казачных персанажаў да гледачоў (а таксама іх выхады ў залу, да гледачоў) апраўданы жанрам пастаноўкі. Усё вытрымана з пачуццём меры і густам.

**Сяргей ЮРКЕВІЧ,**
**навуковы супрацоўнік**
**Бел ІПК**

Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ

# Шляхі і вяртанні

## Кароль

Полацк — не Адэса, ды і я — не Бабель, але, дзіўна, што калі я, ужо будучы студэнтам, упершыню прачытаў пра славутага Беню Крыка, мне адразу ўзгадалася нешта падобнае ў куміры майго юнацтва, назавём яго, да прыкладу, Мішка, бо ён і сёння палачанін, і хто ведае, як успрыме гэты мой аповед, калі, канешне, прачытае.

Пра тое, як я раптам са звычайнага вундэркінда і выдатніка стаў даволі неблагім футбалістам, вядомым нават гарадскім заўзятарам, я ўжо распавядаў. Дык вось менавіта ў той час выхаду з падлеткавага стану і пакутлівага самасцвярджэння лёс і звёў мяне з Мішкам і яго камандай, рамантычнымі каралямі вуліц і вулак майго роднага горада, якія сцвярджалі свае права на гэта ў дробных і буйных сутыкненнях з грамоўскімі ці задзвінскімі, себежскімі і іншымі групоўкамі, на якія быў падзелены наш невялікі гарадок.

Гэта былі не сённяшнія "разборкі" са стрэламі, ножыкамі і касцетамі, з нечалавечай жорсткасцю і цынізмам. Адзінае, што магло пайсці ў ход, — гэта штыкетнік, ды і то рэдка, а ў асноўным баявая перамога дасягалася моцай кулакоў і спрытам.

Дык вось пра Мішкавы кулакі і смеласць хадзілі легенды. Мой аднакласнік Воўка Хадоранка быў асаблівы майстар на іх, і з яго гарачай хуткагаворкі перада мной паўставаў нейкі Робін Гуд ці Айвенга, бясстрашны, моцны, справядлівы.

Гэтага Робін Гуда мне давялося ўбачыць на свае вочы неўзабаве. Здарылася тая сустрэча на беразе Палаты ў летні спякотны дзень, куды мяне Воўка неяк зацягнуў пакупацца. То было не наша месца, бо мы звычайна купаліся каля Спас-Ефрасіннеўскага манастыра, або крыху далей, дзе некалі быў млын, і Палата выглядала значна шырэйшай. А тут, бліжэй да Ліцейкі, маленечкага заводзіка, непадалёк ад Чырвонага маста, я практычна не бываў ніколі. Стыхійны пляжык быў у самым нізе высокай стромы, з палоскай жоўценькага пяску і з заліўным лугам насупраць, дзе выдзяляліся плямы дзьмухаўцоў і пасвіліся козы.

Мы з Воўкам распрануліся і паволі ўвайшлі ў жоўтую і хуткаплынную палатоўскую ваду, якая прыемнай прахалодай аблашчыла самлелае ад спякоты цела. Плаваць я навучыўся прыкладна ў той час, як і гуляць у футбол, таму нешырокая Палата была якраз па мне, і я з уяўнай ліхасцю лёгка пераплыў на супрацьлеглы бераг.

Раптам у хмызах і зарасніках з вышыні правабярэжжа загрукатала ўніз старое веласіпеднае кола. Пляжык напоўніўся дзявочым віскатам і мужчынскімі мацюкамі. І тут я ўбачыў аднавокага хлопца-суседа па мянушцы Касы, які нядаўна прыйшоў з калоніі, некалькі яго хаўруснікаў, а насупраць загарэлыя постаці незнаёмых хлопцаў, сярод якіх вылучаўся невысокі, з бронзавым загарам, з па-жаночаму прыгожым тварам, на якім выдзяляліся крыху мангольскага разрэзу вочы і шырокая белазубая ўсмешка.

— Глядзі, глядзі, — Мішка Фурман, — горача зашаптаў мне на вуха Воўка. — Што зараз будзе!..

Цалкам размовы паміж бакамі з таго берага чуваць не было. Толькі адна фраза данеслася да мяне. Сказаў яе Мішка:

— Я табе, дрэнь, людзей палохаць не дам!

Затым адбылося некалькі кароткіх рухаў, і хаўруснік Касога, падымаючыся з пяску і адплёўваючыся, хутка адбегся ўбок з гучнымі мацюкамі. Касы таксама нешта пагрозліва крыкнуў і разам з хеўрай пакінуў поле бою.

Я пільна прыгледзеўся да Мішкі. Ён быў увесь пакрыты роўным залацістым загарам і нагадваў нейкую старадаўнюю статуэтку. Нягледзячы на малы рост, ён выглядаў стройным і падцягнутым, з рэльефнай мускулатурай і вялізнымі кулакамі, тымі славутымі кулакамі, пра якія я ўжо быў начуты. З лянівай грацыяй ён павярнуўся да сябрукоў, нешта весела ім сказаў, і ўсе дружна пайшлі ў,ваду.

Дома я ўзгадваў гэты эпізод некалькі разоў, бы кінастужку пракручваў яго ў сваёй памяці. Гэтыя бронзавыя постаці, гэты высакаваты Мішкаў голас і слова "дрэнь" замест звыклых у такіх выпадках мацюкоў, гэтая пераможная ўсмешка будзілі ў маёй душы дзіўнае захапленне, прагу такой вось мужнай упэўненасці і сілы.

Так на пэўны час Мішка Фурман, Мішка-Кароль стаў маім кумірам. Я пачаў бываць на танцпляцоўцы, куды хадзіў ён са сваёй кампаніяй. Дарэчы, і кампанія гэта была вельмі непадобная на звыклыя вулічныя кодлы. Хлопцы былі акуратныя, добра апранутыя, без характэрнай прыблатнёнасці, дужа спартыўныя. Гэта былі "гарадскія" — дзеці інжынераў і настаўнікаў, вайскоўцаў, а не такіх бацькоў, як у Касога, дзе маці, гулящчая тоўстая кабета білася, як у нас казалі, усю дарогу, з п'яніцам-мужыком, аглушаючы ўвесь наш прыгарадны пасёлак дзікімі крыкамі і лаянкай.

У Мішкавай кампаніі аказаўся і Юрка, брат аднакласніцы маёй сястры, якога ўсе звалі Юрка-музыкант, бо ён добра іграў на піяніна і прыгожа спяваў, а таксама займаўся ў баксёрскай секцыі і добра гуляў у тэніс. Ён быў сынам нейкага міліцэйскага начальніка, і мая сястра, якая ў іх бывала дома, распавядала мне пра дываны і крышталь, якіх у Юркавай хаце было поўна.

Менавіта праз Юрку і я стаў бываць у Мішкавай кампаніі. На танцах, на пляжы, у кіно, часам нават прагульвацца па вуліцы. Прынялі мяне досыць спакойна, дакладней, не прынялі, а моўчкі згадзіліся з маёй прысутнасцю, нікуды, зрэшты, не запрашаючы. Калі што-небудзь раптам адбывалася, усе дружна знікалі, пакідаючы мяне аднаго. Ад гэтага я страшна пакутаваў. Я марыў, каб на нас напалі, каб завязалася бойка, і я б тады даказаў, што я варты быць з імі, што смелы, што нічога не баюся. Я ўяўляў, што мяне пахваліць сам Мішка, і я стану яго правай рукой.

А Мішка, дарэчы, мяне нібыта зусім не заўважаў. Ён усміхаўся сваёй белазубай жарсткаватай усмешкай і глядзеў неяк праз мяне, нібы я быў празрысты. Аўтарытэт у кампаніі ён меў незвычайны. Прычым, ні разу ні на каго не ўзвысіў голас, не вылаяўся. Гаварыў ён, крыху расцягваючы словы, голас быў высокі, грудны, а ў вачах, недзе ў глыбіні, хаваліся ільдзінкі. Біўся, казалі, ён жорстка, зацята, і мала хто вытрымліваў ягоны напор. Такім чынам, ён узвысіў свой прэстыж на ўвесь горад, і з ім вымушаны былі лічыцца ўсе рэгіянальныя аўтарытэты.

Мішка не піў, не курыў, і пітво ў кампаніі не заахвочвалася. Затое бокс, каратэ, "качанне" мышцаў было штодзённым заняткам.

Але мне так і не было наканавана ўліцца ў шэрагі. Аднойчы чамусьці не Юрка, а Васька па мянушцы Чук (у кампаніі быў і Гек) адазваў мяне ўбок і, хаваючы вочы, сказаў:

— Ведаеш, ты не хадзі з намі. У нас свае справы.

Перажыў я такую абразу вельмі балюча. Каторы ўжо раз мяне нібыта ставілі на месца, адводзілі свой, нібыта некім вызначаны, кут, не даючы здзейсніцца марам і спадзяванням.

Прайшлі гады. І неяк на вуліцы я, што гаворыцца, нос у нос сутыкнуўся з Мішкам. Ён, вядома, пастарэў, пагрузнеў, але быў такі ж прыгожы, з той жа ўсмешкай. Мішка загаварыў першы:

— Начуты, начуты пра твае поспехі. Не зазнаўся, памятаеш старых карашкоў?

І тон, і сама размова былі зусім іншымі. Нібыта нейкі бляск памутнеў, нібыта нейкі арэол знік. Перада мной стаяў звычайны, зусім ужо не юначага ўзросту, чалавек. І толькі льдзінкі ў вачах, высокі голас з расцяжкай нагадвалі былога полацкага караля.

Мы пайшлі ў парк. Там былі пасівелы Чук, распаўнелы капітан міліцыі Юрка. Мы пілі халоднае нясмачнае віно, закусвалі піражкамі з рысам. Гаворка не надта клеілася. Мішка пайшоў праводзіць мяне на аўтобус.

— Ты думаеш, чаго я тады цябе выгнаў? Бачыў, што не твая гэта справа — морды біць. Добра, што я не сеў, ды Юрка ментом стаў. А хто я цяпер. Шафяруга просты. — І тут жа, голас крыху напяўся: — Але ты памятаеш, я быў кароль?

Было сумна і адзінока. Яшчэ адна старонка аказалася перагорнутай, яшчэ адно летуценне спусцілася на зямлю.

Потым мы сустрэліся яшчэ. Гэта ўжо было зусім нядаўна. Мішка пасівеў, ад яго пахла вінам:

— Ты ведаеш, жонка цягне за мяжу. А я не хачу. Тут мая радзіма.

А потым зноў:

— Ты памятаеш, кім я быў? Ды ўсе мае сёння пры пасадах, а Яшка з Лёвам выехалі, капіталісты сраныя. А я тут! — І ён сціснуў свае магутныя кулакі. — Я тут!..

Нядаўна я даведаўся, што Мішка круціць баранку ў фірме свайго стрыечнага брата. Жонка з сынам усё ж з'ехалі, а ён стаў папіваць. Ды біцца з ім па-ранейшаму ніхто не адважваецца.

## Меціна

Лёнька Ганжа быў такі ж тоўсты і магутны, як у дзяцінстве. Хіба толькі жывот вырас яшчэ большы, ды вочы заплылі на круглым, як поўня, твары.

— Ну, здароў, здароў, начальнікам, кажуць, стаў, — голас яго, нечакана тонкі для такога рыхлага цела, здаецца, слаўся лагодай. — А я, брат, трактарыст у домакіраўніцтве. Можа, па піву ў гонар старой дружбы?

"Па піву, дык па піву, — падумаў я. — Сапраўды, сто гадоў не бачыліся".

Знак Лёнькавай дружбы быў у мяне на правай скроні. Як цяпер памятаю той кавалак цагліны і ліпкую цёплую кроў, якая заліла ўвесь твар. Лёнька тады напалохаўся і ўцёк, а я, не ведаючы, што рабіць, мачыў і мачыў галаву ля студні ў драўляным жолабе, адкуль пілі коні, аж пакуль не выскачыла з хаты цётка Верка і не залямантавала, што трэба да доктара.

Дома нікога не было, і ў паліклініку мяне павёў Валодзька Казанцоў, хлопец ужо даволі дарослы, гадоў пад шаснаццаць, які весяліў мяне ўсю дарогу, стараючыся не глядзець на маю маечку, якая з белай хутка ператваралася ў брудна-ржавую ад крыві, што цурком цякла з раны. Галаву мне зашылі, перавязалі, і я ляжаў, запознена напалохаўшыся і шкадуючы сябе, у хаце, і мама глядзела на мяне сваімі вялікімі прыгожымі вачыма, у якіх была трывога і роспач.

Лёньку прывяла яго маці Гэля — мажная прыгожая кабета.

— Прасі прабачэння, нягоднік, — крычала яна. — Чуць не забіў хлопца! — Вы ўжо, Навумаўна, даруйце яго, пацаны, што зробіш.

— Даруй, — выдавіў з сябе Лёнька.

Я хацеў нешта адказаць, але да горла падкаціў камяк, на вачах паказаліся слёзы, і я моўчкі хітнуў галавой, і адвярнуўся да сцяны.

— Ну, як жывеш? — перабіў мой успамін дарослы Ганжа. — Жаніўся, чуў. Жонку хоць нашу ўзяў, рускую?

— Беларуску, — адказаў я.

— Ат, адзін хрэн, рускую ці беларуску. Праваслаўную значыць, — ні то з ухвалой, ні то са шкадаваннем сказаў Лёнька.

Ох, ужо гэтае "рускую ці беларуску" зноў нагадала мне тое Лёнькава "Зяма" і яшчэ "Хаім, Хаім, скажы маме, што я папаў пад трактара". Я тады наляцеў на Лёньку, не памятаючы сябе. Я малаціў маленькімі кулачкамі па ягоным пузе, па пульхных шчоках, глытаючы слёзы крыўды. Не чакаючы ад мяне такога напору, ён гучна соп, а потым раптам кінуўся ўцякаць. І толькі адбегшыся метраў на дзесяць, ён і кінуў тады тую злашчасную цагліну.

Увогуле, у нашым пасёлку мяне любілі і ніколі не дражніліся. Вось толькі Лёнька, як кажуць, дыхаў няроўна. Нягледзячы на свае габарыты, ён быў плаксівы і звяглівы, і калі з яго здзекаваліся старэйшыя нашы хлопцы, ён браў рэванш у спрэчках з намі, малечай.

Я бегаў з сябрамі і ніколі не задумваўся, такі я, як усе, ці не, аж пакуль аднойчы Толік Буцель, ужо жаніх з вусамі, падышоў неяк да мяне і, дыхаючы перагарам, сказаў:

— Ты ведаеш, што значыць "кус мір іх тохас"?

— Не, — шчыра здзівіўся я.

— Дык схадзі, у бабулі сваёй спытай.

Бабулі маёй было ўжо за восемдзесят. Яна была такая ж вясковая старая, як і суседскія, яе любілі за спагадлівы характар, вострае, часам салёнае слоўца.

У адказ на маё пытанне яна спахмурнела і сказала:

— Ніколі не гавары гэткіх слоў. А Буцель дурань. Так яму і скажы!

Вечарам я чуў, што яна нешта выгаворвала маці на незразумелай мне мове, а маці маўчала, а потым сказала па-беларуску:

— Хай прывыкае. У жыцці яшчэ ўсякае будзе.

У сям'і ў мяне гаварылі па-простаму. Праўда, маці, настаўніца па адукацыі, якая вымушана была працаваць у саўгасе брыгадзірам, у канторы і з бацькам размаўляла па-гарадскому, бацька ж гаварыў, картавячы і з акцэнтам, які вельмі ўжо адрозніваўся ад гаворкі мясцовых мужыкоў.

Гэта Лёнька, відаць, напісаў крэйдай на плоце каля нашага дома "Хаймы". Ніхто гэты надпіс не сціраў, бо маці сказала, што калі пачнеш крыўдзіцца, то будзе яшчэ горш, і трэба не звяртаць увагі.

Цяпер мы з Лёнькам пілі піва, і ён пытаўся ў мяне, чаму я так люблю беларускую мову:

— Ты, я ўсё слышу, па-беларуску і па-беларуску. І дома што-лі так разгаварываеш?

— І дома, — сказаў я, стараючыся спыніць далікатную тэму. Я не любіў гэтых гаворак пра мову, як і з боку тых, хто спяваў, як на такавішчы, што мова — душа народа, так і ад такіх, як Лёнька, якія бясконца паўтаралі:

— Ай, зачэм нам этат язык — грубый, ня рускій і ня беларускій.

Для сябе я ўсё вырашыў даўно, і дзеці мае першыя ў жыцці словы чулі на мове Купалы і Караткевіча. Яшчэ калі быў школьнікам, менавіта Караткевіч запаліў у душы шчаслівы і светлы агонь высокага захаплення і замілавання ад простых і знаёмых слоў, на якіх, аказваецца, можна выказваць высокія і светлыя пачуцці.

Я плакаў разам з героямі "Сівой легенды" і "Чазеніі", я любіў гэты мужны і цярплівы народ, я хацеў служыць яму і быць разам з ім.

Стаць беларусам было нялёгка. Я лавіў непаразуменне ў вачах некаторых блізкіх людзей і нават сяброў, а з боку тых, хто, як я, быў такі ж кучаравы і чарнявы, нават крыўду.

— Не трэба адмаўляцца ад свайго народа, сынок, — сказаў мне аднойчы мой мудры настаўнік. — Любі Беларусь, але памятай, хто твае продкі. Гэта вялікі і шматпакутны народ.

Так сталі ўва мне жыць памяць продкаў і гонар за свой край, за яго людзей і герояў.

— Ненавіджу, — гаварыў адзін пісьменнік другому, думаючы, што я сплю. — Ненавіджу іх за іх хітрасць, усіх гэтых Зям, Сім, Ісакаў! Сасуць яны нашу кровушку!

— Не, Валянцін, ён не такі, як яны, — абараняў мяне сябар. — Ён наш, ён сапраўдны, вось пабачыш!!

Да гэтага мы добра-такі "ўзялі" ў гонар маёй першай сур'ёзнай публікацыі, і я, стомлены пасля дарогі, прылёг на ложак і заснуў аказваецца, не вельмі моцна.

— Люблю я вашых, — п'яна ўсміхаючыся, гаварыў дзядзька Юзік у палескай вёсцы, які прыйшоў да цешчы з бутэлькай, каб пагаварыць з Зосьчыным зяцем. — Гэта не мы, цурбаны бесталковыя, вы і дзетак вучыце, і адзін аднаго цягнеце.

Я заўсёды не любіў гэткіх размоў. Як было мне растлумачыць, што я зусім іншы, што баліць і беларускае слова, і лёс пакутнікаў і мудрацоў, якія далі свету столькі геніяў і філосафаў... Але зямля мая тут, і іншай мне не трэба.

— Ну, а дзяцей як назваў? — зноў перабіў мае думкі Лёнька.

— Оля і Максім!

— Глядзі ты, па-беларуску. Усё, значыцца, чын па чыну!

— Значыць, так.

Піва было дапіта. Мы развіталіся. Я ішоў, а ў галаве круціліся радкі:

***Беларусь мая, сонца,***
***Дарагая і родная маці!***
***На якіх раздарожжах***
***Згубіла ты шчасце сваё?***
***Ці ўдасца хоць дзецям***
***Шчаслівага дня дачакаці***
***Пасля мужнасці гэткай,***
***Пасля стольніх крывавых баёў?***[1]

## Душанбе

*Ах, Эривань, Эривань,*
*или птица тебя рисовала...*
**О. Мандэльштам**

Сёння, калі па тэлевізары бачу жорсткія барадатыя твары, трупы людзей на вуліцах і танкі на фоне гор, з нейкім здзіўленнем узгадваю, што давялося пабываць у тых краях у зусім іншы час і з зусім іншым настроем. Бо як і ўсё ў жыцці, што адбылося і пакінула след, легла недзе ў сховах памяці гэтая назва Душанбе, як нешта роднаснае і блізкае. Бо была маладосць, быў церпкі, ні з чым не параўнальны водар сярэднеазіяцкага горада, быў побач сябра дзяцінства, і было адчуванне роднага краю, ад якога, хоць і на час, але адарваўся, і куды хацелася вярнуцца.

Лёс увогуле нечаканы і непрадказальны. І каб не тая выпадковасць, ніколі не ведаць мне, як пахне інжыр на вясковых вуліцах, як гудзе на розныя галасы ўсходні базар, як пікіруюць кажаны проста на выпадковых прахожых, свішчучы каля вуха і абдаючы гарачым і смуродным дыханнем. Якой далёкай аказалася рэчаіснасць Усходу тады ў параўнанні з рэкламным ролікам, што круцілі перад пачаткам сеанса ў кінатэатрах пад агульным цыклам "Дзесяць хвілін па СССР".

---

[1] *У. Караткевіч. Паўлюк Багрым.*

*(Працяг на стар. 14)*

## Сустрэча-ўспамін

**У жніўні—верасні мінулага года на Магілёўшчыне праходзіў II Міжнародны пленэр па жывапісе імя В. К. Бялыніцкага-Бірулі. Сустрэчы з мастакамі ў сэрцах многіх бялынічан пакінулі незабыўны след. І вось аматараў жывапіснага мастацтва чакае новая сустрэча. На гэты раз, праўда, не з самімі творцамі, а іх карцінамі. А паспрыялі гэтаму супрацоўнікі Бялыніцкага раённага мастацкага музея імя В. К. Бялыніцкага-Бірулі і Магілёўскага абласнога мастацкага музея імя П. В. Масленнікава. З фондаў апошняга ў бялыніцкім музеі і адкрылася выстава работ удзельнікаў II міжнароднага пленэру па жывапісе імя В. Бялыніцкага-Бірулі.**

**Паўсотні твораў экспазіцыі умоўна можна падзяліць на тры тэматычныя групы. Першую складаюць карціны, у якіх адлюстраваны краявіды Крынак (радзіма В. Бялыніцкага-Бірулі), ваколіцы Бялыніцкага раёна — "Радзіма. Крынкі" Мікалая Ісаёнка, "На радзіме Бялыніцкага-Бірулі" Пятра Данелія, "Раніца ў Бярозаўцы" Барыса Аракчэева, "Бялыніцкая крыніца" Мікалая Ліханенкі і іншыя.**

**Зразумелую цікаўнасць у гледача выклікаюць і работы мастакоў, створаныя імі на Удомельшчыне (Расія) — у ваколіцах Бірулевага лецішча "Чайка", — "Возера Мсціно. Ветраны дзень" І. Сцяпанава, "Чайка" Барыса Аракчэева, "Над возерам" Дзмітрыя Алейніка, "Чайка" Мікалая Ісаёнка і інш.**

**Шырока прадстаўлены на выставе і карціны з архітэктурнымі помнікамі Магілёўшчыны. Гэта — "Княжыцы" Леаніда Дударэнкі, "Трохсвяціцельскі сабор" і "Дом Каніскага" Аляксандра Шарамета, "Сабор Трох Свяціцеляў" Уладзіміра Масленнікава.**

**Значную частку выставы складаюць акварэлі магілёўскага мастака Фёдара Кісялёва, маладзечанца Міколы Аўчыннікава, паляка Ежы Удзелы.**

**Надзея ПАЛОННІК**

## Карыстаюцца попытам



**Мазырскія керамічныя вырабы ўжо набылі вядомасць далёка за межамі Беларусі — дзеці з раёнаў, якія пацярпелі ад чарнобыльскай аварыі, выязджаюць на аздараўленне і вывозяць гліняныя фігуркі па ўсёй Еўропе. І, трэба сказаць, яны паўсюдна карыстаюцца попытам. Відаць, таму, што тутэйшыя майстры ўкладваюць у свае вырабы душу.**

*На здымку: новыя кампазіцыі "Вось дык грыбы" і "Дворнік".*

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА*

## Лёс адмераў няшмат...

**Юрый Рудзько, з дня нараджэння якога 27 чэрвеня спаўняецца 85 гадоў, пражыў няшмат — памёр 4 лютага 1948 года. Пасля заканчэння сярэдняй школы ў родным Бабруйску настаўнічаў на Случчыне. Закончыў літаратурны факультэт Беларускага вышэйшага педагагічнага інстытута (1933). Пасля загадваў аддзелам літаратуры і мастацтва газеты "Чырвоная змена", служыў у Чырвонай Арміі, быў супрацоўнікам, загадчыкам аддзела "ЛіМа". У гады Вялікай Айчыннай вайны служыў у палітупраўленні Заходняга фронту, 50-й арміі, адказным сакратаром газеты 2-га Беларускага фронту.**

**З нарысамі, артыкуламі, апавяданнямі выступаў з 1931 года. Выдаў зборнік нарысаў "Размова па шчырасці" (разам з І. Дуброўскім, 1935). У сааўтарстве з У. Стэльмахам напісаў п'есу "Канец маскараду", якая была пастаўлена ў 1938 годзе. Найбольш поўна творчая спадчына Ю. Рудзько прадстаўлена ў кнізе аповесцяў, апавяданняў і п'ес "Слава дружбе", што пабачыла свет у 1950 годзе.**

# Шляхі і вяртанні

*(Працяг. Пачатак на стар. 13)*

Душанбе... Нічога датуль не казалі мне гэтыя словы, але раптам туды пасля інстытута па накіраванні паехаў мой блізкі сябар з маладой жонкай, і на канвертах я ўсё часцей стаў чытаць гэтае слова, якое праз год увасобілася ў той стракаты і хуткі калейдаскоп, які дваццаць дзён круціў мяне ў сваім віры, пакінуўшы ўражанні, што толькі, здаецца, цяпер утрамбаваліся, упарадкаваліся і заляглі ў адпаведную ячэйку складанейшага камп'ютэра ўласнай памяці.

Размаіты ўсходні дыван Душанбе ладаваўся перада мной праз шэсць гадзін, калі я ад сакавіцкай, яшчэ са снегам, маскоўскай вясны апынуўся ў зялёным духмяным леце, дзе ртутны слупок трывала спыніўся на дваццаці васьмі градусах цяпла, дзе паветра бруілася, зыбалася перад вачамі, а ногі сталі крыху цяжкаватымі, бо на іх былі асеннія, на тоўстай падэшве "макраступы".

Сябра мой жыў на кватэры ў бухарскіх яўрэяў. За высокім плотам у двары літарай "П" стаялі аднапавярховыя атынкаваныя пабудовы з рознымі верандамі, флігелькамі, у якіх размяшчалася ўсё вялікае сямейства: бацька з маці, старэйшыя жанатыя дзеці і трое малодшых — ад васьмігадовага крываногага таўстуна да зграбнай, тоненькай, як свечачка, семнаццацігадовай дзяўчыны. Па двары бегалі агромністыя страшнаватыя аўчаркі, рос сад і быў невялікі фантанчык. Сябра з жонкай займалі досыць прасторны пакой з невялікай вітальняй, які, як потым высветлілася, прызначаўся для дачкі, калі яна выйдзе замуж.

З радасці ад сустрэчы мы наладзілі сапраўдны фэст. Пілі шатландскае віскі з пукатай бутэлькі (як аказалася потым, увесь Душанбе быў чамусьці завалены гэтым заморскім напоем), елі гарачыя манты з мясам і цыбуляй і плоў — тлусты, духмяны, рассыпчаты. Алесь відавочна быў рады майму прыезду, бо не бачыліся больш за год пасля таго, як сем гадоў дзень у дзень бавілі час разам, як гэта бывае толькі ў ранняй маладосці.

Крыху захмялелыя і асалавелыя ад ежы і пітва, мы выправіліся ў горад. Па маіх уражаннях, Душанбе не выглядаў на сталіцу. Ён быў падобны на які-небудзь наш абласны горад, але толькі ва ўсходнім стылі. Ды і стыль той быў своеасаблівы: брудныя арыкі ўздоўж вуліц, куды, як у нашыя прыдарожныя канавы, скідвалі смецце і вылівалі памыі, мора глінабітных аднапавярховых пабудоў, рэзкія, адрывістыя крыкі ішакоў, брэх сабак. Старыя і маладыя барадатыя мужчыны ў чалмах на галаве, жанчыны ў атласных шараварах. І тут жа — тралейбусы, шматпавярховыя дамы. На базары мы купілі хамячка. Хамячок быў такі сумны і адзінокі ў гэтым віры гартанных воклічаў, цягучых мелодый, якія рваліся з дынамікаў, што яго хацелася хутчэй вызваліць з клеткі, якую трымаў чорны, як галавешка, хлопчык гадоў дванаццаці.

Мы пасадзілі хамячка ў картонную каробку ад ботаў, якую купілі тут жа, на рынку, і прадоўжылі наша падарожжа па сталіцы тады Таджыкскай ССР. То там, то тут мы траплялі на чайхану, нават зайшлі ў адну і папілі зялёнага чаю з печаком — цвёрдымі мучнымі цукеркамі, падобнымі на нашыя "падушачкі".

Ад убачанага кружылася і так крыху затлумленая галава, я адчуваў сябе нібы на здымках нейкага фільма, бо слаба верылася ў рэальнасць усяго, што адбывалася. Алесь успомніў, што жонка ягоная цярпець не можа ўсякіх пацукападобных жывёл, і мы задумаліся, куды ж падзець нашу нечаканую пакупку. Сталі шукаць біялагічны факультэт мясцовага універсітэта. На нашу прапанову падарыць для патрэб універсітэта хамячка студэнткі біяфака, і еўрапейкі, і таджычкі ў шараварах, са шматлікімі коскамі, дружна завішчэлі, замахалі рукамі, некаторыя нават ускочылі на сталы.

Хамячка давялося выпусціць непадалёк ад дома, і лёс яго, хутчэй за ўсё сумны, так і застаўся невядомым.

Вечар мы ўтраіх правялі ў рэстаране пры цэнтральным сталічным гатэлі. Раз-пораз нехта з музыкантаў ні то з грузінскім, ні то з яўрэйскім акцэнтам аб'яўляў:

— А сейчас для наших гостей из солнечного Азербайджана прозвучит эта очаровательная мелодия.

Або:

— Для очаровательной Наташи Гоги дарит эту песню!

— Слухай, давай закажам што-небудзь беларускае, — раптам прапанаваў Алесь.

Скамечыўшы ў кулак грашовую паперку, мы сунуліся да музыкантаў.

— Беларускае? А што мы іграем беларускае? — запытаў у сяброў кіраўнік з вялікімі кучаравымі патламі, на якіх нейкім цудам трымалася цюбецейка.

— Ну, "Песняры", ну, "Касіў Ясь канюшыну", — тлумачылі мы, — ну "Рэчанька", ну "Верасы"...

— Добра, чакайце, — хітнуў галавой хлопец, борздка ўзяўшы купюру.

Мы селі за столік.

— А сейчас для госцей из солнечной Белоруссии прозвучит музыкальный привет, — гэтак жа бадзёра аб'явіў вядучы.

"Чырвону руту нэ шукай вечарамы..." — данеслася са сцэны.

Стала смешна і сумна. Мы вярталіся дахаты цёмнай паўднёвай ноччу. Брахалі сабакі, над рэдкімі ліхтарамі кружылі мятлікі і мошкі. Магутнымі абрысамі навісалі горы. І мне шчымліва хацелася дадому.

Назаўтра мы паехалі на турбазу. Яна належала панчошна-шкарпэткавай фабрыцы, дзе працавалі сябар з жонкай, і размяшчалася ў гарах, на славутым Паміры. "Пазік" раскручваў серпанцін дарогі, дзе з аднаго боку высіўся горны масіў, а з другога была глыбокая цясніна. Калі, не дай Бог, адмовілі б тармазы, ці яшчэ нешта б здарылася з машынай, застацца цэлым шанцу практычна не было. Але шафёр-таджык ліха круціў баранку, не зважаючы на нашы хваляванні.

"Лучше гор могут быть только горы", — загучаў у галаве Высоцкі, калі мы нарэшце сышлі з аўтобуса. Нешта велічна-страшнаватае было ў гэтых маўклівых грамадзінах, якія нібы засланілі ўвесь гарызонт. Снежныя вяршыні зіхацелі пад сонцам недзе высока-высока, і было вусцішна і няўтульна. Алесь дастаў знаёмую пукатую пляшку, і мы крыху перакусілі.

— Ну што, за чорнымі цюльпанамі рванём? — звярнуўся да нас светлавалосы мацачок, якога, як высветлілася, завуць Пецем. Ён быў знаёмы маіх гаспадароў, і я даверыўся лёсу.

Калі мы падымаліся, я глядзеў пад ногі, як вучыў Пеця. Перада мной мільгалі чаравікі пярэдніх, камяні пад рукамі былі цёплыя і шурпатыя, і рухацца было няцяжка.

— А вунь і цюльпаны! — бадзёра выгукнуў Пеця. Наперадзе была другая гара з утравелым ужо схілам, з маленькімі чэзлымі дрэўцамі, якія раслі на ім. Падымацца стала цяжэй. Ногі слізгалі, драпаліся ад хмызняку, раз'язджаліся ў розныя бакі.

— А як спускацца будзем? — раптам запытаў Алесь.

— А вось так, пісталецікам, — бадзёра сказаў Пеця, паказваючы, як гэта робіцца, выцягнуўшы ўперад адну нагу і шпарка паехаўшы па слізкай траве ўніз. — А вы што, у горы ніколі не хадзілі?

Высветліўшы, што гэта сапраўды так, ён раптам загадаў нам спускацца і чакаць яго ўнізе, на сцяжыне.

Доўга запрашаць нас не давялося, і мы кулём пакаціліся ўніз, раздзіраючы аб калючкі ногі і рукі. Але гэта было яшчэ не ўсё. Да нашага здзіўлення, сцяжыны ўнізе не аказалася. Мы стаялі на пясчанай гары, з-пад ног сыпаўся гравій, і раптам маечка, якую я трымаў у руках, выслізнула і з ціхім шоргатам спаўзла на метр-два ўніз.

— Падымі маечку! — загадаў Алесь.

— Ат, чорт з ёй! — адгукнуўся я.

— Падымі маечку, кажу! — заўпарціўся сябар.

Я зірнуў уніз, і ў мяне закружылася галава. Адчуванне было такое, што я стаю на гладкай шафе, з якой вось-вось сарвуся. Але, сціснуўшы зубы, я крыху спусціўся ўніз, падняў маечку, і, не памятаючы сябе, палез уверх, шукаючы праклятую сцяжыну. Там ужо чакаў Пятро, крыху ўстрывожаны і злы.

— Чаго вас на пясчанку панесла? Так і загрымець нядоўга!

Моўчкі, не гледзячы адзін на аднаго, мы спусціліся ўніз. Там, на базе, мы дапілі рэшткі віскі і гэтак жа моўчкі селі ў аўтобус. Мне было сорамна за свае страхі, за праклятую маечку, за тое, што альпініста з мяне не атрымалася.

А яшчэ я баяўся яшчарак. Яны былі паўсюль. Нават на сценах дашчатай прыбіральні ў двары. Іх немігаючыя вочы праціналі наскрозь, і ад гэтага позірку было не схавацца.

А кажаны, пра якіх я ўжо згадваў, асабліва шалёна насіліся ўначы. Сябра казаў, што яны сляпыя, і мне ўвесь час здавалася, што вось-вось яны зачэпяцца за мяне, заблытаюцца ў валасах, і ад гэтага прадчування было агідна.

Я не кажу ўжо пра розных жукоў, сярод якіх запраста мог аказацца скарпіён. Памятаю, раптам уначы крык Сашкавай Раі:

— Скарпіён, скарпіён!..

Мы ўскочылі, запалілі святло, але нікога не ўбачылі. Прасціна была мокрая ад поту, было душна, і я доўга не мог заснуць, прыслухоўваючыся да шоргату над сабой і каля сябе. Тэрмін майго гасцявання сканчваўся, я ўжо даволі добра арыентаваўся ў горадзе, і вось аднойчы, прагульваючыся, убачыў шыльду з надпісам па-руску: "Комсомолец Таджикистана". Пацягнула да калег. У кабінеце рэдактара сядзеў малады бялявы хлопец, як аказалася, беларус з Мінска.

Ён узрадаваўся, дастаў з шафы пачатую пляшку каньяку, папрасіў гаварыць па-беларуску, а потым горача пачаў агітаваць пайсці на працу ў яго газету.

— Слухай, мы з табой тут горы звернем! Наменнікам сваім зраблю, кватэру праб'ю. Ведаеш, як гэтыя чуркі абрыдлі!..

Пляшку мы дапілі да дна, ад прапановы прадоўжыць сустрэчу я адмовіўся. Выйшаў на вуліцу. Прама пад акном рэдактара да чынары быў прывязаны ішак. На гарызонце відненіся горы. І раптам да болю ў сэрцы стала страшна, што ўжо не выберуся адсюль, што не ўбачу сваёй Дзвіны і роднага Полацка, такога цяпер далёкага ад мяне...

Калі праз тыдзень самалёт адрываўся ад узлётнай паласы душанбінскага аэрапорта, я ўжо быў спакойны. Ззаду заставалася такая прыгожая, але чужая зямля, а наперадзе мяне чакаў дом.

Алесь таксама вярнуўся дадому. І мы з ім раз-пораз узгадваем і хамячка, і горы, і маечку, і іншыя шматлікія душанбінскія прыгоды. І яшчэ. Калі сёння чую пра міжтаджыкскі дыялог, бачу тэлевізійныя сюжэты, зробленыя там, успрымаю ўсё неяк паасабліваму, не так, як, скажам, падзеі ў Афрыцы. Дзіўна, але Душанбе застаўся ўва мне, і фарбы,і пахі яго не сцёрліся з гадамі.

Не ведаю, ці сустрэнемся мы болей, хутчэй за ўсё — не.

Дык прымі мой салям, далёкі горад!

НОВАЕ

## Іх, першынцаў, васьмёра

На Беларусі першыя даследаванні ў галіне тэатральнай паэтыкі былі зроблены ў XVII стагоддзі ў працах К. Сарбеўскага, пазней Г. Каніскага і інш. У 1920-я гады праблемы тэатра пачынаюць распрацоўваць найперш дзеячы літаратуры — З. Бядуля, Ф. Аляхновіч і інш., пачынаючы з 1950-х гадоў — тэатразнаўцы У. Няфёд, А. Сабалеўскі, Г. Барышаў, Э. Герасімовіч і інш. А з 1962 г. распачынаецца пастаянная падрыхтоўка тэатразнаўчых кадраў у Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце (цяпер — Беларуская акадэмія мастацтваў), але да 1993 года толькі на завочным аддзяленні.

Сёлета сцены БелАМ пакінуць і пойдуць у самастойны творчы шлях першыя выпускнікі дзённага аддзялення тэатразнаўства. Практычна ўсе яны — а маладых тэатральных крытыкаў васьмёра — размеркаваны на працу па спецыяльнасці. Іх, спецыялістаў шырокага профілю, што, акрамя тэарэтычных мастацтвазнаўчых ведаў, добра валодаюць журналісцкім пяром, чакаюць літаратурныя часткі тэатраў, перыядычныя выданні культурнага накірунку, рэдакцыі выдавецтваў, радыё і тэлебачання рэспублікі, а таксама тэатральныя, літаратурна-мастацкія архівы, музеі і да т.п.

Некаторыя ж змогуць заняцца навукова-тэарэтычнымі распрацоўкамі, паступіўшы ў аспірантуру аддзела тэатра Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Нацыянальнай Акадэміі навук, дзе ўжо больш за 40 гадоў вядуцца фундаментальныя даследаванні ў галіне тэатральнага мастацтва, або ў аспірантуры і навуковых лабараторыях БелАМ.

Дарэчы, Акадэмія мастацтваў у гэтым годзе зноў абвясціла набор на дзённае аддзяленне па спецыяльнасці тэатразнаўства. Ужо пачаліся кансультацыі абітурыентаў, і жадаючыя маюць магчымасць добра падрыхтавацца да ўступных экзаменаў, які, зразумела, як і на іншыя спецыяльнасці гэтай творчай ВНУ, маюць пэўную спецыфіку. У прыватнасці, будучыя тэатразнаўцы пры паступленні здаюць экзамены па спецыяльных дысцыплінах: гісторыі сусветнага і беларускага тэатра вусна, пісьмова — рэцэнзію на спектакль або твор драматургіі.

Уступныя экзамены пачнуцца з 6 ліпеня. А пакуль ёсць яшчэ час больш дакладна пазнаёміцца з умовамі паступлення і праграмай па спецыяльных дысцыплінах, завітаўшы на кафедру гісторыі і тэорыі мастацтваў Беларускай акадэміі мастацтваў.

**В. ІВАНОЎСКІ**

# Кароль Літвы і Русі

***6 ліпеня гэтага года спаўняецца 745 гадоў з дня каранацыі Міндоўга. Падзея, можа, і не эпахальная ў тысячагадовай гісторыі Беларусі, у ланцужку яе змагання за сваю дзяржаўнасць, але даволі значная для разумення сутнасці заснавання і ўтварэння Вялікага княства Літоўскага.***

З часу М. Стрыйкоўскага і па сённяшні дзень ва ўсіх даследаваннях і падручніках па гісторыі князь Міндоўг выступае ў ролі заснавальнікаў Вялікага княства Літоўскага. Пры гэтым ён выступае як князь, які далучыў беларускія землі да "Літвы Міндоўга". Але, па-першае, "Літву Міндоўга" нельга атаясамліваць з сучаснай Літвой. Гэта яскрава даказаў выбітны даследчык нашай мінуўшчыны Мікола Ермаловіч. Летапісная Літва знаходзілася ў Верхнім Панямонні, на тэрыторыі сучасных Слонімскага, Ляхавіцкага, Уздзенскага, Стаўбцоўскага і Маладзечанскага раёнаў.

Па-другое, Міндоўг ніколі не заваёўваў Новагародскае княства, яму самому прыйшлося заваёўваць Літву і далучаць яе да Новагародка.

Па-трэцяе, Міндоўг падаецца ўсімі рускімі летапісамі не як князь-заваёўнік Новагародка, а як князь, якога запрасіла новагародскае веча (мабыць, пасля смерці апошняга князя Ізяслава Новагародскага) на княжанне.

Рускія даследчыкі XVIII і XIX стагоддзяў сходзяцца на тым, што Міндоўг паходзіў з роду Маўкольда. Менавіта яго паходжанне з роду полацкіх князёў Рагвалодавічаў давала яму магчымасць быць запрошаным, паводле "права дзедзічнага", новагародскім вечам на пасаду князя. Толькі гэтае права, а не што іншае, у тыя часы гарантавала ўступленне на княжацкі трон. Нагадаем, што толькі згодна "праву дзедзічнаму" злейшы вораг Міндоўга, таксама літоўскі князь Таўцівіл, у 1262 г. быў запрошаны полацкім вечам на Полацкі сталец, бо быў сынам Глеба Рагвалодавіча.

Упершыню імя Міндоўга ўпамінаецца ў летапісах у 1219 г.: ён выступае сумесна з іншымі балцкімі князямі ў якасці наёмніка галіцка-валынскіх князёў супраць палякаў. У 1237 г. ён, як наёмнік, выступае разам з Ізяславам Новагародскім па загадзе Данілы Галіцкага супраць Конрада Мазавецкага. У 1245 г. ён зноў дапамагае Данілу Галіцкаму ў яго міжусобнай барацьбе. У канцы 1245 ці ў пачатку 1246 г. ён быў запрошаны куршамі для барацьбы з Ордэнам. У ёй ён пацярпеў паражэнне, за ім пагналіся крыжакі, уварваліся ў яго ўладанні. Міндоўг зачыніўся ў сваім горадзе Руце. Хоць крыжакі і не ўзялі яго, але спустошылі зямлю. Гэтае паражэнне Міндоўга выкарысталі яго праціўнікі і выгналі яго з Літвы. Міндоўг мусіў уцякаць "з многімі сваімі баярамі" ў суседні Новагародак. Пазней Міндоўг выгнаў сваіх праціўнікаў з Літвы "вражбою... за ворожьство с ними".

Неабходнай умовай для абрання Міндоўга новагародскім князем было не толькі яго паходжанне з полацкага княжацкага роду, але пераход з язычніцтва ў хрысціянства. У 1246 г. Міндоўг з многімі сваімі баярамі "прия веру Христову от Востока" — прыняў праваслаўе. Гэтым актам Новагародак засведчыў Міндоўга сваім князем для больш паспяховага ажыццяўлення важнейшай дзяржаўнай мэты — заваявання Літвы. У 1248—1249 гг., выгнаўшы з Літвы яе князёў Таўцівіла, Эрдзівіла і Вікінта, Міндоўг "зане Літву", ім была "п о и м а н а  в с я  з е м л я  Л и т о в ь с к а я".

Узмацненне Новагародскага княства і заваяванне ім Літвы было з трывогай успрынята галіцка-валынскімі князямі Данілам, Васількам. Убачыўшы ў Новагародку сваёго небяспечнага канкурэнта, яны адразу ж прымаюць меры для стварэння кааліцыі супраць Новагародскага княства, куды ўвайшлі выгнаныя Міндоўгам з Літвы князі Таўцівіл, Эрдзівіл, Вікінт.

Сабраныя Данілам Галіцкім войскі трыма кірункамі рушылі на Ваўкавыск, Здзітлаў і Слонім, "поидоста к Новогородку и поимаша грады многы и возвратишася в домы свои". Гэта было цяжкім выпрабаваннем для Навагародскага княства, але аб'яднаны паход мэты сваёй не дасягнуў. Па ініцыятыве Таўцівіла зімою 1253 г. галіцка-валынскія князі робяць другі паход — праз Пінск — на Літву і Навагародак. Трапіўшы ў цяжкае становішча, Міндоўг пачаў весці перамовы з магістрам Ордэна Андрэем Сцірландам. Міндоўг пагадзіўся за каралеўскую карону перайсці ў каталіцтва і саступіць Ордэну частку земляў Жамойціі і Селоніі, якія яму не належалі. Магістр абяцаў падтрымаць яго ў барацьбе з Таўцівілам і Данілам.



У далёкі Рым разам з ордэнскімі пасламі адправіўся і Міндоўгаў баярын Парнус. Папа Інакенцій IV выдаў булу, у якой абвяшчаў, што пад пратэкцыю і апеку апостальскай сталіцы бярэ каралеўства Літоўскае і ўсе землі, якія здабыў ад няверных або ў будучым мог здабыць, на правах і ўласнасць Міндоўга з жонкай і яго сынамі і ўсім дваром.

У гэты час Таўцівіл робіць напад на Міндоўгаў горад Руту. Ордэнскі атрад прыходзіць Міндоўгу на дапамогу. У адной з начных вылазак Міндоўг разганяе дружыну Таўцівіла.

6 ліпеня 1253 года Міндоўг карануецца каралеўскім вянцом. Магістр Лівонскага Ордэна Андрэй Сцірланд са сваёю світаю прыехаў на каранацыю. Холмскі біскуп Генрых уздзеў на галаву Міндоўга карону.

Гэта быў першы і апошні акт каранацыі ўладароў беларускай дзяржавы каралеўскім тытулам. Чаму карону Міндоўга не пераняў ягоны сын Войшалк, нашай гістарычнай навукай нават і спроб не рабілася высветліць.

Вядома, што папа Аляксандр IV на Міндоўгаву просьбу пацвердзіў ад 6 сакавіка 1255 г. ягоны каралеўскі тытул і дазволіў каранавацца ягонаму сыну Руклю на каралеўства.

Міндоўг шчодра аддзячыў Ордэн і падпісаў некалькі грамат, у якіх саступаў яму Корсь, Яцьвязь, Нальшаны, Дайнову і Жамойцію. Ні адна з гэтых земляў не належала Міндоўгу, гэтым актам ён толькі даваў слова не прэтэндаваць на гэтыя землі. Міндоўг дабіўся таго, каб заснаваць на Літве біскупства са сваёй сталіцай, дзеля чаго даў згоду за ўласныя грошы пабудаваць катэдру. Папа згадзіўся і прызначыў ліцвінскім біскупам ордэнскага капелана Хрысціяна. Міндоўг адпісаў апошняму землі ў Жамойціі, якая не прызнавала ягонай улады і якую ён саступаў Ордэну. Хрысціян не меў ніякіх прыбыткаў і тым самым падпадаў пад залежнасць Міндоўга.

Аднак у выніку пастаяннай агрэсіі галіцка-валынскіх князёў Міндоўг вымушаны быў папрасіць у Данілы міру. Відаць, прапанаваныя ім умовы міру былі непрымальныя для галіцкага князя, бо той здзейсніў яшчэ адзін паход на Літву, на Новагародак.

Няўдачы Міндоўга ў вайне з Галіцка-Валынскім княствам менавіта за Літву паўплывалі на адносіны з новагародскімі баярамі. У 1254 ён пакідае Новагародак, а новагародцы сваім князем выбіраюць яго сына Войшалка. Той і заключыў мір з Данілам Галіцкім на ўмовах, прадыктаваных ім. Міндоўг застаецца княжыць у Літве. Новагародку на гэты раз не ўдалося ўтрымаць Літву.

У 1260 годзе супраць Ордэна паўсталі жамойты, куршы, земгалы. Міндоўг разарваў саюз з Ордэнам, адрокся ад каталіцтва і пайшоў на дапамогу Жамойціі. Няўмелая палітыка Міндоўга прывяла да таго, што ён ухітрыўся з усімі суседнімі дзяржавамі — Ордэнам, Полацкім і Галіцка-Валынскім княствамі, Мазовіяй, Новагародскім княствам пасварыцца. У самой Літве супраць яго выступалі Транята і Даўмонт. Нібыта ў адчаі ён робіць нечаканы для ўсіх крок. Пакінуўшы напрыканцы 1262 г. Літву, Міндоўг адпраўляецца ў Рым шукаць заступніцтва ў папы Урбана IV. Тут ён паўторна ахрысціўся і выпрасіў у папы дараванне за адступніцтва ад хрысціянства. На Літве ён зноў сутыкнуўся з супрацьстаяннем Траняты і Даўмонтам, якія і забілі яго ў 1263 годзе разам з яго жонкай і сынамі Рапіньём і Руклем.

Не Міндоўгу належыць заснаванне новай дзяржавы. Гэтую ролю выканаў яго нашчадак і старэйшы сын Войшалк, які аб'яднаў вакол Новагародка літоўскія і нальшанскія землі, а таксама Дзяволту. Усё гэта і было пачаткам утварэння новай дзяржавы — Вялікага княства Літоўскага, сталіцай якой стаў Новагародак. Асэнсоўваючы гэты важнейшы акт, Войшалк надае сваёй дзяржаве новы дзяржаўны герб "Пагоню". З той прычыны, што Новагародак узнік на землях старажытнай Літвы, Новагародская дзяржава і атрымала назву Вялікага княства Літоўскага.

**Анатоль БЕЛЫ**

*На здымку: партрэт Міндоўга работы Сямёна Геруса.*

***Аляксандр Юдахін — адзін з найблізкіх мне рускіх сяброў-паэтаў. Нас вёў і вядзе па жыцці агульны, не намі для нас выбраны лёс — паэзія. Але ёсць яшчэ ў жыцці і смерці лёсы проста чалавечыя — у кожнага свой.***

***Паэт страціў сына Івана. Іван не памёр ад невылечнай хваробы, не загінуў, як сын Паўла Антакольскага, за святую справу на вайне; яго проста подла забілі ў мірны вясновы дзень амаль у цэнтры Масквы. Знішчылі светлага, чыстага, прыгожага юнака, каб самім па-ваўчынаму замесці сляды. Такая зараз завядзёнка пайшла, так прынята, звычайная рэч.***

***Паэт прыехаў на Беларусь самаратавацца. Да сяброў. Гледзячы на мяне непрысутнымі, перакуленымі вачыма, сказаў: "Мне б памерці за сына, а я тут яшчэ вершы пішу... Не ўсведамляю, не разумею, чым і як".***

***"Не гнявi Бога, — адно што змог я адказаць, — гэта не ты пішаш, гэта голас сына табе з нябёсаў гукаецца. Трывай, слухай, што ён кажа, і не прапусці ані слова..."***

**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**



*Іван Юдахін з бабуляй Людмілай Аляксандраўнай, якая перажыла ўнука на 60 гадоў.*

Александр ЮДАХИН

## Стихи о сыне

*1.*

*Прихватили (раз интеллигент —*
*знать, отец с деньжонкой)*
*кадыкастый голодранец "мент"*
*со стервозной жёнкой.*
*Не сумели силой доказать —*
*исказили слово...*
*Как же вы посмели доканать*
*мальчика больного?!*
*Наш ребёнок не придёт домой*
*ни к отцу, ни к маме:*
*чётко между стуком и тюрьмой*
*выбрал отпеванье.*
*Он лежал среди России всей,*
*мученик-мальчишка...*
*Чтоб ты сгинул, опер Алексей*
*с кобурой подмышкой!*
*Пусть земля раздавит тяжела*
*твой костяк посмертный,*
*пусть твоя подельница-жена*
*проживет бездетной!*
*Пусть теперь болеет головой*
*бесконечно сильно*
*следственный начальник деловой,*
*доконавший сына.*
*Пусть его не пустят даже в ад,*
*чтобы грызть каменья!*
*Будь он проклят, Тынчеров Марат,*
*на седьмом колене!*

*2.*

*Мы с тобой поменялись местами,*
*мой добрый сынок.*
*Стал ты старше меня,*
*потому-то и вышел твой срок.*
*Ты лежишь успокоясь,*
*забыв про смятение чувств,*
*ну а я, седовласый, смиренно у сына учусь.*
*Как бы я ни хотел поменяться*
*с ребёнком в гробу —*
*Бог отдал предпочтенье и милость*
*младому рабу.*
*Как бы мать ни казнилась,*
*желая в сердцах околеть,*
*помоги ему, Господи,*
*без приключений взлететь!*
*Не суди его строго за тяжесть*
*грехов молодых:*
*в Судный день мой приду,*
*виновато отвечу за них!*

*3.*

*Что со мной наделало мученье?*
*Усмири характер боевой,*
*отпусти, Отец, ожесточенье,*
*злость к убийцам сына моего!*
*Перепутал сдуру дни и ночи —*
*на секунду сна перекрести,*
*будь терпимым к страстотерпцу, Отче,*
*за проклятья истые прости!*
*Пусть пока подонков ноги носят:*
*ты меня, глухого, убеди,*
*что Господь с убийц ребёнка спросит —*
*и возмездье грянет впереди!*

*4.*

*Доколе службист-уркаган*
*насиловать будет Россию?*
*Москву расколол ураган*
*на свет и нечистую силу.*
*Разрывы, как бомбы, рвались,*
*взметая рекламы проказу.*
*Потопа бугры дождались,*
*с тяжёлых корней сорвались*
*дубы и столетние вязы.*
*Средь ночи господни рабы,*
*толкая худыми руками*
*свои на кладбищах гробы,*
*вздымали ограды и камни.*
*Трещали опоры, кирпич*
*в песок рассыпался, поверьте —*
*такого сраженья москвич*
*не ведал с начала столетья!*
*Я видел на следущий день:*
*Ваганьково было в завале,*
*могилы героев идей*
*не лучше "блатных" пребывали.*
*Лишь братской могилы святой*
*и детских, и нашего сына*
*несчастного, высшая сила*
*не тронула твёрдой рукой...*

*5.*

*Пока меня с тобою нет,*
*мой сын болезный,*
*кем успокоен, обогрет*
*в долине звездной?*
*Пока мой жребий не решён,*
*кто в жизни вечной*
*тебе накинет капюшон*
*в холодный вечер?*
*Просушит тапочки в ночи?*
*Кому спросонок*
*ты скажешь: — Па, не хлопочи,*
*я не ребёнок!*

*Ведь ты боялся быть один*
*и в доме нашем,*
*не то что средь небесных льдин*
*в пространстве страшном.*

*Мне голос был: Отец и Мать,*
*смиритесь с болью,*
*не нужно отрока смущать*
*земной юдолью!*
*Он ждёт Господнего суда*
*не в Хиросиме —*
*в саду, где птица и вода,*
*при серафиме!*

Юрась БАРЫСЕВІЧ

# Рэчы

## ФРАГМЕНТ З ЭСЭ

Сёння ў межах жыцця аднаго індывіда ўсё хутчэй змяняюць адно аднаго пакаленні хатніх рэчаў. Раней рэчы (а таксама словы) увасаблялі лучнасць чалавека з ягонымі наступнікамі і папярэднікамі, лад жыцця і светапогляд якіх амаль не адрозніваўся. Сёння чалавек мае нашмат больш магчымасцяў абнаўляць не толькі інтэр'ер свайго жытла, але і навакольны ландшафт (з дапамогай меліяратыўных і будаўнічых тэхналогій, пераезду ў іншы горад ці на іншы кантынент або вандровак па ўсім свеце праз тэлеэкран). Ужо мала хто жыве на той самай зямлі, на якой жылі ягоныя продкі. Калі б не склалі ў свой час геаграфічныя карты, то ўжо не ведалі б, як даўней называліся многія рэкі, лясы і пагоркі. І гэтаксама мала хто ведае назвы многіх прыладаў працы і хатніх рэчаў, якімі карысталіся людзі яшчэ некалькі дзесяцігоддзяў таму. Калі б не кнігі, музеі і гістарычныя фільмы, мы ўжо і не здагадаліся б, дзе і як жылі нашы продкі, якія тавары яны спажывалі і якімі словамі думалі.

Чалавек вызваліўся ад ціску жыццёвага досведу шматлікіх пакаленняў сваіх папярэднікаў, ад маральнага і матэрыяльнага прымусу рабіць уласнае жыццё працягам нейкай традыцыі. Аднак я мяркую, ён не стаўся праз гэта больш свабодным: ад дыктатуры гісторыі яго вызваліла, каб заняволіць, тыранія імгнення. Нам лягчэй, напэўна, паразумецца з нашымі равеснікамі з іншых кантынентаў, чым з уласнымі бацькамі і дзецьмі. Людзей адасабляюць цяпер не расавыя ці нацыянальныя бар'еры, а межы паміж пакаленнямі. У свеце хуткіх перамен чалавек адчувае сваёй радзімай не той ці іншы край зямлі, а пэўны адрэзак часу. Замест племянных татуіровак або нацыянальных касцюмаў чалавек у сучасным грамадстве павінен насіць модную вопратку, замест абрадавых песень — слухаць модную музыку, кожны сезон іншую. Не род або нацыя, а міжнародная супольнасць сучаснікаў кантралюе цяпер ягоныя паводзіны праз сусветныя інфармацыйныя сеткі і адначасны продаж на ўсіх кантынентах адных і тых жа модных тавараў. Стыль жыцця нам дыктуе ўжо не традыцыя, а мода. І патрабаванні яе не менш жорсткія: грамадства грэбуе кожным, хто не мае стандартнага набору модных рэчаў і думак.

...Сёння вельмі многія рэчы спажываюцца раней, чым іх паспеюць набыць. Адзін з вытокаў заможнасці спажывецкага грамадства — тое, што яно жыве ў крэдыт, паразітуе на ўласнай будучыні. Ж. Бадрыяр адзначае, што раней чалавек быў вымушаны шмат працаваць і збіраць доўгі час грошы, каб набыць упадабаны тавар: “Жыццё перажывалася ў пурытанскіх паняццях высілкаў і ўзнагароды. У поўнай згодзе з картэзіянскай, а таксама маральнай логікай, праца папярэднічала прадукту працы як прычына наступству. Сёння ж рэчы з'яўляюцца ў нас яшчэ да таго, як мы іх заробім, іхняе спажыванне як бы выпярэджвае іхнюю вытворчасць. Нарадзілася новая мараль паскоранага спажывання і хранічнай інфляцыі (збіранне грошай страціла сэнс); адсюль вынікае ўся сучасная сістэма, дзе рэч спачатку купляюць, а ўжо потым выкупляюць сваёй працай”.

У пурытанскім грамадстве — буржуазным або сацыялістычным — людзі з надзеяй глядзелі ў будучыню, бо адкладалі на потым усе радасці жыцця. Большасць сучасных людзей будучыні баіцца, бо ведае, што давядзецца плаціць па рахунках за тыя прыемнасці і рэчы, якія сёння спажываюцца ў крэдыт. Сучасны чалавек на Захадзе марыць не пра будучыню, а пра тое, як расцягнуць да бясконцасці сённяшні дзень.

Неверагодна хуткая (па мерках папярэдніх стагоддзяў) эвалюцыя спажывецкіх тавараў падарвала рэвалюцыйны патэнцыял грамадства. Чалавека здолелі пераканаць, што якасць жыцця вызначаецца якасцю тых рэчаў, сярод якіх ён жыве. Спажывецкую ідэалогію можна звесці да наступнага тэзіса: каб змяніць жыццё да лепшага — не трэба нічога змяняць у грамадстве, у сацыяльных адносінах, дастаткова рабіць больш дасканалыя рэчы і мець магчымасць іх набываць (а яна праз сістэму крэдытаў даецца практычна ўсім). Вядомы слоган фірмы “Філіпс” “Let's make things better!” зусім невыпадкова мае падвоены сэнс: “Зменім жыццё да лепшага!” і “Давайце рабіць лепшыя рэчы!”

Калісьці, на самым досвітку гісторыі, кожная рэч і кожнае новае слова былі вялікай каштоўнасцю, агульным багаццем усяго племя. Сёння ж чалавек ведае больш словаў, і мае больш асабістых рэчаў, чым знаёмых і сваякоў.

Амаль штодня савецкі грамадзянін меў магчымасць пераканацца, што ён не адзіны на свеце, што побач жывуць і амаль тое самае робяць, гавораць, ядуць іншыя людзі. Вельмі цяжка адчуць сябе рабінзонам у жывой чарзе, дзе да наступнага чалавека відавочна бліжэй, чым да зямлі пад нагамі і неба над галавой, не кажучы ўжо пра больш дробныя рэчы. Часам нават здавалася, што асноўная частка сусвету ўяўляе сабой аднароднае чалавечае рэчыва, у якім растварыліся іншыя формы існавання матэрыі.

Адзінае, чаго зашмат у грамадстве татальнага дэфіцыту, дык гэта людзей.

Вядома, што ў рынкавай эканоміцы эфектыўнасць працы нашмат вышэйшая, чым у планавай. Пэўна, таму што ў таталітарнай дзяржаве вытворчасцю займаюцца не толькі рабочыя, сяляне і інжынеры, але практычна ўсё грамадства — праз сістэму “шэфскай дапамогі” калгасам, суботнікаў, фабрык для інвалідаў па зроку, папраўча-працоўных калоній для злачынцаў і г.д. Уся нацыя выконвае ролю арганізаванай працоўнай сілы (а пры патрэбе — рэзерву Узброеных Сіл). У адпаведнасці з марксісцкай палітэканоміяй, і кожны асобны чалавек павінен быць татальна ўцягнуты ў працэс вытворчасці лепшай будучыні (найбольш каштоўнай для грамадства прадукцыі): усе патрэбы, пачуцці і веды чалавека павінны матэрыялізавацца ў якасці “вытворчых сіл”. У Савецкім Саюзе і фашысцкай Германіі не было беспрацоўных, кожны меў магчымасці і быў абавязаны рабіць свой унёсак у Агульную Справу, як пчала ў вулей. Таталітарная ўлада мае практычна неабмежаваныя працоўныя рэсурсы, і таму вырашае свае задачы не якасцю, а колькасцю салдат, рабочых і інжынераў. У спажывецкай жа цывілізацыі ўсялякая праца каштуе занадта высока, і таму да яе дапускаюць не кожнага. Танней перадаручыць вытворчасць машынам, а вызваленую энергію грамадства скіраваць на спажыванне.

Вытворчасць заўсёды грунтуецца на нейкім праекце, які дапамагае зазірнуць у будучыню і наблізіць яе. Спажывец не зазірае далёка наперад, ён жыве сённяшнім днём. Ягоны дэвіз — “Будучыня ўжо наступіла!” Рынкавая эканоміка павернута тварам да чалавека, а не да планавай прадукцыі, — але не таму, што яна больш гуманная, а таму, што пакуль толькі ў чалавека ёсць грошы. Машыны яшчэ не даўмеліся стварыць прафсаюзы і патрабаваць прыстойнай зарплаты за сваю працу. Але з кожным годам яны робяцца ўсё больш разумнымі...

Каштоўнасць нейкай рэчы прапарцыянальная таму, якую ролю яна адыграла ў гісторыі. Прынамсі, з чалавечага гледзішча, з якім самі рэчы могуць не пагадзіцца. Канец гісторыі, пра які любяць разважаць постмадэрністы, азначае таксама разбурэнне трывалай сістэмы каштоўнасцяў: маўляў, нічога агульнакаштоўнага стварыць ужо немагчыма, ды і раней нікому не ўдалося. З канцом гісторыі абрываюцца повязі рэчаў з адпаведнымі ім словамі і падзеямі. Шкалой каштоўнасцяў для іх робіцца не гістарычная праўда, што складаецца з чалавечых пакутаў, а віхлястая кан'юнктура рынку.

Каб людзі пакінулі трымацца адзін за аднаго, дастаткова давесці ім аднолькавасць і часовасць усіх “вечных” каштоўнасцяў, пазбавіць рэчы ўстойлівых назваў, а словы — іхняй вагі.

Ва ўмовах натуральнай гаспадаркі, а потым — планавай эканомікі мы жылі ў патыліцу адзін аднаму, але ведалі, навошта жывём, бо казалі тыя самыя словы, насілі такую ж вопратку і елі тыя самыя стравы, што і нашы суседзі.

Ягор Гайдар, лідэр расійскіх дэмакратаў і былы прэм'ер, лічыць найвялікшай заслугай свайго ўрада тое, што ягоныя рэформы “вызвалілі Расію ад чэргаў”. Сапраўды, пасля скасавання дзяржаўнага кантролю над цэнамі ў крамах сталася болей тавараў і меней пакупнікоў. Абсалютная большасць старых і безліч новых тавараў цяпер даступная без усялякай чаргі і карысных знаёмстваў усім, хто мае грошы, і зусім недасягальная для значнай часткі насельніцтва.

Неспадзяваным і найбольш непрыемным наступствам лібералізацыі цэнаў сталася тое, што людзі нечакана страцілі цікавасць адзін да аднаго (а ўскосным чынам — да літаратуры і сур'ёзнага мастацтва, асноўным зместам якіх заўсёды была драма чалавечага існавання).

Вядомае расійскае прыслоўе ў асучасненым выглядзе павінна было б гучаць так: “Не май сто сяброў, а май сто рублёў!”

Паводле “Радыё “Свабода”, нішто не служыць мэтам дэмакратыі з большай прастатой і надзейнасцю, чымсьці грошы. У Амерыцы прэстыж мае зарплата, а не прафесія ці сацыяльнае паходжанне. Галоўная шкала грамадскай вартасці людзей — хто колькі зарабляе і спажывае.

У краіне дэфіцыту ў людзей нашмат больш грошай, чым у крамах тавараў, якія яны хацелі б набыць. І духоўных сілаў больш, чым прапануемых дзяржавай духоўных каштоўнасцяў, на якія гэтыя сілы хацелася б патраціць. Таму многія людзі адчуваюць сябе нескарыстанымі, незапатрабаванымі, а некаторыя — нават непрызнанымі геніямі. У грамадстве ж масавага спажывання ўсё наадварот: прапануемыя магчымасці шырэй за ўсялякія здольнасці (і пакутніцкія, і інтэлектуальныя). Адсюль і вынікае ўражанне “здрабнення” людзей. Тавараў больш, чым грошай, а кніг больш, чым чытачоў. Замест сэрца — не “палымяны матор”, а банкаўскі рахунак, замест крыві — грошы. Чалавек спяшаецца спажыць як мага больш тавараў, уражанняў, адчуванняў — але гэта прымушае яго слізгаць па паверхні быцця: не рамантаваць пашкоджаныя рэчы, а набываць новыя, не перачытваць кнігі (на Захадзе мала хто збірае хатнюю бібліятэку, прачытанае звычайна выкідаецца), ігнараваць падрабязнасці ва ўсім, што не датычыць ягонай прафесіі, сям'і і здароўя.

Ва ўмовах дэфіцыту (у першабытным або таталітарным грамадстве, а таксама ў дзяцінстве) кожная рэч напаўняецца сімвалічным зместам, кожная існуе асэнсавана і робіць нейкую патрэбную ўсім справу. Калі рэчаў мала, свет выглядае падобным да нейкага музея: кожны прадмет выклікае працяглыя ўспаміны і мары, кожны мае калекцыйную каштоўнасць. Калі рэчаў становіцца болей — яны ўжо не паспяваюць распавесці нашаму воку пра сваё паходжанне і наканаванне. У спажывецкім грамадстве рэчаў зашмат, і таму амаль што ўсе яны выглядаюць такімі ж безасабовымі, як дарожныя ці грашовыя знакі. Цывілізацыя заможнасці будуецца з копіяў, а не з арыгіналаў. Нават прадметы раскошы выглядаюць стандартнымі. Пры дэфіцыце ж усялякая рэч мае пах раскошы. Для дзіцяці і першабытнага чалавека шкляная перліна нічым не горшая за дыямент.

Дэфіцыт адухаўляе не толькі матэрыю, але і мову. Эмігранты скардзяцца, што хутка страцілі ў Амерыцы радасць ад ліхаманкава набытых рэчаў; усе яны аказаліся занадта пустыя, “плоскія”, безасабовыя. Такімі ж здаюцца, напэўна, ледзь не ўсе артыкулы і размовы пры абсалютнай свабодзе слова. І ці не тут адна з прычын хваравітай прагі тых жа амерыканцаў да бясконцых пакупак: пры ўсёй шматлікасці набытых рэчаў чалавек паранейшаму адчувае дэфіцыт і спадзяецца (канешне, марна) чарговай пакупкай запоўніць семантычную пустату сваёй хатняй рэчаіснасці.

Дэфіцыт словаў спараджае метафары. Цэнзура ў таталітарным грамадстве і шматлікія табу ў першабытным забараняюць многія словы і ўчынкі, але садзейнічаюць узбагачэнню тых, што засталіся дадатковымі сэнсамі, надаюць словам і жэстам дадатковую глыбіню і сімволіку. Маўленне малых дзяцей і дзікуноў у нашмат большай ступені, чым у цывілізаванага чалавека, складаецца з іншасказанняў: кожны з іх, па сутнасці, з'яўляецца паэтам.

Марцін КОЎЗКІ

# Доля праўды

Што ты нарабіла, “лямпачка Ільіча”! Было сказана: “... плюс электрыфікацыя ўсёй краіны”. Але ледзь рассеялася імгла, як стала ясна: прывід, не толькі мэта, да якой ішлі, банкрут сама ўлада, якая яе абвясціла. Тут меў рацыю “крамлёўскі летуценнік” — святло вялікая сіла.

●

Немагчыма па ўскрайку ўявіць сабе веліч пушчы. Па напрамку ветру — што дзень будзе пагодны. Па адных сляпых не мяркуюць аб усіх невідушчых, а па тых, што маўчаць, — аб тых, што згодны.

●

Да выставы былога мінчаніна ў Маскве. Так званы “фотастыль” — пад стары здымак. Усё ў шэрых танах, суровая гармонія. Увайшоў у моду мастак у Парыжы і Рыме, а тут, у Мінску, не мог атрымаць правы, бо дальтонік. Якія часам манеўры адбіваюцца на мастацкіх манерах.

●

Вітаем аўтара-наватара, быццам ён запаліў мора. Але пра сённяшняе “заўтра” заўтра скажуць “учора”. Скідваем традыцыйнае на хаду, пазбаўляемся ілюзій, але, запаліўшы ваду, чым тушыць будзем?

●

Былы наш лідэр спраўляе цяпер трэбы? Дык жа і гусь, каўтануўшы вады, пазірае ў неба. А што “былы” — не трэба, ён і зараз “на грэбні”.

●

Во інтрыга: паказаў яму фігу, далікатна сагнутую, пальцам унутр. Дык не дае спакою: “як састроіў” ды “як састроіў”? А чаго тут строіць, нічога сапсутага, той жа гаршчочак ручкай унутр, па форме не спрошчана і выйгрыш у плошчы, а па масе, татуля, — паўнаважкая дуля.




ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
Мікола ГІЛЬ — *намеснік галоўнага рэдактара*
Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,
Жана ЛАШКЕВІЧ,
Алесь МАРЦІНОВІЧ,
Барыс ПЯТРОВІЧ — *першы намеснік галоўнага рэдактара,*
Віктар ШНІП — *адказны сакратар*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 2848-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 2848-525, 2331-985

**АДДЗЕЛЫ:**
публіцыстыкі — 2848-204
пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985
літаратурнага жыцця — 2848-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985
паэзіі і прозы — 2848-204
музыкі — 2848-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 2848-153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2848-462
навін — 2848-462
мастацкага афармлення — 2848-204
фотакарэспандэнт — 2848-462
бухгалтэрыя — 2366-071



**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 4282
Нумар падпісаны ў друк 25.6.1998 г. у 17.30.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 999

Заказ 3789/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12